ISSN 0234-1379

# крыніца

2
1988

## я не лішні!

## матылёк у драўляных чаравічках

## металургі і металісты

## 14 лютага — дзень закаханых

## з неспартыўнага жыцця



# РАБІНЗОНЫ НА ВОСТРАВЕ НТТМ...





Матэрыял пра Гомельскі клуб навукова-тэхнічнай творчасці моладзі чытайце на стар. 28.

Фота
**Аляксандра ЕЛІСЕЕВА**




ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**крыніца**

№2
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года





Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Вокладка Уладзіміра БЕЛЬСКАГА

**ПІШЫЦЕ:**
**220807**
**г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва, 11**

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР па справах выдавецтваў,
паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.12.87.
Падпісана да друку 22.01.88.
АТ 06035.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 6.
Ум. фарб.-адб. 18.
Ул.-выд. арк. 8,3.
Зак. 668.
Тыраж 8000 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79

# ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА



**У жыцці кожнага чалавека бываюць такія хвіліны, калі яму хочацца выказацца, папрасіць парады, супаставіць сваё меркаванне з чужым. Для такіх выпадкаў, чытач, і будзе існаваць наша «Люстраная зала». Спадзяёмся, што твае лісты-споведзі дапамогуць некаму больш пільна прыглядзецца да сябе і тых, хто жыве побач з ім, а можа быць, выклічуць нязгоду і жаданне паспрачацца. Самае галоўнае, каб нашы сустрэчы былі шчырыя. Чакаем цябе ў «Люстраной зале».**

## Я НЕ ЛІШНІ

Разгортваю газету, а яна ўся стракаціць словамі «перабудова». І з любой нагоды. Там перабудаваліся, тут перабудаваліся. Нават зайздросціць пачынаеш, бо ў нашым цэху, дзе я раблю ўжо трэці год, акрамя размоў, нічога новага. Як выпускалі мы па суботах штурмаваць, так і выходзім, як налічваў майстар зарплату сваім одумам, так і працягваецца. Як выпускалі мы нікому не патрэбныя паліто, так і працягваем гнаць. Што ж змянілася, дзе перабудова? Выступіў я на камсамольскім сходзе — мне ў адказ таварыш з парткома намякнуў, што «не наш» я чалавек, з чарвяточынкай. А я якраз лічу сябе самым што ні на ёсць нашанскім. І працаваць гатовы да сёмага поту і цяжкасці любыя пераносіць, абы толькі бачыць, што гэта не ператвараецца пасля ў паліто, якія можна надзяваць хіба што на пудзіла. Вось гэты ж самы таварыш, які мяне крытыкаваў, вельмі прыгожа гаварыў пра гонар заводскай маркі, а закончыўся сход — надзеў японскае паліто і пайшоў. Крыўдна стала. Сам ты, дзядзька, я думаю, павінен перабудоўвацца. Не ў тым, ведама ж, сэнсе, што змяніць паліто, а дамагацца таго, каб наша прадукцыя была лепшая за японскую. А гаварыць мы ўсе ўмеем. Асаджваць нязгодных — яшчэ лепш. Але я ўсё-такі не хачу быць лішнім у перабудове. Недзе ж яна ідзе па-сапраўднаму.

г. Віцебск

**Віктар Мар'янаў**

## ПАЧАК «КОСМАСУ»

**...Учора прыйшла да мяне сяброўка Алена, мы з ёю вучымся ў адным класе, у дзевятым. «Чаго ты,— пытаюся,— такая заплаканая?» Аленка і расказала мне, што пасварылася са сваім Алегам. А справа вось у чым. Яны гуляюць ужо амаль год, але апошнім часам Аленка даведалася, што Алег быў на дыскатэцы з іншай дзяўчынаю. Яна спыталася ў яго: у чым справа? Ён адказаў, што, па-першае, тая дзяўчынка заўсёды апранута «фірмова», па-другое, прыносіць яму кожны вечар пачак «Космасу». А аднаго разу і бутэльку віна. Вось Алег і сказаў, што будзе з Аленкай гуляць, калі і яна будзе прыносіць яму пачак «Космасу». Ленка спачатку згадзілася, але потым зразумела, што дзе яна кожнага дня рубель знойдзе! Я ёй параіла плюнуць на свайго Алега, а яна яго кахае.**

г. Гомель

Анжэла

## ДЗЕЦІ ЎБІРАЮЦЬ УСЁ...

Судзілі майго сына за згвалтаванне дзяўчыны. Вызначылі яму тэрмін. І сядзіць ён. А вось калі пісаць скаргі, дык пішы і спадзявайся атрымаць з любой інстанцыі адзін і той самы адказ: «Прысуд абгрунтаваны. Падстаў да задавальнення скаргі няма».

А можа, «справа» майго сына і іншых была «заказная»? Эпідэмія «сабачых вяселляў» у Гродні пайшла, а справа майго сына першая разглядалася ў судзе. Так і выйшла, як мовіў работнік суда: «Укацім ім і няхай сядзяць, а то пра нас у сталіцы падумаюць, што змагаемся дрэнна. Няхай атрымаюць болей, іншым непанадна будзе, а калі і памылімся трохі, то няхай нас паправяць вышэйшыя інстанцыі». А хто і калі папраўляў і выпраўляў памылкі?

А вынік? Больш як палова непаўнагетніх асуджаных адбываюць пакаранне за групавое згвалтаванне. Ці не стануць яны пасля «выпраўлення» патэнцыяльнымі рэцыдывістамі, усвядоміўшы ўсю несправядлівасць, неаб'ектыўнасць, суровасць суда?

Дзеці што губка ўбіраюць і чыстую ваду і бруд. Выходзіць, што адных дзяцей ратуем, як можам, а іншых (за кратамі) губім.

Але дзеці ёсць дзеці. Чакалі яны (маю на ўвазе і майго сына) амністыі, гуманнасці з боку ўлады. Чакалі, што даруюць ім перад святам, а атрымалі — нічога. Хто іх зразумее потым, калі мы іх не можам зразумець цяпер? Злыя, жорсткія, расціснутыя каткам, яны сапраўды могуць стаць у будучыні рэцыдывістамі. А вінаваты мы, дарослыя, бо судзім іх жорстка і бязлітасна, не шкадуючы чужых дзяцей, клапоцімся адно пра сваіх. Але дзеці ёсць дзеці. Вось і не сплю таму, што надта шмат іх у працоўнай выхаваўчай калоніі, і іх будучыня — невядомая, хаця пра гэтае страшнае на спатканнях з сынам сказаць не магу. Балюча ад таго, што іх надта шмат, і ўдвая больш — няшчасных бацькоў.

М. ЮРКЕВІЧ,
бацька асуджанага

## ПАТРЭБНЫЯ АСОБЫ, А НЕ КУЛЬТ!

**Нядаўна прачытаў раман «Дзеці Арбата», потым артыкул пра Фёдара Раскольнікава. Як шкада, што не ведаў усяго гэтага раней. Вучыўся ж у інстытуце, а там пра 30-я гады ўсяго толькі паўстаронкі падручніка, дый тое скорагаворкаю. Думаю, што няма нічога больш небяспечнага за паўпраўду і няма нічога страшнейшага за «гаспадара», які, стаўшы на чале дзяржавы, пачынае глядзець на яе, як на ўласны падворак. Зрэшты, разумею, што кажу не арыгінальныя рэчы, але калі-нікалі пачуеш усё ж пра тое, што нам патрэбныя «моцныя асобы». Асобы, вядома, патрэбныя, але не такія, як Іван Грозны або Сталін у тыя гады, калі ён груба парушаў ленінскія нормы і прынцыпы партыйнага жыцця. Асоба, як я разумею,— гэта чалавек крыштальна сумленны, гатовы і свой погляд да канца адстойваць, і да думкі другога прыслухацца, чалавек, які разумее, што ў час дыскусій павінны трашчаць ідэі, а не чэрапы. Усё гэта, вядома, не адмаўляе нянавісці да ворагаў, але спачатку трэба разабрацца, дзе вораг, а дзе такі ж сумленны чалавек, толькі думае ён інакш. Тады нам не прыйшлося б сёння смуткаваць з нагоды лёсу Вавілава, Тухачэўскага, Мандэльштама, Смушкевіча, Чарвякова...**

А. ВАЛОШЫН,
інжынер

## АСАДЗІ НАЗАД!

Цяпер багата развялося ліпавых стратэгаў, палітыкаў, гісторыкаў, пісак, якія ўзяліся з новай сілай дыскрэдытаваць І. В. Сталіна. Станоўчыя марксісцкія водгукі аб Сталіне ў кіно і друк трапляюць рэдка. За І. В. Сталіна гаворыць яго справы. Сталіна як ні абвяргаюць, зрабіць гэтага не могуць. Ён быў чысты і чысты застанецца, колькі б з яго ні здзекаваліся. ...Быў не культ, а была сапраўдная класавая барацьба. Дый цяпер думаюць нават у ЦК КПСС, што класавай барацьбы няма. Але М. С. Гарбачоў кажа, што трэба пацясніць бюракратаў, Сталін казаў, што трэба выгнаць з органаў кіравання бюракратаў — носьбітаў буржуазных перажыткаў. Бюракраты — гэта гніды, класавыя вылюдкі. Яны таксама кусаюцца. Таму трэба іх, як гэта робяць у простанароддзі, гарачым прэсікам, ды так, каб на развод не засталося. Але нехта зноў скажа, што гэта масавыя рэпрэсіі...

г. Слуцк

П. МАЙЛЫЧКА

## БЯСПАМЯТНАСЦЬ

**Апошнім часам у нас вельмі шмат гавораць пра гісторыю, пра народную памяць, пра тое, што нам неабходна ведаць, хто мы і куды ідзём. Усё гэта вельмі слушна. Толькі не дае мне спакою вось які выпадак. Летам мінулага года на палігоне Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута каля вёскі Казіміраўка вяліся будаўнічыя работы. Раптам экскаватар зачапіў сваім каўшом косці... Работы перапынілі. Беражліва разгрэблі зямлю і ўбачылі, што гэта астанкі двух воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі тут у дні цяжкай абароны Магілёва ў 1941 годзе. Перанеслі астанкі ў гараж, далажылі куды трэба. Але далей пачалося такое, пра што балюча пісаць. Астанкі ляжалі ў гаражы, а ваенкамат і інстытут вялі між сабою гандаль, хто ж павінен зрабіць перапахаванне. Ішлі агідныя бюракратычныя гульні, быццам гаворка была пра нешта няважнае, а не пра памяць у дачыненні да двух байцоў, якія склалі галовы за Радзіму. Скончылася гэта тым, што перапахаванне зрабілі на месцы, на полі, усталявалі бляшаны помнікам і палічылі, што справа зроблена.**

**Быў я нядаўна ў тых мясцінах. Стаіць пасярод поля помнік, чэшуць аб яго бакі каровы... Выходзіць, што спіхнулі з плеч і забыліся. А мне вядома, што захаваліся тады рэшткі дакументаў, можна было выявіць імёны байцоў, магчыма, і цяпер чакаюць іх дзесьці маткі... Але і камсамольскія работнікі і юныя следапыты не маюць, здаецца, аніякай цікавасці да гэтае гісторыі. Хоць побач поле К. Сіманава, дзе ствараецца мемарыял. Можа быць, там, а не ў полі, пад безыменным помнікам павінны спачываць гэтыя байцы! Па-мойму, яны маюць права на памяць.**

В. ПРАКОФ'ЕЎ,
рабочы

## МАЯ ДОЛЯ Ў КААПЕРАТЫВЕ

Дарагая рэдакцыя! Узяцца за пяро мяне прымусіла праблема, якая хвалюе сёння, па-мойму, вельмі многіх. Мне не ўсё зразумела з кааператывамі. У тых формах, у якіх яны выяўляюцца цяпер. Не лічыце мяне нейкім зайздроснікам, які любіць лічыць грошы ў чужой кішэні. Апроч таго, я выдатна разумею, што там, дзе праз розныя акалічнасці недапрацоўваюць нашы дзяржаўныя прадпрыемствы, ініцыятыву ўзяць на сябе павінны людзі прадпрыемлівыя. Але, падкрэслю, сумленныя, а не тыя, хто сёння, куды ні глянь, рвецца ў выканкомы, праўдамі і няпраўдамі выбіваючы сабе патэнты. Дык што, хачу ў вас спытацца: што гэта, чарговая памылка? Я разумею: калі чалавек бярэцца гадаваць жывёлу, птушку, шыць моднае адзенне — такога чалавека трэба вітаць. Але як зразумець такія кааператывы, якія купляюць у дзяржгандлі па цвёрдых цэнах якасныя прадукты (рыс, цукар, шакалад, харчовыя фарбавальнікі і г. д.), а потым усё гэта прадаюць у выглядзе досыць сумненных з пункту гледжання санітарных нормаў «вырабаў» па цэнах, якія дужа кусаюцца? Гэтыя «кааператары» кідаюць асноўную працу, робяць «казінакі», «вату — сухое марожанае» і выпраўляюць сваіх жонак прадаваць іх. Толькі сляпы не ўбачыць, што гэта самая сапраўдная спекуляцыя. Але міліцыя, яшчэ зусім нядаўна вельмі швыдкая з бабулямі-кветкаводкамі, сёння робіць выгляд, што нічога не адбываецца. Хіба гэта не крайнасць? Я разумею, што спадзявацца дужа на міліцыю ў такіх тонкіх пытаннях, як індывідуальная працоўная

дзейнасць, нельга, але ж тэндэнцыі несуцяшальныя. Каму не хочацца лёгкіх грошай? А «сухое марожанае», што б мне ні казалі,— гэта лёгкія грошы! У нас у Магілёве такія кааператывы растуць з вялікай хуткасцю. Радавацца быццам трэба, але не выходзіць. Бо з заводаў ідуць добрыя спецыялісты, людзі на асноўнай працы пачынаюць ставіцца да абавязкаў абы-як — толькі б хутчэй дадому, за машынку для прыгатавання «казінакі». Апроч таго, пачалася нейкая чахарда з патэнтамі. Іх купляюць адно ў аднаго за грошы, колісь блізкія сябры гандлююць паміж сабой «тэхналогіяй». За тысячы дзеляць рынкі збыту, даходзіць да кулакоў у барацьбе за тое, каб гандляваць на бойкіх месцах. І што самае сумнае — уся гэтая стыхія нараджае асаблівае светаўспрыманне. Многія «ітэдэшнікі», бачачы непарадак, у глыбіні душы пачынаюць думаць, што ўсё гэта з'ява часовая, што трэба каваць жалеза, пакуль гарачае і таму імкнуцца як мага хутчэй выкарыстаць сітуацыю. Але хіба нехта не разумее, што кошт вытворчасці тае ж «ваты» за сто грамаў — 3 капейкі, а прадаецца яна па 50 капеек. Уявіце, колькі за адзін толькі год мы атрымаем мільянераў. Дык калі ўжо нехта кажа, што гэта робіцца для нашых дзетак — я не веру. Ужо адкрываюцца кааператыўныя дзіцячыя садочкі. 150 рублёў у месяц. Хто аддасць туды сваё дзіця? Толькі кааператар. Дык што, у гэтым «садочку», дзе дзятву ледзь не з самых першых крокаў навучаюць англійскай мове і музыцы, будуць выхоўвацца толькі дзеці абраных? Здаецца, так. Дык навошта нам пажаскія карпусы? Гэтак, глядзіш, узгадуем саслоўе кааператараў. А нашым дзецям што ж? Па-ранейшаму чакаць чаргі на садочкі, выхоўвацца ў групах, дзе адна затузаная выхавацелька ўвіхаецца з дваццаццю дзеткамі? Мне здаецца, што трэба ўсё-такі засяродзіць намаганні на нашых дзіцячых садочках, а потым ужо любавацца «іхнім».

Можа быць, некаму не спадабаецца мая рабочая прамата. Толькі прабачце, па-другому не хачу. Можа быць, нехта са мной не згодны. Мае таварышы па цэху, якія ведаюць цану працоўнай капейкі, але не прамяняюць цяжкую работу на прыгатаванне «ваты», са мной салідарныя.

**Мікалай ЗЯЛЕНСКІ,**
брыгадзір фармоўшчыкаў завода імя Кірава

## А ЦІ НЕ МЯККІ ЗАКОН?

Людзі, хачу падзяліцца з вамі матчыным горам. Страшна мне за маю Наташу. Яна звычайная дзяўчынка, вучыцца ў дзесятым класе, марыла паступіць у педагагічны, стаць настаўніцай. Я кажу «марыла», бо ў апошні час стала мая Наташа абыякавая да жыцця, нічога яе не цікавіць, нішто не радуе. Ні сяброўкі, ні сябры. Кнігі ў рукі не бярэ. А ўсё таму, што пакрыўдзілі маю дзяўчынку... Карацей кажучы, нядаўна ў нас быў суд, на якім мая дачка апынулася пацярпелай. А судзілі яе гвалтаўнікоў, двух маладых абібокаў, якія паглуміліся з маёй дачкі. І што больш за ўсё мяне крыўдзіць, дык гэта іх паводзіны на судзе. Я разумею, што ім вельмі хацелася хоць неяк абараніцца, атрымаць меншы тэрмін, дык чулі б вы, чаго яны толькі не мянцілі пра Наташу. Што нібыта ледзь не яна сама зацягнула іх у сутарэнне, сама сабе сінякоў наставіла і адзежу парвала. Дый бацькі двух маладых нягоднікаў былі не лепшыя. Спачатку грошы прапаноўвалі, а калі я адмовілася, дык таксама пусціліся ў брудныя плёткі. Вось я і думаю: а ці не занадта мяккі ў нас закон? Бо пасядзяць гэтыя двое ў нашых добраўпарадкаваных калоніях, выйдуць, а маёй дачушцы жыццё паламалі.

**Марыя Ігнатаўна КАШАЛЕВІЧ**

ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

СПАДЧЫНА



У пасляваенных зборах твораў народнага паэта Беларусі Якуба Коласа чытач не знойдзе верша «Дубы». Існуюць дзве рэдакцыі гэтага верша. З першай можна пазнаёміцца ў зборніку «Водгулле» (Мн., 1922 г.), а з другой — у зборы твораў Я. Коласа (том 1, выпуск 1, 1928 г.). Ранейшая рэдакцыя мае адзінаццаць строфаў, новая — восем. Змены ў тэксце характарызуюцца ў першую чаргу тым, што апушчаны тры страфы, астатнія папраўкі зусім нязначныя.

Як і іншыя творы паэта, верш «Дубы» адносіўся крытыкамі-вульгарызатарамі да «актыўна-нацыяналістычных вершаў 1921—22 гг.». Сцвярджалася, што «Якуб Колас як палітычнай дзейнасцю, так і творчасцю змагаецца пад штандарамі «Нашай Нівы». Адсюль бралі выток усе абвінавачанні супраць пісьменніка: «місіянерская роля інтэлігенцыі ў адраджэнні Беларусі» («У палескай глушы»), «ідэя стварэння заможных хутарскіх гаспадарак», якая «цалкам адпавядае эканамічным ідэалам «нашаніўства» («Новая зямля»), наданне «нейкай выключнай і таемнай сілы мастаку і мастацтву», «нацыяналістычная сімволіка» («Сымон-музыка»), «адрыў ад канкрэтнай рэчаіснасці» («Казкі жыцця»), «спецыфічная і характэрная для Якуба Коласа фетышызацыя «навукі» («На прасторах жыцця»).

Багата якім творам Якуба Коласа прыпісвалася ў свой час так званая «нацыяналістычная рэфлексія», адвольна трактаваўся сэнс гэтых твораў. «Дубы» — пейзажны верш. Эзопаўскай мовай, алегарычным малюнкам Колас-лірык перадае падзеі грамадскага жыцця.

**Генадзь Тумаш**

**Якуб КОЛАС**

## ДУБЫ

На пацеху, на здзіўленне
Тут дубы стаялі,
І глыбока іх карэнні
Цвёрды грунт аралі.

І гулі іх верхавіны
Гутаркаю сталай
Пра даўнейшыя часіны
Долі заняпалай,

Пра мінулыя прыгоды
Гіблых часаў, слаўных.
Тут стаялі з году ў годы
Сведкі дзеяў даўных,

Гожым летам ці вясною
Раніцой на ўсходзе
Штосьці шапталі між сабою
Ў добрым ладзе-згодзе,—

Можа, казкі жыцця-долі
У цішы стваралі,
Або песні вольнай волі
У лістох складалі,

А мо сонейка віталі,
Дзень хвалілі новы,—
Не, не ўніклі, не ўчыталі
Іх паважнай мовы.

Эх, дубы, дубы! Вякамі
Вы збіралі сілы,
Не зваладаў віхар з вамі,
Вас здалелі пілы.

Ашальмаваны вам чолы,
Ссечаны кароны,
І, пасеўшы на верх голы,
Там крычаць вароны.

1921



КАРУНКІ ЧАСУ

**Валянцін ВЯЧОРКА**

# А ШТО КАЖУЦЬ СУСЕДЗІ?

У першым нумары «Крыніцы» надрукаваны артыкул Канстанціна Тарасава «Чаму Белая Русь — Белая?». Аўтар публікацыі пазнаёміў чытачоў з рознымі думкамі пра паходжанне назвы нашай зямлі. Адны кажуць: Беларусь называецца гэтак таму, што яе жыхары насілі белую вопратку. Іншыя мяркуюць, што слова «белы» ў гэтай назве — сінонім слова «праваслаўны». Урэшце, трэція сцвярджаюць, што «Белая Русь» значыць «незалежная», «свабодная», што Белаю стала называцца тая частка Старажытнае Русі, якая не трапіла пад мангола-татарскае іга.

К. Тарасаў, як відаць з ягонага артыкула, падзяляе погляды тых, хто тлумачыць тэрмін «Белая Русь» як сінонім слоў «праваслаўная», «незалежная», «свабодная». І аргументуе свой погляд тым, як назва «Белая Русь» паступова пераходзіла з усходу Старажытнае Русі на яе захад. Асабліва ж цікава тое, што тэрмін «Белая Русь» з'явіўся, паводле К. Тарасава, у XIII ст. А між тым да гэтага часу ў нашай гістарыяграфіі ўжыванне слова «беларускі» ў дачыненні да сучаснай тэрыторыі Беларусі раней, чым з пачатку XIV ст., лічыцца навуковай памылкай.

Што назва «Белая Русь» з'явілася ў XIII ст., сведчыць і знойдзены амерыканскім вучоным М. Колкерам рукапіс «Пачатак апісання свету». Аўтар гэтага манускрыпта — каталіцкі манах-місіянер — паведамляе, што ён прысутнічаў на каранацыі Міндоўга, а ягоны таварыш у той самы час прапаведаваў веру на Белай Русі («Alba Ruscia»). Як вядома, Міндоўг стаў каралём у 1253 г. Паколькі ў рукапісе нічога не паведамляецца пра адрачэнне Міндоўга ад хрысціянства і ягоную смерць, дык можна меркаваць, што манускрыпт складзены да 1261 г. Пра гэты рукапіс, яшчэ не вядомы беларускім гісторыкам, можна прачытаць у артыкуле Ст. Самалавічуса і Ст. Абрамаўскаса, што змешчаны ў літоўскім часопісе «Културос барай» за 1984 г.

Але вернемся да пачатку нашага артыкула. Чаму ж Белая Русь — Белая? Ва ўсіх канцэпцыях, з якімі чытачоў «Крыніцы» пазнаёміў К. Тарасаў, ёсць доля ісціны. Ды ўсё ж, здаецца, больш слушна разважае літоўскі гісторык і бібліёграф Лявас Уладзіміровас. У зборніку «Гісторыя» за 1982 год ён піша, што назвы Вялікая Русь і Малая Русь не маюць нічога супольнага ні з велічнёй, ні з веліччу. У старой славянскай традыцыі «Малая» значыць цэнтральная, раней абжытая тэрыторыя, а «Вялікая» — вонкавая, нядаўна заселеная зямля. Адсюль не толькі назвы Вялікая Русь (цяперашняя Расія) і Малая Русь (цяперашняя Украіна), але таксама Вялікая і Малая Польшча, Вялікая і Малая Масква. Вось жа і Белая Русь названа гэтак не паводле асаблівасцей краіны ці яе жыхароў, а згодна з геаграфічным становішчам: «белы» ў славянскай тапанімічнай традыцыі (тапаніміка — навука пра геаграфічныя назвы) часцей за ўсё абазначае «заходні». Інакш кажучы, Беларусь — гэта Заходняя Русь.

Калі прыняць версію Л. Уладзіміроваса (а яе прытрымліваюцца і многія іншыя), дык тэрмін «беларускі» стасуецца да ўсяго, што звязана з заходнімі землямі Старажытнае Русі. Пасля гэтага нельга называць антынавуковымі погляды тых гісторыкаў, якія называюць беларускай культуру IX — XIII стст., бо слова «беларуская» ў дачыненні да культуры таго перыяду азначае «старажытная заходнеруская». Дарэчы, Ст. Самалавічус і Ст. Абрамаўскас называюць нашых продкаў з XIII ст. беларусамі.

Карані беларускай мовы Л. Уладзіміровас бачыць як у дыялектных асаблівасцях мовы прабеларускіх плямёнаў (крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў), гэтак і ў пазнейшай гісторыі Беларусі, якая з сярэдзіны XIII да канца XVIII ст. была складовай часткай Вялікага княства Літоўскага.

Л. Уладзіміровас спасылаецца на вядомага нарвежскага славіста Хр. Станга, які сцвярджаў, што мова дзяржаўных дакументаў Вялікага княства Літоўскага ў XIII — XIV стст. характарызавалася адзінствам элементаў беларускіх і ўкраінскіх гаворак. З XV ст. у большасці дакументаў пануе паўднёвабеларуская гаворка. Пасля таго, як Украіна паводле акту Люблінскай уніі (1569 г.) адышла пад юрысдыкцыю Кароны Польскай, у дакументах Вялікага княства Літоўскага запанаваў беларускі дыялект Віленшчыны. Насычэнне гэтае мовы запазычаннямі з польскай і літоўскай надало ёй асаблівы каларыт.

Як усё ж называюць мову, якой і размаўлялі, і пісалі ў Вялікім княстве Літоўскім? У XIV — XVI стст. жыхары Беларусі і Украіны называлі сваю мову рускай. Рускай называў яе і Францішак Скарына. У другой палове XVI ст. Сымон Будны друкаваў свае кнігі на «літоўска-рускай» мове (так называў яе рускі царкоўны гісторык Макарый). У сярэдзіне XVII ст. П. Бярында ў сваім слоўніку ўжывае азначэнні «па-руску» ў дачыненні да ўкраінскай мовы і «па-літоўску» — у дачыненні да мовы беларускай. Беларускі вучоны Лаўрэн Зізаній таксама лічыў сваю мову «літоўскай». Літоўскаю нашую мову называлі ў той час і ў Масковіі. Каб не было блытаніны з сучаснаю літоўскай мовай, Л. Уладзіміровас прапануе называць дзяржаўную мову Вялікага княства Літоўскага старабеларускаю.

Адзначым, што ў беларускай гістарыяграфіі і мовазнаўстве такая назва дзяржаўнае мовы Вялікага княства — агульнапрынятая. Як бачым, і літоўскія гісторыкі спакваля мяняюць свой погляд.



Мал. Канстанціна АБРАМЧЫКА





**САВЕЦКАЙ АРМІІ І ВАЕННА-МАРСКОМУ ФЛОТУ — 70 ГОД**





# МЫ СЛУЖЫМ НА БАЛТЫЦЫ

Фотарэпартаж
Віктара ДРАЧОВА

Леанід ЕКЕЛЬ

# БАЦЬКОЎСКІ ДОМ

Адзін мой знаёмы старшыня — не балаболка, а сапраўдны гаспадарнік... з поўным «паслужным спісам» вымоў і іншых выхаваўчых мер — раптам ні з таго ні з сяго загаварыў пра «самы перадавы ўчастак, перадавейшага за які быць не можа». Звычайна практыкі, якія цудоўна ведаюць, пачым фунт ліха, ад хадавых штампаў — фронт, бітва, працоўная перамога і інш.— моршчацца, як ад болю. Гэтая траскатня далёкая ад сапраўднага становішча спраў, ад таго, што называецца праўдай жыцця. Чаму ж тады наша шчырая размова закончылася, як мне здалося, няшчырымі словамі? Аднак, паразважаўшы, я зразумеў: не фальшывіў старшыня...

Цяпер, бадай, кожны неабыякавы чалавек, які без кампрамісаў, без здзелак з абавязкам і сумленнем робіць сваю справу і патрабуе гэтага ад іншых, і ёсць на тым самым участку, «перадавейшага за які быць не можа». А фальшывяць якраз тыя, у каго аж губы сутаргай зводзіць ад жадання адрапартаваць, выкрыкнуць: «Я перабудаваўся, я жыву і думаю па-новаму». Вось менавіта яны, гэтыя ліхія «перабудоўшчыкі» і ёсць на справе супрацiўнікі перабудовы, яе самыя лютыя ворагі. У іх заўсёды пад рукой лічбы і факты, якія сведчаць літаральна аб фантастычных зменах. А засумняваешся ў іх праўдзівасці, або, яшчэ горш, прывядзеш у процівагу свае назіранні аб рэальным становішчы — і ты ўжо «не наш чалавек», ты — зласлівец, які спрабуе «асобнымі негатыўнымі фактамі» ачарніць рэчаіснасць, кінуць цень на вялікую справу перабудовы. А калі так, то, значыць, ухіляць неабходна не «асобныя факты», а шукаць управу на самога «зласліўца». Што і гаварыць: да болю знаёмы малюнак. Але ці не таму ад магутнай хвалі глабальных перамен у глыбінцы жыцця прыкметна толькі лёгкая рабізна?..

...Вось ужо дваццаць гадоў у бацькоўскі дом я прыязджаю госцем. Пабачыўшыся з роднымі, перарабіўшы пэўную работу, спяшаюся назад у горад. Там мой дом, сям'я і работа, без якой сябе не ўяўляю. Затрымацца ж на дзень-другі, каб паляжаць на сонейку, калі вяскоўцы з раніцы да ночы заняты справай, сорамна. Хоць, прызнацца, не раз назіраў, як новаспечаныя гараджане — учарашнія вясковыя хлопцы — літаральна дэманстравалі перад землякамі сваю адлучанасць ад вясковага жыцця. Маўляў, мы ўзняліся на прыступку вышэй і нам не да твару корпацца ў агародзе або гнуць спіну на бурачным участку, выдзеленым для праполкі маці-пенсіянерцы. Ды і не працаваць мы прыехалі — адпачыць на прыродзе ад гарадскога шуму. Хіба гэта не зразумела? Куды ўжо больш зразумела...

Скрозь пусціла карані скажонае ўяўленне аб шчаслівым, уладкаваным лёсе сялянскіх дзяцей. Не мае значэння, чым там займаюцца яны ў горадзе — галоўнае, каб не важдаліся з гноем; каб жылося ім лягчэй і елася саладзей, чым бацькам. Да слова, і школа ў падмурак такой вось, з дазволу сказаць, шчырай думкі закладвала свае цагліны. З «мудрай ісцінай» «Будзеш дрэнна вучыцца — пойдзеш на ферму або сядзеш на трактар» вясковыя вучні знаёміліся ўжо ў першым класе. Дык ці трэба здзіўляцца, што перамясціліся крытэрыі прэстыжнасці працы? Гарадская швачка, цырульнік, нават пасудамыйка ў сталоўцы — гучыць горда, а вось даярка або трактарыст — гэта амаль няўдачнікі жыцця. Атрымліваецца, сяляне развучыліся паважаць сваю працу і ганарыцца ёй як самым галоўным на зямлі. Так, ці што?..

Было такое. Шмат гадоў запар. І я не веру, што адразу ўсё зменіцца. Для гэтага неабходны не столькі час (чаго ў нас няма і не будзе), колькі новая эканамічная сістэма.

Толькі вось ні самафінансаванне і поўны гасразлік, ні брыгадныя і сямейныя падрады, відаць, не зробяць у сельскай гаспадарцы карэннага пералому, калі балбатня пра чалавечы фактар не ператворыцца ў рэальны, дзейсны клопат пра кожнага вяскоўца — як таго, што працуе, так і пенсіянера. Калі рашэнне добрай паловы ўсіх жыццёвых праблем кожнай сям'і не возьме на сябе гаспадарка...

Такая суровая проза, а лірыка... Яна таксама перабралася ў горад — на старонкі паэтычных зборнікаў, аўтары якіх сумуюць на асфальце па родных дубровах, рэчках ды палях.

Але колькі ні вымаўляй слова «цукар», саладзей у роце не стане. Колькі ні апявай родную прыгажосць, праца механізатара або жывёлавода не будзе прыгажэйшая, тым больш — лягчэйшая. Ды і, па праўдзе кажучы, не да вершаў і прозы гэтым вечна занятым людзям — рэдка ў іх руках бывае кніга...

З радасцю еду ў бацькоўскі дом, але амаль заўсёды пакідаю яго з пачуццём горычы і смутнай трывогі. Дзе, у якіх непраходных гушчарах і балотах заблудзіўся вецер перамен?..

...Даўно хацелася прыглядзецца бліжэй да хлебаробскай дынастыі. Каб адказаць на пытанне, чаму насуперак ліхім вятрам, якія зрываюць маладых з роднай зямлі, яны ўсё ж застаюцца ў вёсцы? Будуюць цудоўныя дамы і ствараюць моцныя сем'і.

І вось журналісцкі лёс прывёў мяне ў калгас імя XXII з'езда КПСС (цяпер на яго базе створаны саўгас) Іванаўскага раёна.

З размовы са старшынёй калгаса Мікалаем Арсенцьевічам Павельчуком даведаўся, з якой цяжкасцю станавілася на ногі гаспадарка, якая моцна ляжала на абедзвюх лапатках. Але ледзь падзьмуў вецер добрых перамен, дык адразу людзі быццам пазбавіліся апатыі. Незнішчальныя ў чалавека карані веры ў лепшае...

Надзеяй і апорай старшыні сталі такія вось сяляне, як дынастыя патомнага хлебароба Мікалая Васільевіча Барташа.

Іван — старэйшы ў сям'і. Больш за ўсё на свеце ён любіць заставацца з полем сам-насам. Калі пад рокат матора думаецца светла і вольна. Пра ўсё, што называецца простым словам — жыццё.

Слова, здаецца, простае, а колькі ж складаных паняццяў у ім! Колькі надзей, болю і трывог спрасаваны ў дні, гадзіны, хвіліны...

...Сялянскія думкі нетаропкія, і бягуць яны часцей па адным крузе. Аднак надакучлівымі іх не назавеш і адмахнуцца ад іх не ўзнікае жадання: яны — твая сутнасць. Тваё жыццё. А яно, як светлы бярозавы пералесак, праглядваецца наскрозь...

І бачыцца ясна палявая дарога пад высокім чыстым небам і басаногі хлапчук з хатулёчкам у руках. З далёкага поля нарастае гудзенне трактара. Бацька ўжо, напэўна, запрыкмеціў большанькага і ўсміхаецца сам сабе. Спыніўшыся на ўскрайку поля, ён сядае на цёплую зямлю і дзеліць немудрагелісты сняданак напалам з сынам. А сыну не да ежы: ён у кабіне. І няхай пакуль што не відаць яго з-за руля, няхай ногі не дацягваюцца да педаляў — ён шчаслівы.

Пройдзе зусім няшмат часу, і папросіць Іван бацьку ўзяць яго з сабою. Той, не сказаўшы ні слова, пасадзіць сына побач і доўга будзе матляць і трэсці яго па ўхабінах. Назаўтра старэйшы сын папросіцца на бацькоўскі трактар зноў. А потым — сярэдні і малодшы...

Служыў Іван на поўначы ў марской авіяцыі. Аб родным доме там думалася з асаблівай цеплынёю і пяшчотаю. Ён цвёрда ведаў, што вернецца да бацькоўскага парога і ніколі ўжо з ім не развітаецца. І вось прамільгнула пятнаццаць гадоў. Колькі баразнаў пракладзена за гэтыя гады! Выцягні іх у адну лінію — бадай, палову экватара апераза́ў бы. Тры апошнія гады за Іванам і яго братам Міхаілам замацоўваецца бульбяное поле. Дапамогуць ім вывезці арганіку, узараць, а далей — самі. Пасадка, апрацоўка, выбраць бульбу пасля яшчэ трэба — усё гэта на іх плячах. Што казаць, ноша такая, што цяжэйшую і знайсці, бадай, немагчыма. Не кожнаму такая праца пад сілу. Каб, скажам, правесці сляпое акучванне, трэба быць майстрам высокага пілатажу. Падзёншчыку тут не месца: усе клубні будуць наверсе.

Думкі механізатара не заўсёды дабрадушныя. Іншы раз Іван з горыччу і прыкрасцю разважае аб тым, чаму так несправядліва ацэньваюць працу трактарыста. Праца ж розная бывае. Адна справа — араць з ранку да ночы, зусім іншая — бадзяцца з прычэпам туды-сюды. А ў выніку механізатар, які за ўсё лета так і не глынуў пылу, грошай атрымлівае шмат больш за таго, хто суткамі не вылазіць з поля. Значыць, састарэлі расцэнкі, не адпавядаюць яны сапраўднаму ўкладу ў справу. Ці другое мучыць пытанне: чаму 20 працэнтаў вырашчанай бульбы ідзе на скідку? Пасля сартавання адходы нязначныя, вось механізатары і аплочваюць са сваёй кішэні тоны, якія згніюць на складах і ў сховішчах і не дойдуць да пакупніка. Але механізатары тут прычым? У чым іх віна?

Падлічыць, колькі страчана і траціцца прадукцыі вёскі — задача не звышскладаная. Але вось хто і як падлічыць маральныя страты? Калі канкрэтная праца канкрэтнага чалавека бясследна знікае, быццам вада ў пяску? Хіба не амаральныя тут заклікі быць гаспадаром, калі яго душыць пятля безгаспадарчасці? І калі, нягледзячы ні на што, ён усё ж працягвае сваю справу, то аддаць належнае трэба яго сялянскай цярплівасці, а не прыкрывацца дэмагогіяй пра новыя ўмовы працы, якія быццам выхоўваюць гаспадара. Пакуль існуе гэтая недарэчнасць, жаданае застанецца жаданым, а рэчаіснасць — рэчаіснасцю...

Міхаіл — малодшы з братоў. Яму 26 гадоў. Жанаты. Двое дзяцей (у старэйшага іх чацвёра). Пакуль сям'я жыве ў кватэры, якую даў ёй калгас. Але, напэўна, часова. Ад братоў і сястры, якія маюць уласныя хаты з добраю гаспадаркаю, Міхаіл адставаць не хоча.

— Нешта закладзена ў душы такое, што не дазволіць адарвацца ад зямлі,— спакойна, без «паказухі», як пра штосьці даўно вырашанае і неаднойчы ўзважанае, гаворыць Міхаіл.— Тут усё маё. Людзі ўсе знаёмыя. І робіш для ўсіх патрэбную справу.

— Лепш за ўсё працаваць на адным полі. Калі ніхто не ўмешваецца, калі ведаеш: чым лепей зробіш, тым вышэйшы ўраджай. Хоць... Што мы ўсё аб працы ды аб працы?.. Жыццё ж не толькі адна яна. Але толькі і чуеш: давай, давай! І з ранку да ночы!.. Ніякі гэта не працоўны гераізм, а элементарная безгаспадарчасць. Метал, і той стамляецца, а ўжо людзі... Смешна сказаць, я адпачываю ўлетку толькі тады, калі надыходзіць час пасвіць кароў. А ўсе астатнія дні — бясконцая праца. Усім ёсць замена, апрача нас, механізатараў. А калі надарыцца, што дадуць адпачынак, дык у любы час адклікаць могуць. Паспрабуеш што супраць сказаць, дык у адказ пачуеш: «Не падабаецца — не рабі ў нас. Тут цябе ніхто не трымае». І гэта не проста пагроза: пойдзеш — на тваё месца двое прыйдуць. Дык чаму, цікава мне, з гэтых вольных механізатарскіх кадраў не арганізаваць другую змену? І тэхніка працавала б без перапынку, і людзі б людзьмі сябе адчувалі. У нас тут ціхая рачулка, цудоўныя азёры (нават ракі ў адным водзяцца), лес побач — толькі нічога мы гэтага не бачым. Не для нас гэтае хараство. З Пінска прыязджаюць сюды загараць аматары прыроды, а нам застаецца адно: работа бясконцая. Ці ж правільна гэта? Адказ адназначны: вядома, не. Вядома, трэба думаць пра цэнтнеры, тоны і кілаграмы, пра нармальны стан тэхнікі і пра эканомію паліва. Але пра людзей — перш за ўсё. Таму што ўсё трымаецца на іх...

Пытаюся ў Міхаіла, а што ўваходзіць у яго абавязкі як члена ЦК камсамола рэспублікі? Ці прымаў ён удзел у працы якіх-небудзь камісій, ці, можа, выконваў якое-небудзь даручэнне? Паціскае плячыма: уключылі ў рабочую групу. Выходзіць, абралі Міхаіла Барташа на XXVIII з'ездзе камсамола рэспублікі як прадстаўніка вясковай моладзі членам ЦК і на гэтым супакоіліся. Каму якая карысць ад такога ганаровага прадстаўніцтва? Калі рэальныя паўнамоцтвы даюцца ў закансерваваным выглядзе, дык ці ж не гульня гэта ў дэмакратыю? Ці не ўчарашні гэта дзень камсамола, з таго, застойнага перыяду?..

З Васілём, сярэднім з братоў, гаманю ў яго хаце. Прасторнай, цёплай, утульнай — усё так і зіхаціць чысцінёю. І ў мэблі, і ў простых, але надзейных рэчах, якімі поўняцца пакоі, адчувалася тая сялянская важкасць, што адвяргае дарэшты ўсё лішняе, не патрэбнае для жыцця, не дазваляе слепа капіраваць гарадскі побыт.

А тут — усё відаць і ўсіх. Усё грунтоўна і стабільна. Выбар жыццёвай дарогі ў Васіля, вядома, не абышоўся без бацькі.

Цяпер Васіль — інжынер-механік, завочна вучыцца ў інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі.

Таццяна, сястра герояў маіх нататкаў, вывучылася ў Брэсце на краўчыху. Вядома, магла там застацца, але «ўсе — у горад, у горад, а мяне вось не цягнула. Усё маё жыццё прайшло ў вёсцы, і тут яму працягвацца...».

Вось такая сям'я Барташаў. Я не пазнаёміў чытачоў з Надзеяй Сямёнаўнай — мамай братоў і сясцёр. Яна не ўмешвалася ў нашыя размовы, але іншы раз маўчанне больш красамоўнае за самыя гучныя словы...

І мне падумалася: а без іх жа, працоўных, сямейных дынастый, наша шматпакутная вясковая гаспадарка — што поле, не засеянае хлебам. Не абарваць бы жывую повязь, не падсекчы карані. Каторы ўжо раз...



Фота Віктара ДРАЧОВА



Алена САЗАНОВІЧ

# КОЛЬКІ ТРЭБА ДЛЯ ШЧАСЦЯ?..

...Шмат, шмат, шмат. Шмат грошай. Мы ніколі і не бачылі столькі. Хіба што ў сне. Раскіданыя па асфальце. Уперамешку з мокрым лісцем. Яны нагадвалі паштовыя маркі. Шмат-шмат грошай. З іх можна зрабіць караблікі і пусціць па моры. З іх можна зрабіць самалёцікі і запусціць у паветра. Але гэта занадта паэтычна. І занадта сентыментальна. А яны не вартыя нашых слёз. Ці нашы слёзы не вартыя іх?..

Грошы, грошы, грошы. Маленькія, вялікія. Звіняць, храбусцяць. Чырвоненькія, зялёненькія. Прыкручаныя, прымеркаваныя. Грошы...

...У яго амерыканская ўсмешка і белыя зубы. Ён можа спакусіць жанчыну. Яна яго — наўрад ці. Ён разумее, што хоча ад жыцця. Хоць жыццё наўрад ці разумее, чаго ад яго хоча ён. Яго завуць Яўген. Можна проста Жэня. Ці Жэнечка. Як хто захоча.

— Ты заўсёды ўсміхайся. Жыццё ж такое цудоўнае,— кажа Жэня і ўсміхаецца.

Я раблю «cheese» разам з ім.

Вы робіце «cheese» разам з намі. Бо гэта ж так весела — жыць.

— Я люблю грошы. Люблю прыгожыя рэчы і прыгожых жанчын,— усміхаецца Жэня.

Прыгожыя рэчы і прыгожыя жанчыны — заўсёды побач. Вы ўсміхайцеся, рабіце «cheese».

Зрэшты... Зрэшты, на гэтым можна паставіць кропку і ад сябе дадаць:

«Ах, як гэта жудасна! Мы, выхаваныя на такіх ідэалах! Мы... — і яшчэ процьма клічнікаў. Мы...— і захлёбваючыся. Мы...— і пляснуўшы ў далоні. Мы...— і грошы? Ды пры чым тут грошы? Дый не гэта галоўнае ў жыцці. Не дзеля гэтага жывём і жылі. Ды лепш ужо ўвогуле быць жабраком, але мець «высокую душу».

— Вы хочаце быць жабраком? А вы, а вы, а вы?

Лепей давайце зробім разам «cheese». Бо жыццё такое цудоўнае.

А што Жэня?.. Ах, Жэня. Ён цынік. Вы ведаеце, ён дзеля грошай мастацтву здрадзіў. А пра яго раней казалі: талент. А ён свой талент на кааператыў прамяняў. Пісаў таленавітыя карціны. Цяпер «малюе» грошы. (Але ж таксама таленавіта, яшчэ як таленавіта!)

Мы сядзім у кепскім кафэ. Безгустоўны інтэр'ер. Хістаецца ўлева-ўправа наш стол.

— Я не магу ў другое кафэ цябе запрасіць,— кажа мне Жэня.— Таму што ў другім — тое самае.

Жэня — мастак. І я яго разумею. Хоць цяпер ён — адзін з вядучых кааператараў горада. Хоць цяпер ён — дзялок і бізнесмен. Але ўсё роўна ён — мастак.

Ах, так! Я не пра тое кажу? Хіба можна змешваць мастацтва і грошы? Узнёслае і зямное? Ну, тады рабіце «cheese» і забудзьцеся на мае словы.

— Жэня, колькі табе не хапае для шчасця?

— Адзін у лужыне патоне. Другі — у акіяне выплыве. Аднаму і капейкі досыць. Другому — мільёна не хопіць.

Што табе сказаць?

Грошы — як кроў. Завышаная доза — дрэнна. Заніжаная — смерць. Патрэбна норма. А нормы не бывае...

У маёй кішэні ляжыць чырвонец. Колькі рук дакраналася да майго чырвонца? Чысценькіх, брудненькіх. Пульхных, тонкіх. Халодных, цёплых. Мне стала непрыемна. Тое самае, што насіць адну рэч на ўсіх. Я пазбаўлюся чырвонца. Але на яго месца ў маю кішэнь улягуцца іншыя грошы. Неасабістая асабістая ўласнасць. І не выкінеш проста так!

— Грошы — гэта сэнс жыцця,— кажа мне Жэня і не ўсміхаецца. Я прыкмеціла, што ён ужо даўно не ўсміхаецца сваёй амерыканскай белазубай усмешкаю. Нават калі глядзіць на наш недарэчны стол, які ўсё хістаецца і хістаецца.— Але грошы — не галоўнае ў жыцці. У жыцці ёсць пачатак і ёсць канец. А грошы паскараюць або запавольваюць гэты працэс. Гэта каталізатар жыцця. Каб гарэла свечка — патрэбны запалкі. Так. Грошы — гэта сэнс жыцця, але не галоўнае. Гэта глеба, на якой вырошчваецца ўсё. І здароўе, і каханне, і сям'я, і праца, і мастацтва. Грошы патрэбны дзеля таго, каб пра іх не думаць. Кахаць — і не думаць пра недахоп грошай. Аддаваць сябе працы — і не думаць пра недахоп грошай. Займацца творчасцю — і ведаць, што з грашыма ўсё ў парадку.

Ты бачыла калі-небудзь шмат грошай? У сне? У нас мала хто бачыў шмат грошай.

Хіба толькі, калі іх вырошчваць на паўднёвай глебе. І таму грошы для нас — мара. Мара, з якой сыходзяць усе астатнія жаданні. Але пачатак — грошы. Дык вось. Каб яны не былі марай, яны павінны быць. У норме. Як частка цела, як кроў, як жыццё. Але не як мара...

Я згадала свае мары. Мне здалося, што яны шапацелі, храбусцелі, вабілі. Яны, выходзіць, былі папяровыя, мае мары.

— Жэня, а табе не здаецца, што грошы разбэшчваюць? Паглядзі на суседні столік. Напіваюцца. За гэтыя самыя грошы. Заўтра яны не нап'юцца. Таму што заўтра ўжо не будзе грошай. А калі б былі... дык кожны дзень так?.. Дый не толькі пра п'янства гаворка...

— А што рабіць? Ты бачыла іншыя задавальненні? Ты бачыла шыкоўныя басейны, бары, яхты, тэнісныя корты?.. Хай я за гэта буду плаціць, але хай гэта будзе. Тады я не буду прапіваць свае апошнія грошы ў гэтым паскудным кафэ дзеля ілюзорнага задавальнення. Тады я не буду дрыжаць за заўтрашні дзень і марнаваць тым часам сённяшні. Назаўсёды марнаваць. Тады я ніколі не прамяняю мастацтва на грошы...

— А ўсё-такі прамяняў?

— Ты нічога не зразумела. Нічога. Ты не зразумела, што іншы раз мне хочацца помсціць. За што? За тое, што мяне знявечылі. За тое, што я, мастак у мінулым, цяпер сяджу і размаўляю з табою пра грошы. За тое, што я ўжо не змагу быць ранейшым. Ніколі. За тое, што грошы сталі марай, а не вопраткай. Скажаш, што я не знайшоў сілы выстаяць? Хлусня! Калі нявечаць юначыя душы, хіба можна выстаяць?..

Вось яно. Вось. Можа быць, з гэтага і трэба было нам пачынаць размову? Жэнечка, Жэня, Яўген. Прыгожы, разумны, дужы. З таго, што і мяне ў чымсьці знявечылі. І яго, і яе, і іх, маіх калючых равеснікаў. З таго, што многім з нас хацелася страляцца. Хтосьці гэта зрабіў. Хтосьці прыстасаваўся і прыціх. Хтосьці, як і ты, Жэня, плюнуў на ўсё і стаў проста рабіць грошы. Каб проста жыць. Але хіба вярнуць нас, ранейшых? Нармальных. Накормленых. Пушкіным і Талстым. Настаўніцкімі казкамі пра гонар і сумленне. Маміныні і татавымі маралістычнымі павучаннямі. І ніколі ані слова — пра грошы. Бо грошы нявечаць! Губяць! Разбэшчваюць! Але, як ні дзіўна, знявечыла маўчанне пра іх. Знявечыла тое самае ўзнёслае, а не зямное.

І вось мы. Бярыце нас. Безгаловыя, бязрукія, сляпыя. І вунь пакрываюцца пылам на антрэсолях Пушкін і Талстой. І дзесьці ў каморцы засталіся вісець на кручку так і не выкарыстаныя словы пра сумленне, гонар, мараль.

І ўвогуле? Што такое грошы? Не гэта ў жыцці галоўнае. І навошта ўвогуле заводзіць пра іх гаворку? Альбо яны ёсць, альбо іх няма.

— Ленка, а ведаеш, што самае-самае цудоўнае ў жыцці? Купіць катэдж на беразе мора, завесці сабаку. Разводзіць кветкі. Чытаць вершы па вечарах. Цалаваць каханую жанчыну раніцай. Гэта праўда. І наўрад ці каму гэтага не хочацца.

...Вам не падабаецца? Судзіце яго.

— Але ты, вядома, пра гэта не пішы. Напішы, што галоўнае — гэта знайсці сэнс у жыцці. І яшчэ — здароўе. І цябе зразумеюць. А грошы — гэта лухта. Тым больш, што ніколі мы іх не бачылі, сапраўдных грошай. Г р о ш а й. Хіба што ў сне. Кашмарным сне.

Ну, давай на развітанне зробім разам «cheese» і ніколі не памяняем выраз нашых твараў. Няхай нашы твары заўсёды будуць вясёлыя, сытыя, прывабныя, няхай яны заўсёды храбусцяць і шапацяць. Адным словам, няхай яны заўсёды будуць папяровыя.

Зрабіце і вы разам з намі «cheese». Бо жыццё такое цудоўнае! Нават без гэтых пакамечаных, праклятых паперак...





Уладзімір ГРАЎЦОЎ

# «ВАС ПАСАДЗЯЦЬ!..»

## ЗАПІСКІ ДЫРЭКТАРА ШКОЛЫ

Праводзіўся ўрок літаратуры ў дзесятым класе. Асноўнай мэтай урока была «сувязь з сучаснасцю», і я вырашыў наладзіць «дзелавую гульню», своеасаблівы «тэлемост».

Клас размеркаваўся на дзве палавіны: адна з іх прадстаўляла «савецкіх пісьменнікаў», другая — «заходніх, буржуазных». Тэма дыскусіі — «Свабода творчасці». Я наперамену дапамагаў то «нашым», то «іхнім». Быў узрадаваны, што знайшоў цікавую, дынамічную форму для гэтай даволі нялёгкай і, на першы погляд, дастаткова сумнай тэмы, і ўжо наперад цешыўся тым, як без дыдактыкі, без надакучлівай павучальнасці прывяду вучняў (а дакладней, самі яны з маёй дапамогаю прыйдуць) да разумення сапраўднай, а не абвешчанай свабоды пісьменніка ў буржуазным грамадстве. А калі яны да таго ж яшчэ і атрымаюць навыкі вядзення дыскусій з ідэалагічнымі праціўнікамі, дык і наогул будзе здорава!

«Тэлемост» пачаўся. Пакуль я быў на баку «нашых», «савецкія пісьменнікі» без асаблівай цяжкасці ўшчэнт разбівалі нясмелыя наскокі «захаду». Хутка, аднак, у «заходніх пісьменнікаў» імпэт пачаў спадаць, і я вырашыў ім дапамагчы.

— Ну хай сабе,— прыняў я паставу і заняў пазіцыю «свабоднага заходняга літаратара»,— усё яно зразумела: і высокая ідэйнасць савецкіх пісьменнікаў, і сувязь іх з народам. Але (тут я перачакаў каварную паўзу) вашы пісьменнікі не маюць свабоды творчасці! А пішуць яны па ўказцы партыі!

Сыграўшы сваю ролю, я змоўк і з чаканнем пазіраў на клас. «Ну, трымайся,— падумаў,— зараз пачнецца!» Раней жа на кожным уроку, вывучаючы творчасць любога пісьменніка, я заўсёды выбіраў некалькі хвілін, каб азнаёміць вучняў з тым, як трактуецца творчасць гэтага пісьменніка заходнімі саветолагамі, і мы разам (так мне ва ўсякім разе здавалася) аналізавалі, даказвалі памылковасць іх поглядаў. Таму я і быў перакананы, што атрымаю зараз, як махровы саветолаг, належны адпор, што клас «выбухне».

Клас, аднак, выбухаць і не думаў, а надзіва дружна прыціх і пазіраў на мяне вельмі насцярожана.

— Ну што ж вы гэта, га? — выгукнуў я... На «маё» абвінавачванне яны мелі ў адказ неаспрэчны, пераканаўчы аргумент — словы Міхаіла Шолахава, сказаныя ім пры ўручэнні яму Нобелеўскай прэміі па літаратуры. «Мы, савецкія пісьменнікі,— сказаў тады Шолахаў,— пішам па ўказцы свайго сэрца, а сэрцы нашыя належаць партыі!» Яны ж нядаўна... 

Аднак тут паднялася са свайго месца адна зусім сур'ёзная, вельмі старанная дзяўчынка, якая заўсёды ў тэрмін здавала сачыненні — «правільныя», без аніякіх хібаў — і ўсхвалявана, спалохана падала голас:

— Вас... пасадзяць, Уладзімір Маркавіч!

У мяне дух заняло. Не са страху, вядома, што мяне «пасадзяць» — тады трэба было б «пасадзіць» і педагога-наватара Ільіна, і ўсе маладзёжныя рэдакцыі газет, часопісаў, тэлебачання, якія актыўна падымаюць праблемы сапраўднай ідэйнай перакананасці моладзі і яе ўмення адстойваць свае перакананні перад любымі апанентамі. Не, спалохаўся я іншага. Калі паспелі гэтыя шаснаццацігадовыя хлопцы і дзяўчаты, што ні разу ў жыцці не бачылі і не ўяўляюць сабе **як сапраўды** год гэтак пяцьдзесят назад чалавека за слова, за намёк маглі арыштаваць і пасадзіць, калі і як паспелі **яны** стаць такімі асцярожнымі, запалоханымі, такімі... надламанымі?!

Я ўзіраўся ў іх твары. У іх, у шаснаццацігадовых, былі патухлыя, змяркальныя позіркі.

...Дыскусія на гэтым скончылася, і ўвесь астатні час урок цягнуўся вяла, абы-як. Мы стараліся не глядзець адно аднаму ў вочы, бо адчувалі ўзаемную збянтэжанасць. Нібыта ўголас мы выказалі нешта такое, пра што **дарослыя** людзі ведаюць, але маўчаць, захоўваючы кімсьці (грамадствам? эпохай? школай?) прыдуманыя правілы і прыстойнасць.

Выпадак гэты адбыўся са мною ў першы пасля заканчэння універсітэта год работы ў сельскай школе, і таму я доўга не мог супакоіцца, мучыўся ў недаўменні: у чым усё-такі прычына майго відавочнага педагагічнага правалу?

На тэлебачанні зусім ужо асмялеў быў «12-ты паверх», ставячы ў няёмкае становішча паважаных міністраў, чуліся палымяныя, як у 20-я гады, прамовы на канферэнцыі камсамоль-

Заканчэнне на стар. 15




**Анры Гуго (нарадзіўся ў 1936 г.) — французскі пісьменнік, літаратуразнаўца, крытык. Вядомы ён і як аўтар слоў шматлікіх эстрадных песень, што гучаць у выкананні Жульеты Грэко, Жана Фера і інш.**

**Пяру Анры Гуго належаць кнігі: «Дэманы і цуды навуковай фантастыкі» (1974), «Вялікі ад'езд» (1978), «Сонечнае дрэва. Легенды ўсяго свету» (1979).**

**Літаратурная дзейнасць Гуго адзначана «Вялікай прэміяй за лепшы твор чорнага гумару», а таксама Ганкураўскай прэміяй навелы (1978).**

12 верасня 1322 года манах Сікрэ, сакратар суда святой інквізіцыі горада Тулузы, вёў пратакол допыту Жана Цісрана. Справа была самая звычайная, калі не сказаць дробная. Пра гэта сведчыла і спакойная атмасфера, якая панавала на працэсе. Праўда, Жан Цісран абвінавачваўся ў даволі рэдкім злачынстве, аднак здзейснена яно было без умяшання сатаны, і таму, напэўна, галоўны абвінаваўца епіскап Турб'е — хударлявы суровы чалавек не надта багатага, але надзвычай вострага розуму — лагодна, амаль што па-бацькоўску вёў допыт. Такую лагоднасць у наш час зрэдку дазваляюць сабе камісары паліцыі, калі маюць справу з маладымі неспрактыкаванымі злачынцамі. Падобна было, што змірыўся са сваёй няшчаснай доляй і Жан Цісран, які ўсё жыццё быў парабкам і наймаўся на службу да заможных людзей. Вось якія паказанні ён даў на судзе:

— Перад самым вялікаднем з волі боскай і ласкі пробашча царквы святога Эцьена быў я прыняты на службу. Занятак мой быў вельмі просты: штодня пасля вячэрняй службы павінен я быў прыбраць, падмесці ды памыць падлогу ў царкве. Неяк апоўначы, калі ўсе ўжо даўно разышліся, я заўважыў ля калоны чалавека ў дарагой вопратцы. Ён паказаў мне знакам падысці бліжэй. Я падышоў, асвяціў ліхтаром яго твар і не паверыў сваім вачам: перада мной стаяў пан Гіём Даві — знатны купец, у якога я калісьці служыў. Усю маю істоту ахапіў жудасны страх, бо я добра ведаў, што пан Гіём Даві паўгода таму назад памёр. Я ўпаў на калені і пачаў маліцца, ні на секунду не сумняваючыся, што перада мной прывід нябожчыка.

Ён ціхенька папрасіў мяне ўстаць і сказаў вось гэтыя словы:

«Дарагі Жан, перад табой здань мая, якая вярнулася з таго свету, каб папрасіць цябе зрабіць мне адну паслугу. Незадоўга да маёй смерці я пазычыў чатыры залатыя экю ў свайго дваюраднага брата Арно, якога ты добра ведаеш. Не паспеў я вярнуць гэты доўг. Таму прашу цябе: сёння ж зайдзі ў мой дом. Там, у матрацы на маім ложку, ты знойдзеш кашалёк. Вазьмі яго і занясі Арно. Папрасі ў яго прабачэння за такую затрымку і перадай, што я яму вельмі ўдзячны».

Я паабяцаў пану Гіёму, што зраблю ўсё, як ён прасіў. Трохі пасмялеўшы, запытаўся ў яго, ці даводзілася яму сустракаць на тым свеце анёлаў і д'яблаў. Ён неяк жаласна паглядзеў на мяне, нічога не адказаў і знік з маіх вачэй. Больш я яго ніколі не бачыў.

— А ці ведаеш ты, сын мой,— з усмешкай спытаў епіскап Турб'е — (ох, як добра я сабе ўяўляю гэтую паблажлівую епіскапскую ўхмылачку),— ці ведаеш ты, сын мой, што не ў каталіцкім гэта звычаі — сустракацца з нябожчыкамі? Маці наша царква вучыць, што месца нябожчыкаў дзе? Або пекла, або чысцец, або рай. Ніякіх прывідаў і зданяў нябожчыкаў мы не прызнаём, а значыць, бачанні твае, сын мой, ерэтычныя.

З пакорлівай наіўнасцю, уласцівай беднякам, Жан стаў прасіцца:

— Няхай бог бароніць мяне ад ерасі, монсеньёр! Усё жыццё быў я аддаены царкве. І цалкам пагаджаюся з вамі, што бачанні мае не да твару сапраўднаму каталіку. Прашу Вас, монсеньёр, лічыце, што ніякіх бачанняў у мяне не было.

— Але ж,— зноў загаварыў епіскап Турб'е,— пан Арно засведчыў нам, што нябожчык Даві быў вінен яму чатыры залатыя экю, якія ты яму і вярнуў. Якім жа чынам даведаўся ты, што Гіём Даві пазычыў гэтыя грошы ў Арно?

— Монсеньёр, я пра гэты доўг нічога не ведаў. Ды і як мог я пра гэта ведаць, калі ўжо два гады не служу ў Гіёма Даві?!

...На гэтым пратакол допыту Жана Цісрана заканчваецца. Хутчэй за ўсё інквізітар стаміўся ад шчырых прызнанняў сваёй ахвяры, спыніў усе размовы і засудзіў бедалагу на дзесяць гадоў ссылкі.

Жан мусіў пакінуць горад і стаў бадзягай. Сляды гэтага чалавека згубіліся б канчаткова, калі б яго не падабраў адзін вясковы святар. Жан ужо гатоў быў памерці з голаду і холаду. Гэты святар прыняў споведзь бадзягі і палічыў яго душэўныя пакуты такімі надзвычайнымі, што апісаў іх на пергаменце. Вось што гаворыцца ў гэтым дакуменце, які нядаўна быў знойдзены ў руінах адной пірэнейскай царквы археолагам Жэрменам Солісам:

«Я, Жан Цісран, прызнаюся, што ў 1322 годзе ў царкве святога Эцьена бачыў прывід майго былога гаспадара, нябожчыка Гіёма Даві. За тое, што я з хрысціянскае міласэрнасці згадзіўся выканаць адну невялікую просьбу вышэйпамянёнага прывіду, мяне судзілі, прызналі ерэтыком, і епіскап Турб'е выслаў мяне з Тулузы. Без грошай, без харчу, без добрай вопраткі доўга бадзяўся я па краіне і, нарэшце, дайшоў аж да Міжземнаморскага ўзбярэжжа. Тут і заспела мяне зіма. Чаго я нацярпеўся, колькі гора хлебануў — аднаму богу вядома. Як не хацелася мне паміраць на чужыне! Шмат перадумаў я, доўга сумняваўся і такі адважыўся парушыць закон ды вярнуцца ў Тулузу. І вось па дарозе ў родныя мясціны даведаўся я, што некалькі месяцаў таму назад епіскап Турб'е аддаў богу душу. Скажу шчыра: навіна гэтая мяне зусім не засмуціла. Я нават падумаў тады, што сам лёс, нарэшце, усміхнуўся мне, і смялей рушыў дамоў. Ды дарога была не блізкая. А галодны, зняможаны, я ўжо ледзьве валок ногі. Ох, як няпроста было дапрасіцца ў людзей хоць лустачкі хлеба! Аднаго разу спыніўся я вечарам на начлег у нейкай пустой аўчарні. Сеў на парозе, загараваў, задумаўся і раптам бачу: ідзе да мяне высокі хударлявы чалавек у мантыі, вышытай золатам. Баючыся, што перада мной зноў прывід, я заплюшчыў вочы, каб, не дай божа, яшчэ раз не ўпасці ў ерась. І тут пачуўся знаёмы лагодны голас:

— Жан Цісран, паглядзі на мяне, я не прычыню табе ніякага зла.

Я расплюшчыў вочы: перада мной стаяў епіскап Турб'е! Ад жудасці я задыхнуўся і ледзьве здолеў прашаптаць:

— А-а-а, хіба вы не нябожчык?!

— Так яно і ёсць, сын мой,— горка прамовіў епіскап.— Мне патрэбна твая дапамога.

— Монсеньёр,— у адчаі заенчыў я,— я столькі адпакутаваў з Вашай ласкі! Не ўблытвайце мяне ў Вашы справы! Малю Вас!

Тады ён папрасіў мяне дараваць яму, што я ахвотна і зрабіў. Ён хацеў, каб я вярнуўся ў Тулузу і сустрэўся там з адной знакамітай дамай, імя якой я не хацеў бы называць. Даме гэтай мне трэба было перадаць, каб яна пры зручнай нагодзе зайшла ў епіскапскі дом і ў адным патаемным месцы, якое падрабязна было мне апісана, узяла пэўную суму грошай на выхаванне сына, якога яна мела... ад епіскапа... Ніколі не ўзнікала ў мяне жадання выканаць гэтае даручэнне. Ад цяжкай хваробы паміраю я ў гэтым прыветным доме і дзякую богу, што не ерэтыкам, а шчырым каталіком адыходжу ў свет лепшы...»

На гэтым споведзь абрываецца. Пергамент, на якім яна запісана, быў надзейна схаваны. Пра гэта паклапаціўся бедны вясковы святар, які ў цяжкую гадзіну даў Жану прытулак у сваім доме. Я сказаў: бедны. Гэта не зусім так. Справа ў тым, што бедным ён ужо не доўга заставаўся. Ён сам выканаў тое, што даручалася Жану. Але толькі напалову. Свяшчэннік (мы ведаем нават яго прозвішча: Сары) наведаў епіскапскі дом у Тулузе і забраў з тайніка грошы, прызначаныя на выхаванне незаконнанароджанага сына Турб'е. За тыя грошы ён купіў сабе ў хуткім часе сан епіскапа. Шмат хто лічыць, што такім чынам сам бог аддзячыў яму за дабрачыннасць і любоў да бліжняга. Можа, яно і так... А яшчэ праз некалькі гадоў ён атрымаў пасаду галоўнага абвінаваўцы ў судзе святой інквізіцыі...

**Пераклаў з французскай Леанід КАЗЫРА**



Мал. Аляксандра ЛЬДОКАВА

# «ВАС ПАСАДЗЯЦЬ!..»

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 13**

скай арганізацыі маскоўскага завода імя Ліхачова, вучні і студэнты дыскусіравалі пасля п'ес Шатрова, а тут... цішыня і духоўная кволасць.

Але чаму? Таму, што сельская школа?

— Што ж, гэта зразумела,— уздыхнуў мой былы аднакурснік, з якім правялі мы не адну бяссонную ноч у распаленых дыскусіях і якому распавядаў я пра гэты выпадак.— Апаліў, зламаў ім душы «застойны перыяд» — уся гэтая мана, двурушнасць, калі ў газетах, на ўроках — адно, а на справе, у жыцці — зусім іншае.

— Але чаму ж тады мы, мы, якім сам бог наканаваў тады зламацца — усе ж нашы школьныя і студэнцкія гады прыйшліся на **застойны** перыяд — не зламаліся? — не разумеў я.

— Не ведаю,— задумаўся аднакурснік.— Магчыма таму, што мы **падтрымлівалі** сябе літаратурай, з яе даведваючыся пра тое, як яно павінна ўсё быць на самай справе. І таму мы разумелі, як яно на самай справе ёсць. Хоць што мы ўрэшце з табой цямілі?..

Ён сцепануў плячыма і змоўк.

...Летась я стаў у гэтай школе дырэктарам. Між лавінамі ўсялякіх адміністрацыйна-гаспадарчых спраў выбраў я неяк час і зайшоў ў дзіцячы садочак — зірнуць на тых, хто ў будучым годзе прыйдзе да нас у «нулявы» клас.

Дзеці малявалі, пасля пачалі весела гуляць, скакаць. Я разглядаў іх малюнкі, і позірк мой затрымаўся на самым кідкім з іх.

— Дзеці,— спытаўся я,— хто намаляваў гэты сланечнік? — І, баючыся, што слова гэтае ім пакуль невядомае, дадаў: — Гэтую расліну?

— Гэта не расліна! — закрычалі дзеці ў адзін голас.— Гэта сонейка!

— Гэта ўзрост у іх такі — ва ўсім пярэчыць,— засаромелася маладая выхавацельніца.— Вы не звяртайце ўвагі. З часам яно пройдзе...

Яшчэ раз, аднак ужо больш уважліва зірнуў я на малюнак і — о, цуд! — сапраўды ўбачыў на ім сонейка. Проста для таго, каб яго ўбачыць, глядзець трэба было трошкі не так, як звычайна.

І міжволі падумалася: праз год прыйдуць яны ў школу. У школу, дзе я дырэктар. Дырэктар... Ці ў маіх сілах зрабіць так, каб яны заўсёды бачылі тое, што ёсць на самай справе — сонейка, а не сланечнік? І мелі б смеласць казаць усім і кожнаму, што гэта сонейка, калі нават усе будуць даводзіць, што гэта нейкая расліна?

Не ведаю. Калі не, тады навошта я пра тое думаю?.. Навошта тады наогул усё гэта?!.

**Пагарэльская СШ, Асіповіцкі раён**

# Хто навучыць ГАЛКІНА?

## ГІСТОРЫЯ З ПРАДГІСТОРЫЯЙ

Іх было двое: не ўздымалі гвалту, не хуліганілі, ціха сядзелі ў скверы, калі пад'ехала міліцэйская машына і спынілася воддаль. Далей усё прanеслася, як у ліхім дэтэктыве: хлапчукоў схапілі, запіхнулі ў машыну, прывезлі ў аддзяленне. Потым у школу прыйшло прадстаўленне, і пасля некалькіх гадзін пасяджэння камітэт камсамола вынес рашэнне: «Шаткіну і Занькову вынесці строгую вымову». Ішла апошняя чвэрць апошняга для дзесяцікласнікаў навучальнага года. Райком камсамола настойваў: выключыць абодвух з радоў ВЛКСМ, бюро ўжо і рашэнне прыняло, але тут умяшалася дырэктрыса...

У гэтай дзіўнай, на першы погляд, гісторыі ёсць і свая прадгісторыя. Раён, дзе знаходзіцца школа, відавочна неспакойны. Многія з тутэйшых «абарыгенаў» у нядаўнім мінулым пакінулі «месцы не такія ўжо аддаленыя...». Што тут казаць: суседства для школьнікаў не самае спрыяльнае.

І вось, на свой страх і рызыку, каб спыніць перыядычныя вылады «гаспадароў мясцовасці» супраць хлопцаў, якія наведвалі школу, дырэктар, параіўшыся з педсаветам і камітэтам камсамола, прымае рашэнне: адчыніць дзверы школы для моладзі мікрараёна.

Цяпер кожны вучань мог запрасіць на школьныя ўрачыстасці свайго знаёмага, прыяцеля, але пры адной умове: за запрошанага адказвае ён сам.

Вынік быў нечаканы для ўсіх: паміж школьнікамі і раённымі падлеткамі ўсталяваўся жаданы мір. Так што не было нічога дзіўнага і на гэты раз у тым, што названыя раней дзесяцікласнікі апынуліся ў адной кампаніі з нейкім Шаргуковым, які вярнуўся сюды пасля адбывання тэрміну пакарання.

Яго дырэктар таксама памятала і ведала. Як высветлілася, ён і прапанаваў яе вучням адзначыць сустрэчу, пра якую ніхто, можа, і не даведаўся б, калі б не выпадковы збег абставін. Хлапчукі затрымаліся ў скверы, а дзяжурны нарад міліцыі тым часам шукаў хуліганаў... Не да разбораў, хто ёсць хто, дзяжурным было: забралі дзесяцікласнікаў.

Так — па чыстым непаразуменні — іх і выкрылі з выпіўкай. Так, напярэдадні выпускных экзаменаў, яны і зарабілі сабе персанальную справу.

І што вы думаеце? Адчайна абараняла вучняў у гэтай сітуацыі не хто іншая, як дырэктар.

— Я ж бачыла, што абодва перажывалі тое, што здарылася, як трагедыю. І потым... Каму лепш ведаць, што з імі рабіць: мне ці райкому?.. Таварышам ці незнаёмым людзям?.. Чужыя, таму і секлі з пляча: выключыць! Але як не зразумець, што пакаранне не адпавядае правіннасці! Што зламаць, перагнуўшы палку, можна. Аднавіць без стратаў — нельга...

Прызнаюся, такога я не чакала: занадта часта прыходзілася мець справу з дырэктарамі прынцыпова іншага складу. Але каб адпаведнасць правіннасці пакаранню ўсталёўвалі, ды яшчэ настойваючы на захаванні гэтай адпаведнасці...

Усё-такі дамаглася дырэктрыса паўторнага пасяджэння бюро райкома, якое жадала спачатку «пакараць», і яго згоды з рашэннем школьнага калектыву «памілаваць». Праз два месяцы хлопцы назаўсёды развіталіся са школаю, а ўвосень пайшлі ў армію. Не сумняваюся, што пайшлі яны са школы з верай у дабро.

## ДЗЕЙНІЧАЦЬ ПА РЭКАМЕНДАЦЫЯХ

Пра школу сёння гавораць усе. Але часцей не пра тое, што патрабуе сур'ёзнай размовы. Мне нават здаецца іншы раз, што нічога і не трэба мяняць у школьнай сістэме. Што поспех ці няўдача залежыць толькі ад настаўніка. Менавіта ён — сваёй адукаванасцю, культураю — стварае ці не стварае ў школе непаўторную атмасферу храма.

Я і праўда веру, што настаўнік стане калі-небудзь самай прыкметнай і паважанай фігураю ў нашым грамадстве, а самымі ганаровымі гасцямі ўсенароднае форумаў будуць нашы дырэктары школ і члены школьных саветаў. Што школьны савет будзе паўсюдна ўведзены замест бацькоўскага камітэта, які скампраметаваў сябе па ўсіх паказчыках, і ўвойдуць у яго людзі, якія пасапраўднаму разумеюць значнасць добраахвотна ўзятага на сябе апякунства над школай. Калі-небудзь не на словах, а на справе вернецца да настаўніка яго прафесійная годнасць — калі не будзе цяжару бяздумнага выканальніцтва. А пакуль — інструкцыі, парады, указанні. Вельмі бясcкрыўдныя на першы погляд і, скажам адкрыта, абразлівыя для сапраўднага настаўніка — на погляд другі. Зрэшты, нідзе ў іх вы не прачытаеце няўхільнага «забараняецца». Наадварот, паўсюды звычлівае «рэкамендуецца». Але давайце ж разважым, што ставіцца ў падобных рэкамендацыях у аснову асноў?

Усё што хочаце, адкажу вам я, як спецыяліст, але толькі не... інтарэсы канкрэтнага, скажам, Галкіна, які «праграму ўзяць не можа», засвоіўшы назаўжды, што школа навучыць яго бяссільная. Панічна баючыся пачуць рэзкую заўвагу або смех за сказанае глупства, за чырвоны кут на чарцяжы, які «нават дэбіл перабляваць не змог бы!», гаротнік Галкін, тым часам, мае патрэбу пакуль у адным: яго бясстрашнасці навучыць неабходна. Бясстрашнасці перад уласнымі памылкамі. Перад аднакамі, што караюць за памылкі. Бясстрашнасці перад усім так званым «вучэбным працэсам» нарэшце...

## ВАШ УЗРОВЕНЬ, КАЛЕГА!

Мае калегі заўсёды побач: мы вучым адных дзяцей і выхоўваем іх разам. І выдатна ведаем, хто з нас на што здольны. Я раздзяліла б усіх нас умоўна на тры групы. У першую залічыла б тых, хто, нягледзячы ні на што, з году ў год вядзе пошук і знаходзіць у выніку сваё. Гэтай групе настаўнікаў не патрэбны ніякія наватарскія рэкамендацыі.

У другую групу ўваходзяць калегі з шырокім кругаглядам, высокім інтэлектам, але яны, на жаль, спыніліся ў сваім прафесійным росце:

— Я не рыхтаваўся да ўрокаў сур'ёзна гадоў дзесяць,— шчыраваў, памятаю, адзін з іх.— Спраў у жыцці цікавых шмат. Інтарэсаў — і таго болей. А ўрокі вёў не горш, можа быць, нават лепей за многіх. Гэта мяне і супакойвала.

І нарэшце трэцяя і апошняя група выкладчыкаў. Тыя, хто мае «педагагічны стаж», веды на ўзроўні падручніка. І, што самае трывожнае, яны, пры вельмі сціплым багажы, складаюць зазвычай вельмі актыўную частку педагагічнага калектыву...

Ці трэба што-небудзь рабіць з тымі, хто не мае ўзроўню? Яшчэ ўчора — трэба было. Сёння яшчэ — можна. Заўтра — можа быць позна.

І крыўдна часам усведамляць, што праца ўсім тром катэгорыям аплочваецца дзяржаваю аднолькава. Так, не па выніку, а па стажы. Адным — за доўгае і ўпартае прафесійнае «самаразвіццё», другім — таксама за доўгае і ўпартае прафесійнае... дэградаванне.

Школьная рэформа не прынесла бачных вынікаў, хоць сродкі на перааўтварэнне школы адпушчаны вялікія, з сумам канстатуем мы сёння. Але давайце параразважаем, што прынесла нам агульнае — не дыферэнцыраванае — павышэнне настаўніцкай зарплаты?

Задаволілі пасрэднасці, а прафесіяналаў так і не вылучылі. Ці не павінна ўсё і ў школьнай «вытворчасці» быць гэтаксама ж, як і на вытворчасці тэхнічнай: добры спецыяліст — атрымлівай максімум? Малады, нявопытны — арыентуйся на свае старжорскія сто дваццаць. Вучыся, цягніся, імкніся... А ў выніку — павінны быць на дзесяць галоў вышэйшыя за сваіх вучняў. Не можаш — набярыся мужнасці, але застанься сумленным чалавекам: пакінь вучняў і школу ў спакоі.

Прафесійны, выхаваны, самастойны чалавек можа быць узгадаваны школай. Шлях да гэтага выніку ёсць: трэба «выкупіць» школе высокапрафесійныя кадры. Таму што школьны недаростак — заўтра гора-студэнт, пазаўтра аб'яўлены вучоным... Усе гэта вынікі нашай эканамічна бяздумнай і таму скрозь стратнай педагогікі. Задайце сёння настаўніку пытанне, якое стала ў гэтым матэрыяле ўжо рытарычным: «Ваш прафесійны ўзровень, калега?», і вы пачуеце ў адказ: «Стаж пасля дваццаці». Што мусіць азначаць: узровень вельмі высокі. Але ці ж так яно на самай справе?



## ПРА НАВАТАРАЎ СПРАЧАЮЦЦА

Група, якая называецца «наватарамі», стаіць асобна ад усяго настаўніцкага саслоўя. Да іх прыслухоўваюцца, прыглядаюцца, пра іх спрачаюцца. Убачыўшы кожнага з наватараў у тэлевізійнай перадачы, я ў думках пляскала ў далоні ўсім разам за майстэрства кантакту з аўдыторыяй. І кожны раз вышуквала сярод іх таго, хто змог навучыць, выхаваць, даць адукацыйны і культурны ўзровень нашаму рэальнаму Галкіну. І ўжо пасля перадачы, зноў вяртаючыся ў думках да яго, вымушана канстатую: Галкіну не адна і не дзве асобы патрэбныя. Яму патрэбная атмасфера школы, дзе ёсць і спецыяльна прадуманая для яго праграма-«мінімум», і адносіны з настаўнікамі будуюцца паводле прынцыпу: «Галкін! Ты цудоўны чалавек. Я люблю цябе за тваё чалавечыя якасці. Але ж ты абавязкова мінімуму не ведаеш? За веды табе — «два». За чалавечыя якасці — «пяць». А цяпер давай думаць разам: як нам з табою далей жыць?» Так прынамсі было ў маёй школе, якую я любіла бясконца. І дагэтуль захавала пра яе самыя цёплыя ўспаміны...

Я не вучылася ў ёй — жыла. Можа быць, таму ўсё, што з ёй звязана, засталося для мяне святым. Да нас не падлашчваліся. Нас любілі. З тым перажытым вопытам вайны, які навучыў маіх настаўнікаў любіць жыццё і ўсё жывое ў ім. Мы, іх вучні, гэтага тады яшчэ не разумелі, але адчувалі. Адчувалі, што з намі не гуляюць у «краіну ведаў» — нас вядуць у яе за сабою. Нам не расказваюць пра жыццё — разам з намі жывуць; не выконваюць ролю ў спектаклі, а выбіраюць яе, гэтую няпростую ролю, на ўсё жыццё. А мае настаўнікі, заўважу, нават не ўсе былі тады з вышэйшаю адукацыяй...

Напэўна, азартнасць пошуку, закаханасць у сваю справу, бясконцы неспакой мы і называем цяпер наватарствам. А настаўнікаў, якія дзейнасцю сваёй стварылі цэлую з'яву ў педагогіцы,— наватарамі. Дый справа ўрэшце не ў тым, як мы іх назавём. Галоўнае — не спыніцца на думцы, што мы знайшлі, нарэшце, панацэю ад усіх нашых школьных бед. Школа не дае сёння трывалых ведаў не толькі таму, што ў ёй няма асоб, падобных да наватараў. Яны якраз ёсць. У кожнай школе іх знойдзецца досыць, каб задаць асноўны тон усяму педагагічнаму працэсу. Але перш за ўсё школу трэба выцягнуць з сапраўднае бяды, якая не дае ёй сёння магчымасці развівацца далей.

А сутнасць бяды ў двух словах у тым, што за школу, за ўвесь яе шматлікі педкалектыў думае сёння хто хочаце, толькі не яна сама. І таму пацверджанне — расказаная тут гісторыя з дзесяцікласнікамі.

Школа — не будынак, не ўстанова і нават не вытворчасць. Я ўпэўнена, што калі клас вучняў кажа ў адзін голас: «Ён быў наш настаўнік, але цяпер нам вучыцца ў яго няма чаму»,— тады трэба настаўніка мяняць. Калі дырэктар не можа арганізаваць атмасферу, якая спрыяе агульнаму развіццю школьнага калектыву, трэба мяняць дырэктара. Школа — гэта жыццё. А жыццё не можа быць з'яваю застойнаю. Яно павінна развівацца.

Валянціна КУЛІК

**НАРМАЛЬНЫЯ «НЕФАРМАЛЫ»**

Хрысціна ПОБАЛЬ

# БЕЗ МАСКІ

## ПАДЛЕТКІ З «ПАРЫЖА» НЕ ХОЧУЦЬ БЫЦЬ ТАКІМІ, ЯК УСЕ

**«У школе мы такія: добрыя, благія — якія хочаце. Адны нацягваюць маску дзёрзкасці, іншыя — паслухмянасці... Маўляў, не чапайце мяне, я вас таксама не крану. Ну, а дома многія зусім не такія...»**

**(З размовы)**



Называюць сябе па-рознаму. Але шукаюць аднаго — свайго месца ў жыцці. Сапраўднай справы. Не ўсё ім удаецца, не ўсё атрымліваецца... Прапануем вам некалькі сустрэч з юнакамі з нефармальных аб'яднанняў. Здымем маскі, хлопцы і дзяўчаты!

**Сустрэча першая:** Аляксей Сцяшко, 16 гадоў, член таварыства «Асенізатар».

**З размовы:** — Пляваць мы хацелі на звышмодныя анучы. Мы не трасемся пад хард-рок. Многія, вядома, будуць называць нас адсталымі. А мы задаволены, што адрозніваемся ад гэтага стракатага натоўпу. Няма нічога благога ў тым, што чалавек апранаецца модна, слухае сучасную музыку. Горш тое, што іншы раз гэтым ўсё і абмяжоўваецца. А яшчэ жахлівей, калі модныя рэчы робяцца сродкам нажывы для тых, хто здабывае грошы несумленна. Такіх перавыхоўваць цяжка. Мы змагаемся з імі рознымі метадамі псіхалагічнай атакі (у нас хлопцы з вострымі языкамі) або забіраем у іх барахло, тое, чым яны фарцуюць. А пасля палім усё гэта. Прыгожа гарыць... Мы паказваем, што ёсць людзі, для якіх усе гэтыя шмоткі — звычайнае лайно. Скажаце, што гэта не лепшы метад? Але тады прапануйце што-небудзь іншае, больш дзейснае...

Жыццё яго, на першы погляд, запоўнена звычайнымі клопатамі. Клопатамі, з якімі ён, на радасць бацькам, паспяхова спраўляецца. Вучыцца на чацвёркі і пяцёркі. Захапляецца фізікай. Мае нават сякія-такія поспехі.

Тым часам ёсць у яго і іншае жыццё. Дарослым — невядомае. Для яго — важнае. Яно пачынаецца там, дзе збіраюцца яго равеснікі, члены таварыства з такой нечаканай назвай «Асенізатар» — згадзіцеся, гэта бянтэжыць.

Аляксей расказвае: «Гучыць непрыгожа — «Асенізатар», а сэнс — работнік, які змагаецца з усякай «брыдотаю». Нас не вельмі шмат. Мяркую, прыкладна чалавек 40. Нельга сказаць, што мы зрабілі нешта важнае. У нас досыць абмежаваныя магчымасці. І метады нашы прымітыўныя. Мы не прызнаем бойку як меру стрымання злачыннасці, таму змагаемся супраць любераў і падобных таварystваў. Мы змагаемся з фарцоўшчыкамі, наркаманамі».

Алёшу і яго сяброў я заспела ў перыяд складаных пошукаў і пераломаў. Сёння яны на ростанях. Крытыкуюць адзін аднаго, спрачаюцца. Адны, у тым ліку і Алёша, за арганізацыю аднадумцаў, сяброў, з якімі можна было б абмеркаваць самыя розныя праблемы. Другія лічаць галоўнай мэтаю таварыства барацьбу з «брыдотаю», і толькі. Шлях групы, пэўна, можа быць розны. Перацягне жаданне чыніць самасуд, і страшна падумаць, што можа выйсці. Тут вельмі лёгка пераступіць мяжу, якая аддзяляе дабро ад зла, з вызваліцеля робіць хулігана. Тым часам жаданне змагацца з «брыдотаю» нельга назваць дрэнным...

**Сустрэча другая** — у Баранавічах.

Адны бачаць іх толькі ў цёмным святле: непрыстойнае скандыраванне на стадыёнах, крыкі пасля матча на вуліцах, а іншы раз і жорсткія бойкі. Іншым падабаецца іх вернасць любімай камандзе, вялікае жаданне дапамагчы свайму клубу.

Я не збіраюся аддаваць перавагу ні чорным, ні ружовым танам — я проста пазнаёмілася з двума старшакласнікамі, даўно захопленымі футболам. З вамі гавораць Нірынэ Аванесян і Мікалай Цуканаў.

— Для нас шчасце футбол паглядзець. Мы ўсюды ездзім за сваёй камандаю. Боек мы самі не пачынаем. Але нас білі заўзятары ў Маскве і Вільнюсе. Колькі нам даводзіцца чуць папрокаў, насмешак ад сяброў і знаёмых. З аднаго боку, добрая вучоба, камсамольская работа, кнігі, з другога — футбол, чэргі па білеты, спартыўныя сцягі і шалікі колеру любімай каманды. Спытаеце, каму гэта трэба? І нам, і ім, нашым спартсменам. Калі глядзіш гульню, што называецца, з вялікай літары, нельга расказаць, што адчуваеш! Дый бела-блакітныя шалікі, вымпелы надаюць стадыёну святочнасць. Згадзіцеся, спартыўныя спаборніцтвы — гэта ж і ёсць свята. Тым часам не ўсё тут у ружовых танах. Нярэдка ў нас бываюць непаразуменні з міліцыяй з-за атрыбутыкі. Нам чамусьці ўсё забараняюць і нічога не тлумачаць. Трэба стварыць клуб аматараў футбола. Мы самі згодны працаваць, згодны праводзіць конкурсы, спартыўныя мерапрыемствы, падтрымліваць сувязі з аматарамі футбола іншых рэспублік.

А нас усё ўшчуваюць. У школе, дома, на стадыёне. І як ім не абрыдне?.. То прычоска не падабаецца, то шапачка не такая, то значкоў шмат. Усё нешта не так. Нам чамусьці баяцца даверыць якую-небудзь канкрэтную справу. Усе больш любяць выхоўваць. Меўшы клуб, мы сустракаліся б з камандаю, займаліся спортам. І тады ніводнага п'яніцы не было б сярод заўзятараў.

Яны гаварылі шчыра. Ім надакучыла быць дробнымі, маленькімі, прыніжанымі. Ім надакучылі шаблоны, стандарты. Ім хочацца ствараць штосьці сваё, заявіць пра сябе. Як? Праз клуб аматараў футбола, якога яны так чакаюць і які вось ужо пяты год абяцаюць... Аднак абяцанні застаюцца абяцаннямі. Хлопцы і дзяўчаты самі шукаюць, што ім рабіць. Дзе яны прабавяць вечар сёння? Куды яны пойдуць заўтра?





Фота Цімура ГРЫБА, Дзмітрыя ВІЛЬКІНА, Уладзіміра ШУБЫ

**А пакуль яшчэ адна сустрэча.** ...Музыка гучала на ўвесь квартал. Ад яе звінела аконнае шкло. Перад уваходам у клуб знемагаліся безбілетнікі. Ім вельмі хацелася трапіць туды, у танцавальную залу. Аднак дзверы былі прыпёртыя вялікай, на метры два, дошкаю. Яе здымалі, калі прыходзілі вучні 6-й школы. Для іх у Палацы культуры абутнікоў ладзіўся восеньскі баль. Астатніх не пускалі. Астатнія бадзяліся пазавуголлю ў пошуках занятку. Куды ж яны маглі пайсці?

У Лідзе працуюць 2 клубы для падлеткаў і 5 дзіцячых пакояў, дзе 500 хлопцаў і дзяўчат у вольны час займаюцца канструяваннем і вязаннем, удзельнічаюць у лялечных спектаклях. Але ў гэтых гуртках займаюцца вучні да 14 гадоў. Старэйшым усё гэта абрыдла. І яны ўсё радзей заходзяць сюды.

Сакратары школьных камсамольскіх арганізацый прапанавалі мне вечарам выйсці на вуліцы горада. Першае знаёмства адбылося ў «Парыжы» — так называюць самі падлеткі адзін з мікрараёнаў Ліды.

**З размовы:** — Мы жывём вольным жыццём. Што хочам, тое і робім. Для нас законаў у асноўным няма. Кожны вечар выходзім на вуліцу, ходзім па горадзе. У нас свае традыцыі. Святкуем дзень Парыжа. Чаму мы аб'ядноўваемся? Адказ вельмі просты: таму што няма чаго рабіць. У нас для моладзі ўсюды зачынены дзверы. Толькі камсамольскіх актывістаў усюды запрашаюць, ім прапаноўваюць білеты, а нам застаецца адно — вуліца. І вось тады згадваюць пра нас — міліцыя, школа, камсамол. І пачынаюць выхоўваць, выхоўваць... А магчымасці дзейнічаць нам не даюць. Тады мы і знаходзім сферу дзейнасці...

Можна было б працягваць нашае падарожжа па «Парыжы», «Лондане», «Слабадзе», «Расляках» і гэтак далей. Усяго ў Лідзе існуе каля 20-ці нефармальных груповак. Яны адрозніваюцца манерай апранацца, тэрыторыяй, на якой бавяць вольны час. Агульнае для ўсіх — высвятленне адносін між сабою з дапамогаю кулакоў. Галоўная, так сказаць, сфера іх дзейнасці. Які яе вынік, у Лідзе ведаюць многія. Паўтара года назад «Слабада» і «Цэнтр» вялі «перамовы». Скончылася ўсё трагічна: загінуў падлетак.

Не бяруся праводзіць сувязь паміж гэтай бядою і арганізацыяй вольнага часу старшакласнікаў у горадзе ўвогуле. І ўсё ж, калі адбылася сустрэча з работнікамі аддзела культуры ў гарвыканкоме, то здзівіла, наколькі далёкія яны ад праблем моладзі. Адзінае, куды змаглі запрасіць старшакласнікаў,— гэта ў народны ансамбль песні і танца «Лідчанка». Але чамусьці ні ў кога не ўзнікла пытання, а ці ёсць у хлопцаў і дзяўчат схільнасць да гэтага, здольнасці.

Шмат гаварылі пра стварэнне маладзёжнага цэнтра, але і дагэтуль пытанне засталося нявырашаным.

Вось і з'яўляюцца ў дварах, мікрараёнах аб'яднанні. На іх глядзяць скоса, пра іх гавораць з трывогаю. Што ім трэба? Чаго яны хочуць? Відэакафэ? Дыскаклубаў? Думаецца, справа тут не толькі ў тым, каб дапамагчы моладзі бавіць вольны час. Можна было б і больш адкрыць маладзёжных кафэ, дыскатэк. Але гэта толькі адна форма работы з падлеткамі. І яна, вядома, не зменіць адразу становішча. Абмяжоўвацца ёю нельга. Давайце згадаем, што кажуць члены клуба «Асенізатар», «фанаты». Ім абрыдла быць падобнымі на ўсіх, абрыдла жыць паводле сцэнарыя, загадзя кімсьці распісанага. Яны хочуць незалежнасці, самастойнасці. Зразумела, што часам той самы нестандартны «Асенізатар» збіраецца змагацца з «фірмачамі» досыць крутымі метадамі. За гэта можна было б і пакараць, і разагнаць. Але ці ў гэтым выйсце? Можа, варта спачатку выслухаць іх? Бо ясна: дзяўчаты і хлопцы шукаюць сябе, сваю справу. Чаму ж не даць ім магчымасці выявіць сябе?

...Сакратар Брэсцкага гаркома камсамола сустрэўся з прадстаўнікамі таварыства «Асенізатар». Напэўна, гэта адзін са шляхоў зразумець адно аднаго.



# Будзьце прыгожымі!

Сёння трыкатаж называюць і любімцам моды, і адзежай XX стагоддзя, але справа, вядома, не ў назве, а ў значнасці. Дастаткова адно згадаць свой штодзённы гардэроб, каб зразумець незаменнасць трыкатажу. Мы носім яго і ўлетку, і ўзімку.

Жаданне многіх жанчын стварыць для сябе цёплую і — што досыць важна — арыгінальную рэч прымушае жанчын брацца за пруткі і ніткі. І на самай справе, з задавальненнем спыняеш позірк на акуратна, з густам і душою зробленых світэрах і пуловерах, вока радуецца, калі бачыш дзяцей, адзетых, дзякуючы маме ці бабулі, цёпла і ярка.

Святлана Валодзька з Гомеля пытаецца ў мяне, якія накірункі ў трыкатажным адзенні сёння ў модзе. Думаю, гэта цікавіць многіх.

Рыта Сычова, мастацкі кіраўнік трыкатажнага Дома мадэляў, расказала мне:

— Навінкі трыкатажнага асартыменту — камплекты для адпачынку, турызму і трэніровачнае адзенне. Сілуэтныя формы тыя ж самыя, што і ў швейным адзенні: прамы, Х-падобны, трапецыя. Плечавы пояс падкрэслены — ставяцца падплечнікі, талія акцэнтуецца паясамі і зменаю перапляценняў. Пража выкарыстоўваецца і натуральная (бавоўна, шэрсць, лён), і ў сумесі з сінтэтычнымі валокнамі, і шматкампанентныя: віскоза і поліамід, поліэстар і бавоўна, акрыл і шэрсць. Актуальныя жакардавыя палотны пераважна з малюнкам у клетку і палоску, спалучэнне ў адным вырабе розных структур, камбінаванне палотнаў з іншымі матэрыяламі (тканіна, скура). Вялікае значэнне мае спалучэнне колераў, выкарыстоўваюцца прыродныя адценні, шэрыя і яркія фарбы (чырвоныя, сінія, зялёныя, фіялетавыя, жоўтыя), эфектныя спалучэнні з чорным колерам.

Для стварэння небудзённых мадэляў

## ПА САКРЭТУ ЎСЯМУ СВЕТУ

# «КАНТАТА З КАВАЙ»

Здаецца, цяжка знайсці больш-менш адукаванага чалавека, які б хоць раз у жыцці, жадаючы бліснуць эрудыцыяй, не прыгадаў за кубкам кавы французскага пісьменніка Бальзака, славутага яшчэ і тым, што ён быў непераўзыдзеным каваманам. З кавай, дарэчы, звязаны і іншыя выдатныя імёны.

Давайце перанясёмся ў Германію 18 стагоддзя. Да таго часу гэты цудоўны напітак паспеў набыць у краіне гучную і нават скандальную папулярнасць, таму што захапляліся ім паўсюдна, не ведаючы меры. Даходзіла да таго, што гарадскія ўлады ўводзілі часам афіцыйныя забароны на каву, бо дактары выказвалі занепакоенасць станам здароўя некаторых апантаных аматараў кавы, дый клапатлівыя бацькі турбаваліся за дачок і жонак, якіх пад уплывам моды апанавала «одна, но пламенная страсть».

Зразумела, што шум вакол папулярнай і скандальнай тэмы не мог не перанесціся ў мастацтва. Раней за ўсіх загаманілі паэты, якія на розны манер усхвалялі або высмейвалі (у залежнасці ад асабістых густаў) усеагульнае вар'яцтва. Іх прыклад перанялі і рыцары іншых муз.

Адным з тых, каго кава натхніла на стварэнне арыгінальнага твора, быў вялікі нямецкі кампазітар Ёган Себасцьян Бах. У 1732 годзе ён склаў камічную «Кававу кантату» на верш лейпцыгскага паэта Хрысціяна Фрыдрыха Хенрыцы, які пісаў пад псеўданімам Пікандэр. Кантата літаральна зіхаціць дасціпнасцю і весялосцю, яе гарэзлівыя героі лёгка пазнаюцца. Як сцвярджаюць спецыялісты, пазней гэткія яскравыя музычныя партрэты з'явіліся ў германскай оперы толькі ў Моцарта.

У «Кававай кантаце» апавядаецца пра дзядзьку Шлендрыяна, што паўстае супраць кавы, і яго дачку Лізхен, якая абагаўляе гэты напітак. Паміж імі адбываецца бурная спрэчка, уперамешку з млявымі ўздыхамі непаслухмянай Лізхен: «Ах, ах, кава такая смачная!»

Можна па-рознаму ставіцца да вясёлых праблем бахаўскіх герояў, аднак варта заўважыць, што злоўжываць кавай усё-такі не варта. Хочацца верыць, што пачуццё меры не здрадзіць таму, хто выкарыстае нашы парады.

Дык вось, кава.

Яе трэба трымаць у шчыльна закрытым посудзе, лепш за ўсё ў шкляным слоіку. Кава ў зерні, якая захоўвалася працяглы час, зноў стане духмяная, калі высыпаць яе ў сухую каструлю і паставіць на некалькі хвілін на гарачую пліту, без перапынку памешваючы. Смажанае зерне не трэба залішне румяніць, бо яно зробіцца горкае! Цёплае яшчэ зерне насыпаем у кавамолку, перамолваем і адразу ж заварваем.

Некалькі спосабаў заварвання кавы:

1. **Самы просты.** У ваду, якая закіпае, засыпаем каву. Адразу ж, пакуль вада не закіпела зноў, здымаем яе з агню і накрываем вечкам. Праз пяць хвілін працэжваем у кубкі.

2. **Кава па-турэцку.** Ваду, у якой разведзены дзве лыжачкі цукру, даводзім да кіпення. Засыпаем у сіроп вельмі дробна змолатую каву, даём ёй закіпець адзін раз, і гэты духмяны, шумны напітак разліваем у маленькія кубачкі. Прыкмета тонкага густу — да такой кавы казінакі.

37 **Кава па-арабску.** Гатуецца гэтаксама ж, як і кава па-турэцку, адно з той розніцай, што ў сіроп — да заварвання ў ім кавы — дадаецца каліва карыцы.

4. **Кава па-малайску.** Гатуецца гэтаксама ж, як і кава па-турэцку, але перад тым, як усыпаць у сіроп каву, дадаюць малюсенькі кавалачак сапраўднай ваніլі.

Для тых, хто любіць разнастайнасць, можна ў ваду, якая закіпае, пакласці (яшчэ да кавы) кавалачак шакаладу ці ўсыпаць каліва какавы. Такая кава будзе яшчэ больш смачная, калі ў кубку расцерці папярэдне дабяла сыры яечны жаўток з цукрам... Ну як, спадабалася?

P. S. Порцыя на аднаго чалавека (класічная): адна лыжка з верхам молатай кавы на шклянку вады.





выкарыстоўваецца пража з металізаванай ніткаю. Узбагачаюць структуру палатна такія кампаненты пражы, як віскоза і капрон.

Думаю, Света, што цябе задаволіў падрабязны расказ Рыты.

А цяпер некалькі слоў на тэму, якая цікавіць многіх чытачак — у мяне пытаюцца пра штаны. Добра, што мінулі часы барацьбы за права прысутнасці штаноў у жаночым гардэробе. Ужо выраслі пакаленні дзяўчат, якія проста не ўяўляюць сябе без іх. Апошнія сезоны, побач з джынсамі, якія сталі ўжо класічнымі ў маладзёжнай модзе, мы бачым мноства інтэрпрэтацый штаноў, іх формы, даўжыні, колеру, фактуры тканін, канструктарскіх і дэкаратыўных элементаў. Шырокія і вузкія, «джутавыя» і шаўковыя, разнастайных колераў, аднатонныя, квяцістыя, у клетку і палоску. Варыянтаў мноства, прычым гэтая разнастайнасць у вялікай ступені датычыцца і штаноў мужчынскіх.

Зімовы сезон 1988 года аддае перавагу штанам з класічнай твідавай і, да таго ж, на маю думку, проста незаменнай у нашым клімаце тканіны. І пакрой у іх класічны: прамы, роўны па ўсёй даўжыні, з вытачкамі—мяккімі наперадзе або застрочанымі. Твідавыя тканіны цёплыя і ўтульныя. Яны выдатна спалучаюцца з драпавымі, суконнымі тканінамі паліто, жакетаў, са скуранымі і велюравымі вырабамі: могуць быць аднатонныя, стракатыя, у палоску, «елачку».

Мода любіць усялякія паралелі, маляўнічую тэрміналогію. У дадзеным выпадку яна згадвае пра часы, калі такі пакрой — прамых і свабодных ліній — лічыўся самым шыкоўным: часы рамана Скота Фіцджэральда «Вялікі Гэтсбі».

Такім чынам, штаны ў стылі «Гэтсбі»! Паспрабуйце: можа, яны будуць вам пасаваць. Але не ўсе любяць штаны, я ведаю. Таму пагаворым пра панчохі.

Вярнуліся ў моду чорныя панчохі — і па-новаму зачаравалі нас. Мы зразумелі, што часта для стварэння пэўнага вобраза ў адзенні, яго цэласнасці і выразнасці без іх проста не абысціся. Нават улетку, нават у вельмі нечаканых, здавалася б, спалучэннях са светлымі летнімі строямі — няхай толькі сумачка, пояс або яшчэ якаясьці дэталь туалету падтрымае гэты колер.

У чорных панчохах — свае строгасць і дзёрзкасць, свае рамантыка і шарм. Яны робяць жаночую нагу страйнейшай, асабліва ў спалучэнні з элегантнымі туфлямі. Аднатонныя і ажурныя, зусім тонкія, як павуцінка, і больш шчыльныя ў зімовую пару — яны патрэбныя і юнай модніцы, і жанчыне так званага «элегантнага ўзросту». Яны пасуюць жанчыне і ўдзень і ўвечары, летам і асабліва зімою, калі пасля свавольства фарбаў і спалучэнняў летняе моды мы хочам крыху большай строгасці ў формах і колеры. Калісьці чорны колер панчох нёс у сабе адчуванне драматычнасці, але з гадамі, не без уліку думкі мужчын, мы знаходзім яго хутчэй спакуслівым.

І на заканчэнне маленькая парада-напамінак. Купленыя ў магазіне або пафарбаваныя дома — мыйце чорныя панчохі заўсёды асобна, не будзе непрыемных сюрпрызаў.

Шчыра кажучы, мяне трохі здзіўляе мноства «жаночай» пошты. Нашы чатачы, прадстаўнікі моцнага полу, пакуль, здаецца, не надта цікаўныя. А мне ёсць што сказаць тым, хто хоча стаць прыгожым, хто цікавіцца модаю. Зрэшты, як мы дамаўляліся, я гатова даваць парады не толькі па пытаннях моды.

Рыта Бялова з Віцебска пытаецца: «Як можна падрасці?» Вельмі проста. Для таго, каб падрасці, трэба навучыцца насіць туфлі на высокім абцасе, займацца баскетболам і штодня па 3—5 хвілін вісець на турніку. Паспрабуйце і падзяліцеся са мною вынікамі.

Чакаю вашых лістоў.

**Таня.**





Фота Уладзіміра ШУБЫ






Яраслаў КАМЕНСКІ

# НЕ ТОЙ ЧАС!

**Кароткае інтэрв'ю з мастакамі-плакатыстамі Уладзімірам ЦЭСЛЕРАМ, Сяргеем ВОЙЧАНКАМ і Андрэем ШАЛЮТА'**

Чорнай кавы ў кафэ «Рамонак» не было. Мы ўзялі гарбаты і селі за столік. Што ні кажы, а гаварыць пра мастацтва лепш за ўсё за столікам у кафэ.

— На якое пытанне ты хацеў бы адказаць? — спытаў я ў Андрэя.

— Ці ёсць школа беларускага плаката? — прапанаваў ён першае пытанне.

Я дастаў блакнот. І вось:

— Ці ёсць школа беларускага плаката?

Андрэй Шалюта: «Няма!»

— Чаму?

Уладзімір Цэслер: «Некалькі чалавек у Саюзе мастакоў, адпаведна і на выстаўках і ў мастацкіх саветах, манапалізавалі «ўладу» ў галіне плаката. Вось і атрымалася, што ўсю энергію яны накіроўвалі не на развіццё ў нашай рэспубліцы такога складанага жанру, як плакат, а на захаванне сваіх уласных прывілеяў. Апошнім часам на выставы не прымаліся працы, якія па сваім узроўні былі вышэй за творы «гаспадароў» жанру. Атрымалася так, што плакатам у большасці сваёй пачалі займацца мастакі, якія адчулі сваю неканкурэнтаздольнасць у астатніх жанрах. Зусім нядзіўна: нашыя суседзі — літоўцы, латышы і эстонцы — дасягнулі за апошнія дваццаць год у галіне плаката сусветнага ўзроўню, а мы засталіся на месцы».

— Ці змянілася сітуацыя сёння?

Сяргей Войчанка: «Не змянілася».

— А што трэба, каб яе змяніць?

Сяргей Войчанка: «У рэспубліцы ёсць маладыя мастакі-плакатысты, якія атрымалі прызы на міжнародных выставах. Гэта — Зміцер Сурыновіч, Вольга і Алесь Даманавы... Але склалася парадаксальная сітуацыя: міжнародны поспех мастака не гарантуе ягонага прызнання ў родных сценах. Больш таго, таленавітую моладзь некаторыя з «мэтраў» імкнуцца не заўважаць, робяць выгляд, што ўдзел у міжнародных выставах — справа другарадная, нязначная. Ну як не згадаць прымаўку пра тое, што няма прарока ў сваёй айчыне. Неабходна прызнаць гэтых мастакоў, не рабіць ім заслону на выстаўкомах, падтрымаць матэрыяльна — дапамагчы з майстэрнямі і атрыманнем заказаў».

Андрэй Шалюта: «Каб змяніць сітуацыю, што склалася ў нашым жанры, неабходна стварыць творчае асяроддзе, якое, на жаль, пакуль што адсутнічае. Ні Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, ні Саюз мастакоў БССР яго не стварылі. Лічыцца, што графікі, манументалісты і жывапісцы займаюцца больш прэстыжнай справай, а плакатысты нібыта таўкуцца на ўскрайку вялікага мастацтва. Плакат быццам і вывешвалі на выставах, але змяшчалі ў самых цёмных кутках ці па-над столікам білецёраў, і я не здзіўлюся, калі заўтра гэтай папялушцы наогул пакажуць на дзверы... Дзіўна! Ва ўсім свеце плакат лічыцца адным з самых перспектыўных відаў творчасці, а ў нас — недаацэнка. Пэўна ж, у Мінску неабходна праводзіць штогодні конкурс на лепшы плакат. Добра было б правесці гэты конкурс пры вашым часопісе».

— Калі раней вы ў большасці сваёй працавалі над плакатамі на тэму экалогіі, дык цяпер у вас з'явіліся творы, у якіх уздымаюцца вострасацыяльныя пытанні гістарычнай памяці. Вялікае ўражанне на гледачоў зрабілі творы, ў якіх асэнсоўваецца час, пазначаны культам асобы. Што вы на гэта скажаце?

Сяргей Войчанка: «Паверце, мы над гэтымі пытаннямі думалі і раней. Нават і плакаты рабілі, а вось выстаўляць баяліся».

— А цяпер не баіцёся?

Уладзімір Цэслер: «Не баімся. Не той час».

Мы дапілі гарбату, абмеркавалі, якія з плакатаў можна надрукаваць у часопісе, і на развітанне пажадалі адзін аднаму лепшых часоў.















**Андрэй ШАЛЮТА**
**Сяргей ВОЙЧАНКА**
**Уладзімір ЦЭСЛЕР**




## НЕ ТОЙ ЧАС!






## МЕТАЛУРГІ

## І

## МЕТАЛІСТЫ

Пакуль мазырскі рок-гурт «Адлюстраванне» натхнёна распяваў свой папулярны хіт «Мы там, дзе льюць метал», непадалёку, у Жлобіне, на першым у Беларусі металургічным заводзе дакладна па графіку здадзена пад ключ другая чарга вытворчасці.

Мы там, дзе льюць метал!







Фота фірмы «Фест Альпіне АГ»

# РАБІНЗОНЫ НА ВОСТРАВЕ НТТМ...

Ларыса САЕНКА





Фота Аляксандра ЕЛІСЕЕВА

— Мэнээсішка, сам толькі са студэнцкай лаўкі, а ў пагадненні напісаў: «Бяруся выканаць работу ў якасці старшага навуковага супрацоўніка». Манія велічы, ці што?

— А я табе кажу: стаў той станок, што на заводзе імя Кірава. Вось і заплацілі золатам, называецца. Штампавалі-штампавалі, пакуль антыкаразійка ўся да кроплі не выйшла. А выйшла — тады і спахапіліся: станок стаіць, грошыкі дзяржаўныя бягуць, а чым запраўляць яго — ніхто не ведае. І вось аб'яўляюцца чатыры хлопцы з акадэмічнага інстытута: зробім, кажуць, не сумнявайцеся. І што ты думаеш — прыдумалі сваю змазку! Запусцілі станок. Ну і ну...

Чуткі даляталі самыя неверагодныя. Але самае неверагоднае было тое, што яны адпавядалі сапраўднасці. З тае пары, як у Гомелі пры гаркоме камсамола быў створаны клуб навукова-тэхнічнай творчасці моладзі.

— Клуб? Ды гэта ж самадзейнасць! — скажуць многія, не ўлічваючы таго, што «самадзейнасць» гэтая — навукова-тэхнічная і, я сказала б, на прафесійным узроўні. Клуб НТТМ — гэта своеасаблівая пасрэдніцкая фірма паміж... Ну, напрыклад, прадпрыемству трэба ўдасканаліць якую-небудзь тэхналогію, ці патрабуецца дакументацыя на механізацыю дапатопнага ўчастка, ці неабходна прывязаць тыпавы праект да мясцовасці... Паспрабуй вось, знайдзі тых, хто змог бы ўсё гэта зрабіць якасна і хутка. А клуб знаходзіць выканаўцаў, якія могуць і хочуць выканаць работу па сваім профілі ў нерабочы час.

— Няўжо да іх ніхто гэтага не рабіў? — запярэчыць недаверлівы чытач.

І зноў тлумачу, што да іх гэтага проста ніхто не хацеў рабіць. Ніводная фірма, якая сябе паважае, не возьмецца за заказ коштам у некалькі тысяч. А клуб цяпер усё роўна як запаўняе «навукова-тэхнічны вакуум» — гэткую праслойку, у якой быў попыт без прапановы. Згадваю, пасля першага ўпамінання ў друку пра клубы НТТМ мне патэлефанаваў гаспадарнік з Усходняй Сібіры. «Геніяльная ідэя! — крычаў ён з захапленнем.— Прыміце заказ на праектаванне свінарніка: каторы ўжо год бы рыба аб лёд б'юся — і ўсё без толку!»

Стваральнікі клуба НТТМ былі ў меру рамантыкамі і ў меру рэалістамі. І пратоптвалі новую сцяжынку, спадзеючыся на ўласнае разуменне, кемлівасць і чуццё. Вучыцца, па сутнасці, не было ў каго — першыя ў рэспубліцы. Даходзіла, праўда, сякая-такая пагалоска, што ёсць, маўляў, «сабрат» у Маскве, ці ў Ленінградзе, ці ў якімсьці іншым цэнтры. Імчалася тады «галоўбух» клуба Тамара Міжэвіч, акрыленая, за блізкі свет. А калі прыязджала туды, дык так ужо выходзіла, што вучылася не яна, а ў яе вучыліся...

Пра клубы і цэнтры НТТМ гаварылі шмат. Якія толькі думкі не выказвалі, якія толькі спрэчкі не разгараліся!

— Асабіста я свайму падначаленаму дазволу на работу ў гэтым клубе не дам! — згадваю выступленне аднаго маладога кіраўніка.— І ўвогуле: я разумею працу канструктара не «ад званка да званка». У аўтобусе едзеш — думай! За вячэраю — думай! Ды што там: сны — і тыя павінны быць па тваёй тэме! Ну, а не гарыш сваёй справай, дык не збоку шукай, а асноўную работу мяняй.

Чула і іншыя выказванні, тыпу: «Не ад добрага жыцця цэнтры гэтыя ствараем».

Але ж патрэбны яны! І патрэбны менавіта цяпер, сёння! І мусяць быць менавіта такія. Можна, вядома, бурчаць: «Няхай робіць тыя, каму належыць». Толькі мне больш даспадобы тыя, хто не бурчыць, а дзейнічае.

Дык хто ж прыйшоў усё-такі ў гомельскі клуб?

— А што вы думалі — і шабашнікі аб'явіліся! — махае рукою Міжэвіч.— Досыць інтэлігентныя людзі прыстойнай знешнасці і вельмі нават пачціва прапаноўвалі здзелкі. Выгнала.

Але давайце ж паслухаем нарэшце выканаўцаў. Тых, хто, уласна, і прапанаваў клубу свае паслугі.

— Шчыра кажучы, для мяне гэта звычайная «халтура»: проста спосаб падзарабіць,— збянтэжыў Віктар Гілод спачатку тым, што гаворыць не «для прэсы» і, здаецца, падобны на хрэстаматыйнага рвача. А потым падкупіў сваёй адкрытасцю.

— Ды вы не палохайцеся: «халтура» — гэта зусім не значыць абы з рук збыць. Вы правільна зразумейце: што такое канструктару першай катэгорыі, які гнуткія вытворчыя сістэмы стварае, механізацыя ўчастка? Вопыту, вядома, гэтая праца патрабуе. Карпатлівасці. Часу — слоў няма. Але каб там галаву занадта ламаць, начамі не спаць — выбачайце... Праца чыста механічная.

Гілода прывабіў «жывы рубель». Можна, вядома, паморшчыцца. А з другога боку, што тут благога, калі чалавек падзаробіць сумленнай, карыснай грамадству працай?

Дапамог іх часовы творчы калектыў многім, і дужа. Упяцёх з Аляксеем Умеранка, Міхаілам Барбарам, Валерыем Музыкіным і Вадзімам Кошалевым — усе яны з Гомельскага інстытута — можна сказаць, новае жыццё ўдыхнулі ў старэнькі цэх дапатопнага заводзіка.

Экскурсія сюды ад звычайных адрознівалася прынцыпова: паказвалі не лепшае, а горшае. Ну, а іх цэх... Тэхніка — амаль антыкварыят, рабочыя ўручную цягаюць катушкі стужкі — а стужка ж сталёвая, паспрабуй падняць — рукі абрывае. «Вось табе і НТР»,— круцілі галовамі інжынеры.

Пару дзён на роздум — і кожны прапанаваў свой варыянт рэканструкцыі. Выбралі самы эканамічны, самы рацыянальны.

На асноўнай працы Віктар Гілод — галоўны інжынер тэмы, у часовым творчым калектыве — кіраўнік. Інакш кажучы, і там і там — начальнік. Толькі, паводле ўласнага прызнання, у другім выпадку ён кіраўнік шмат больш дэмакратычны. Можа, таму, што нікога падганяць не трэба — як мае быць працуюць усе! Ці не таму, што (неверагодна?) работнікі вытворчасці самі тузаюць — давайце хутчэй сваю распрацоўку! Ці трэба згадваць, як адмахваюцца звычайна ад іх распрацовак на буйных прадпрыемствах.

Сяргей Пратасеня, выкладчык Гомельскага універсітэта, здаўся ідэалістам:

— Мяне не вельмі цікавяць грошы — проста хачу нешта зрабіць для свайго горада... Гадоў гэтак праз трыццаць паказаць нашчадкам: вось, глядзіце, гэта я ў маладосці... Зманліва?

Дзіўным, казачным жыццём жыве гарадок мары. Можна лунаць у лодцы пад воблакамі... Дух займае ад крутых спускаў... І ківаюць галовамі маленькія каляровыя коні, а драконы — зусім не страшныя. І захоплена смяюцца дзеці, і штосьці дзіцячае прачынаецца ў дарослых...

Мара? Не такі ўжо ідэаліст Пратасеня, не думайце. Па-першае, ён ужо «скалаціў» групу энтузіястаў, якія падхапілі яго ідэю. Па-другое (вось дзе на лаўца і звер бяжыць), адно з прадпрыемстваў Гомельскай вобласці даслала ў клуб заяўку на выраб... атракцыёнаў.

«У цэнтры НТТМ пацягнуцца тыя, хто не знайшоў сябе на асноўнай працы, не раскрыўся, не адбыўся...» Так прадказвалі.

— Не адбыўся?..— Сяргей пацірае пераносіцу.— Асабіста мне клуб дапамагае адбыцца менавіта як педагогу. У першую чаргу такія цэнтры патрэбныя тым, хто толькі, як кажуць, устае на ногі: маім студэнтам.

Курсавыя, дыпломныя — для каго яны? Для чаго? Студэнт ведае пэўна: для адзнакі і... для архіва. Наўрад ці акрыляе марная праца. А ў Пратасені ўжо на малодшых курсах далучаюцца да сур'ёзнай, важнай для ўсяго горада тэмы (і не бясплатна), могуць адчуць сацыяльную значнасць сваёй працы.

Напэўна, тым, хто прыйдзе ў гэты клуб пазней, у чымсьці будзе лягчэй. А пакуль што маладыя людзі часцей, чым хацелася б, чуюць «не!» і «нельга!».

— Не маеце права праектаваць — паглядзіце інструкцыю! — тузае Будбанк.

— Як — менавіта ж гэтым і займаецца клуб НТТМ!

— Не ведаем ніякага клуба! Вы ж выкладчык ВНУ? Значыцца, не маеце права.

Дакументацыю на канатную дарогу цераз Сож прыйшлося згарнуць у трубачку і адкласці да лепшага часу. Хаця студэнты пад кіраўніцтвам Сяргея амаль усё ўжо разлічылі. Усё — ды не ўсё, выходзіць. А цяпер навісла пагроза над самім гарадком мары, як умоўна ахрысціла я Сяргееву задуму. Замест тых 25 гектараў, што меркавалі, будуць адведзены — балазе пустка дазваляе,— жылпраект дае ўсяго толькі 3.

— Вы разумееце, што гэта крах мары? Гэта ж будзе клетка, а не горад,— перажывае Пратасеня.

Значыць, прыйдзецца яшчэ паваяваць і за сваю «краіну-утопію», у якой дзеці заміраюць ад захаплення, а дарослыя робяцца хоць трохі падобныя на дзяцей...

Амаль на год апярэдзіў усіх сваіх паслядоўнікаў Гомельскі клуб НТТМ. Пакуль астатнія спрачаліся, абмяркоўвалі і сумняваліся, тут ужо рабілі справу.

## НЕКАЛЬКІ ІНТЭРВ'Ю НА ВЕЧНУЮ ТЭМУ



**Для ўсіх, хто марыць пачуць словы кахання, а таксама для тых, хто ўсё яшчэ не адважыўся іх сказаць, нагадваем: такую магчымасць маеце вы штогод 14 ЛЮТАГА — у СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ЗАКАХАНЫХ. Усім, хто закаханы, раім запомніць гэтую дату.**

**Святлана БАРТОХАВА**

# Уводзіны ў рубрыку

Праніклівыя чытачы ўжо зразумелі: гаворка пойдзе пра каханне. Падкрэслю адразу: гэта будуць інтэрв'ю з прадстаўнікамі моцнага полу, і толькі з імі. І вось чаму. У будзённым жыцці нам, прадстаўніцам лепшае паловы чалавецтва, хранічна нестае вашых слоў пра высокія пачуцці, паважаныя мужчыны. Але вы лянівыя і нездагадлівыя, вы пастаянна забываецеся, што жанчынам проста неабходна слухаць такія словы і пераконвацца, пераконвацца ва ўласнай непараўнальнай абаяльнасці.

Баючыся, што не кожны зможа быць шчыры, ды яшчэ публічна, я вырашыла пагаварыць адно з тымі, каму па службовым абавязку часта даводзіцца думаць пра каханне і так ці інакш выказваць пра яго свае ці чужыя думкі. Напэўна, чытачы здагадаліся: гэта людзі творчых прафесій.

Спачатку я хацела дужа аблегчыць задачу — узяць інтэрв'ю ў мужчын, якія працуюць разам са мною ў часопісе «Крыніца». На жаль, нічога з таго не выйшла... Кожны, да каго я прыставала з размовай, адказваў прыкладна так: «Ды няма калі мне! Як-небудзь потым...» Пасля некалькіх няўдалых спроб пагаманіць з імі мае ілюзіі наконт лёгкасці задачы поўнасцю зніклі. Хочаш не хочаш, а прыйшлося ўсё-такі некаму тэлефанаваць, кудысьці бегчы, некага шукаць, браць інтэрв'ю ў мужчын менш знаёмых...

## ІНТЭРВ'Ю, ЯКОГА НЕ БЫЛО

Я патэлефанавала вядомаму беларускаму кінарэжысёру.

— Дзень добры, вас непакояць з рэдакцыі часопіса «Крыніца». Ці не маглі б вы прызначыць мне час і месца для сустрэчы? Я хачу пагаварыць з вамі пра каханне.

— Пра што, пра што?

— Пра каханне.

— Гм... Гэта, канечне, цікава! — у голасе кінарэжысёра гучала іронія.

— Вы, напэўна, не зразумелі! — ніякавата сказала я.— Я хачу пагаварыць пра каханне ў в о г у л е. Чытачы нашага часопіса пераважна людзі маладыя — для іх гэтая тэма асабліва актуальная. А вас яна, мяркуючы па творчасці, таксама хвалюе... Ці не маглі б вы паразважаць?..

— Паразважаць!.. Выбачайце, не мог бы...

— Чаму? — зусім разгубілася я.

— А таму. Каханне — гэта справа сур'ёзная... Пра яго не расказваць трэба, яго трэба адчуваць, пе-ра-жы-ваць! Разумееце?

— Р-разумею... Што ж мне рабіць?

— Што рабіць? Адкіньце вашу задуму як абсалютна безнадзейную, мая вам парада...

Мы ветліва развіталіся.

Суцешыўшы сябе думкаю, што першы блін — заўсёды комам, я выпрацавала пэўную тактыку. Па-першае, у інтарэсах справы, ні за што не паведамляць па тэлефоне таму, у каго збіраюся браць інтэрв'ю, на якую тэму я збіраюся з ім гаманіць. Па-другое, пры сустрэчы, каб не напалохаць, пачынаць размову з чагосьці досыць далёкага ад прадмета гутаркі, а потым неўпрыкметку пераходзіць да яго.

Апярэджваючы падзеі, скажу: гісторыя ўсіх астатніх інтэрв'ю была падобная на таямнічы дэтэктыў, у якім да самага канца незразумела, што ж адбываецца на самай справе і чым усё скончыцца. Не буду ўспамінаць, якіх высілкаў мне гэта каштавала,— усё, што не датычыць галоўнай тэмы нашай рубрыкі, гэта значыць кахання, я, натуральна, скасоўваю.

(Працяг будзе)

**Міхась Шэлехаў нарадзіўся ў 1954 годзе на Брэстчыне. Скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў пры Дзяржкіно СССР. Таму ў вольны ад вершаў час піша сцэнарыі мультфільмаў, адзін з якіх атрымаў прыз на міжнародным кінафестывалі ў Чыкага.**

**Міхась Шэлехаў — паэт двухмоўны. «Крыніца» прадстаўляе яго-ныя вершы на беларускай мове, «Родник» — на рускай. Чытач можа ўзяць абодва выданні часопіса, параўнаць вершы і выказаць адносна іх сваё меркаванне. Ведаць яго цікава і нам, і аўтару.**



**Міхась ШЭЛЕХАЎ**

## ТРЫПЦІХ ЖЫЦЦЯ

Зашапаціць жыцця фіранка!
Блакіт. Юнацкасць. Мора. Крым.
Пралеска. Красавік. Палянка.
    Але ў абдымках — толькі дым.

Крывавым шлюбам — арабіна.
І тысяча мінулых зім.
Радзіма. Два сыны. Жанчына.
    Але ў абдымках — толькі дым.

Акенца... І званы — на волю!
Прахожы з німбам залатым.
І слёзы, і святло — да болю...
    Але ў абдымках — толькі дым.

## СЛОВА ПАЛЕСКІХ ПАЛЕЎ

Ёсць слых, а слова — адзавецца!
Жыццё нябёсаў ледзь чуваць.
Спіць восеньская сенажаць...
Вось-вось — і белы снег прачнецца.

Дык слухай, браце, сум палёў,
Дзе воўчая шнуруе зграя!
І здані медных каласоў
Звіняць званамі — ураджаю.

Дзе рыскае дзікоў сям'я
Па чырвані лістоў бацвіння,
І гойдаецца цішыня
На трох арэлях павуціння.

Як б'ецца міласэрна сэрца!
На мове светлай прастаты
Пачуй Радзімы слова ты...
Ёсць слых, а слова — адзавецца!

## СЛАВЯНСКАЯ ЗОРКА

Стане самотна, бязвыхадна, горка —
Свеціць здалёк мне Славянская Зорка!
Каб не загінуў, душою не паў.
Свеціць дзівосная сіла Сусвету,
Свецяць бабулі, дзяды і кабеты —
Тварамі рэчак, аблокаў і траў.

Свеціць мне бацька мой, грозны Пяруне!
Свеціць Жытнёвая Баба на руні,
Свеціць мне Зюзя і добры Вялес.
Свеціць Вадзянік і Ёжкіна хатка,
Свеціць люстэркам красуня Русалка,
Свеціць ажынамі сінімі — Лес!

Родныя! Вас палюбіў я не ўчора...
Лягу аднойчы і я, як какора.
Мала мне гора — прыйду я да вас!
Бо калыхалі мяне і вучылі
І да Радзімы маёй далучылі,
І зберагалі ў бязлітасны час.

Зорка Славянская, светлая зорка!
Жоравам я паднімуся з пагорка,
Каб да цябе — назаўжды, назаўжды!
Колькі жылі мы і колькі шчэ будзем,
Дапамажыце вы, любыя, людзям,
Казкі Айчыны, анёлаў сляды...

## БАЛОТНЫ ТРУБАЧ

Салавей мой, вясёлы трубач,
Птушка вольная сіняй заставы!
На заранку змаўкае твой плач
У ракітах рачной пераправы.

Горн самоты і любасці дым,
Срэбны голас жаночае масці...
Ціха курым ды ў неба глядзім!
І палохае вочы нам — шчасце.

Наш дэсант у сухмені балот.
І лісты нашы — жабы чытаюць!
І жыве наш брызентавы ўзвод
Салаўінай аортай адчаю.

А вакол — ці вайна ці дрэнаж?
Медалі асыпаюць асіны.
І пяе наш балотны трубач
Над крывёю сырых журавінаў...

## ЧОРНЫ ПАЛЫН

*Памяці ахвяр Чарнобыля*

Гэты Чорны Палын на сядзібе стаяў
І на свет пазіраў ашалелы...
Галубоў адвячоркам атрутай пужаў,
Чорных качак і лебедзяў белых.

Змрок сядзібу аднойчы — зусім агарнуў!
Тым світаннем і пеўні маўчалі...
Абудзіўся Палын! І пайшоў, бо пачуў,
Што прывабна вядзьмаркі спявалі!

Чуеш! Рохкаюць свіннямі салаўі.
Чарвякі завіхаюцца ў шале! —
Гэта — Чорны Палын пахадзіў па зямлі!
Гэта — Чорныя свецяць каралі!

І ад першага дня да апошняга дня
Страшна глянуць на нашу адрыну...
Раптам — бездань і змрок! І нічога няма.
Чорны космас — і царства Палыну.

І глядзяцца ў душу маю болем зямлі,
Як наваляцца чорныя ночы,
Тыя людзі ці зорак былых крышталі,
Што зірнулі ў палынныя вочы...

## СТУК У АКНО

І горка, і смешна — настаўніка вучыць дзіця!
Акторка ў калготах нам сэнс замяніла жыцця.
Я б кінуўся плакаць на грудзі — ды сябра няма.
Чытаю буквар... Каб усё-такі жыць недарма.

Аз, букі, глаголь... Я жадаю стаяць — на «дабры».
Крумкач і жар-птушка на пару — на бедным двары!
Якога вам чорта? А можа, прыйшлі па мяне?
На казачны востраў!
    Да птушак! Нібыта ўва сне.

Прыходзь, навасялец! Падмецена хата мая.
Дзіцячы пакой, дзе калісьці я чуў салаўя.
Ні лесу, ні бору... Але — каляровы экран!
Я зараз з'язджаю. На казачны востраў Буян.

Я зараз з'язджаю. Я дом забіваю крыжом.
Як некалі — вокны ад выбухаў бомб за сялом!
А слёзы цякуць ад смалістага паху крыжа...
Я зараз з'язджаю.
    Канец ці пачатак, душа?

## СВЯТА ПЕРШАГА СНЕГУ

Снягі, што спазніліся, просяць ізноў прабачэння
І ў шыбы калоцяць збянтэжана, бы не свае...
— Адкуль вы? — спытаю.— Заходзьце на дзень
    нараджэння!
Я сёння з'явіўся, як іней на жоўтай траве.

У дзень нараджэння — на Белай Русі аднаўленне.
Ад першага снегу — аднекуль і я на зямлі!
І зноў прыпадаю да матчыных светлых каленяў,
Да ціхай мяцеліцы на спахмурнелай раллі.

Бы мокры сняжок — мае думкі паселі на дрэвы...
І бачу знянацку прывід Лукамор'я вакол.
Там ходзіць на мыліцах кот таямнічы і белы —
Па срэбнаму дубу, па дрэву славянскіх вякоў.

Ад першага снегу і вы, беларускія казкі!
Асілкі і дурні, якія цароў разумней.
З якой, немаведама, снежаньскай ціхае ласкі
Зляцеліся словы, як гусі, сюды — да людзей?

Ад першага снегу — дзяцінства сунічнай паляны.
Ад першага снегу — аблокаў жывыя муры.
...Ды гляну вакол я — на шэрыя мокрыя плямы,
І стане сцюдзёна на сэрцы, як там, на двары.

І з'явіцца думка — ці з пекла, ці з іншай спакусы —
Пра тое, што ўсё тут — растане, як снег па начы...
І з болем душы паспяшаю да Белае Русі —
Хутчэй ахінуць, прытуліць, захаваць, зберагчы!



МУЗЫЧНЫ ПРАСПЕКТ

Юрый ЦЫБІН

# ІРАНІЧНЫЯ МЕМУАРЫ Ў СТЫЛІ... «РОК»

У мяне зазваніў тэлефон.

— Юрый? Калі мяне правільна інфармавалі, вы цікавіцеся праблемамі маладзёжнай музыкі? — запытаўся чыйсці відавочна «кіруючы» голас.— Будзе праходзіць нарада па пытаннях музыкі. Запрашаем вас. Трэба, нарэшце, з гэтым рокам нешта рабіць.

Заінтрыгаваны апошняй фразай нябачнага суразмоўцы, я паспяшаў на нараду. О, якая прадстаўнічая, хоць і нешматлюдная была яна! За даўжэзным сталом сабраліся псіхолаг і музыказнаўца, лектар таварыства «Веды» і філосаф, філолаг і педагог — усяго чалавек пятнаццаць. Пераважна людзі таго ўзросту, пра які паважліва пішуць «вышэй за сярэдні».

— Мы запрасілі вас,— урачыста сказаў старшыня нарады,— каб выпрацаваць канцэпцыю дзеянняў. Становішча склалася сур'ёзнае. Моладзь слухае не тое, што ёй прапануюць. Што рабіць?

Першы ўзяў словы вучоны-філолаг.

— Пра музыку гаварыць не стану, тут я не спецыяліст. Але пра тое, што спяваюць гэтыя рок-гурты,— скажу. Спецыяльна ўзяў у сына касету з запісамі. Вершамі гэта і блізка нельга назваць. Яны адбіваюць у моладзі цікавасць да сапраўднае паэзіі. Яны нявечаць густ падлеткаў. Калі гэтак будзе працягвацца, я не ведаю, да чаго мы дакоцімся.

— Мне асабіста зразумела, да чаго! — падала добра пастаўлены голас педагог.— Дачакаемся, што яны ўцягнуць моладзь у падваротні. Вы бачылі, як яны апранаюцца? Нармальнаму чалавеку страшна міма прайсці. А чым яны ў сваіх кампаніях займаюцца? Брыдотаю! Гэта самае мяккае вызначэнне, якое я магу падабраць.

— Упэўнена, што рок пратрымаецца нядоўга,— суха рэзюміравала музыказнаўца.— Рок — гэта не музыка. Гэта мода. Разумееце: мо-да! І, як усякая мода, рана ці позна пройдзе.

— Але ад гэтай моды яны робяцца шалёныя,— запярэчыў псіхолаг.— Гэта не захапленне музыкай — гэта масавая форма вар'яцтва. Як і ўсякую хваробу, яе трэба лячыць.

Надышла чарга выступіць і мне.

— Таварышы! — сказаў я.— Ды што ж гэта? Азірніцеся нарэшце наўкол! Ну чаму вы лічыце, што рок — гэта абавязкова кепскі густ і поўная адсутнасць культуры? Чаму прысутныя пераканаюы, што гэта мода і часовая з'ява? Рок у модзе, гэта праўда. Праўда і тое, што заўтра, магчыма, ён будзе менш папулярны, чым сёння. Але ён застанецца! Як застаўся джаз. Бо, як і джаз, рок з'явіўся не з чыйсьці выпадковай прыхамаці, а з прычыны аб'ектыўных законаў развіцця музычнага мастацтва. Не трэба вінаваціць рок у тым, што ён перакрэслівае цікавасць моладзі да класічнай, народнай і іншай музыкі. Цікавасць забіваем мы самі — няўмела арганізаванай сістэмай музычнага выхавання, а дакладней, амаль поўнай яе адсутнасцю. Калі мы не можам пераканаць юнакоў і дзяўчат, якія захапляюцца музыкай, што лепшы інструмент — гармонік, а лепшы спосаб развіцця музычных здольнасцей — удзел у аркестры народных інструментаў, ці азначае гэта, што мы павінны забараняць ім слухаць музыку, якую яны самі сабе абралі? І давайце не будзем, нарэшце, блытаць прычыну з вынікам. Не «металісты», «брэйкеры» або «хвалісты» прывялі нас да негатыўных з'яў у маладзёжным асяроддзі. Наадварот: негатыўныя з'явы нарадзілі маладзёжныя групоўкі.

Але — каюся! Не прамаўляў я гэтага маналога. Аб чым шкадую. Усё было: і нарада, і выступленні. А вось маналога — не было. Што зробіш, калі патрэбныя словы прыходзяць у галаву ўжо на лесвіцы... На нарадзе я толькі спытаўся, ці быў хто-небудзь з прысутных хоць раз на канцэрце рок-музыкі?

І — красамоўны факт! — выявілася, што з прамоўцаў ніхто не быў. Ніводзін чалавек. Аніводнага разу.

— А навошта? — незадаволена зморшчыўся вучоны-філолаг.— І так ясна, што да чаго...

Магчыма, некалі адшукаецца даследчык, які захоча ўзнавіць гісторыю рок-жанру на Беларусі. І тады яму ніяк не прайсці міма дзвюх адметных падзей, што здарыліся вясной 1986 года.

...30 красавіка і 1 мая. Эксперыментальны маладзёжны цэнтр пры ЦК ЛКСМБ праводзіць у Мінскім Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў рок-канцэрты з удзелам самадзейных груп «Бонда», «Магістрат» і «Мінск». Праграма мае сімвалічную назву «Тры колеры». Сэнс яе тлумачыцца вельмі проста: тры колеры — тры групы, якія ўпершыню выносяць на суд масавага гледача свае работы і якія прытрымліваюцца трох розных напрамкаў рок-музыкі.

Пачынае праграму група «Мінск» (яе салістка Юлія Скараход выступае цяпер у «Верасах»). Першыя кампазіцыі пачуць не ўдаецца: апаратура хрыпіць і шыпіць — не было часу настроіць, да апошняй хвіліны было незразумела, дазволяць канцэрт ці не... Музыканты мужна змагаюцца да канца, гук нарэшце стабілізуецца, але ўражанне ад выступлення — змазанае. Група пакідае сцэну пад ветлівыя апладысменты.

А на сцэну ўрываецца «Магістрат». Саліст, адзеты ў пінжак і балетныя калготкі, падлятае да мікрафоннай стойкі, адрывае яе ад падлогі і... прыкладна трэцяя частка залы зрываецца з месцаў. Музыкі зноў не чуваць — гэтым разам яна патанае ў ляманце прыхільнікаў «металу», якія ўзбуджана скачуць у праходах і каля сцэны. Натхнёны «Магістрат» з ходу выконвае адну кампазіцыю, другую, трэцюю і пакідае сцэну пад разбойніцкі свіст. Лямант аціхае. Намеснік начальніка ўпраўлення культуры гарвыканкома, якая сядзіць побач са мной, з цяжкасцю пераводзіць дух.

«Бонду», якая грае ў жорсткай, але не «металічнай» манеры, зала слухае адносна спакойна.

Назаўтра ўсё паўтараецца.

Так выглядала першая, аброслая неверагоднымі чуткамі спроба «выцягнуць» мінскі самадзейны рок з «падполля», усталяваць кантакт актыўнага маладзёжнага цэнтра з наведнікамі шматлікіх «музычных падваротняў». І няхай гэтая спроба была не зусім удалая, але яна дапамагла прадстаўнікам грамадскіх арганізацый і ўдзельнікам розных нефармальных аб'яднанняў паглядзець нарэшце адно аднаму ў вочы.

Праз паўгода пасля апісаных канцэртаў у Наваполацку адбыўся першы рэспубліканскі конкурс маладзёжнай палітычнай песні, дзе рок-жанр атрымаў нарэшце афіцыйную прапіску ў рэспубліцы.

Журы ўпершыню за ўсю гісторыю падобных конкурсаў надало годнасць лаўрэатаў калектывам, якія выконвалі музыку гэтага напрамку. Імі стала брэсцкая група «Залатая сярэдзіна», мазырская — «Адлюстраванне», наваполацкая — «Шанц». Першыя дзве групы пасля поспеху ў Наваполацку набылі вядомасць, выступалі з канцэртамі ў розных гарадах рэспублікі, песні ў іх выкананні не раз гучалі па радыё і тэлебачанні. Асабліва прыкметны ўзлёт «Адлюстравання»: да конкурсу ў Полацку наўрад ці хто мог уявіць, што афіцыйнага прызнання можа дамагчыся калектыў, які грае ў стылі цяжкі рок, стылі, што выклікае такія супярэчлівыя меркаванні.

А зараз зноў вернемся да тае нарады... Дакладней, да думак, якія я вынес адтуль. Рок прынёс на нашу эстраду новую эстэтыку. Новую настолькі, што мы былі проста не гатовыя прыняць яе. Раскаваная манера кантакту музыкантаў з залай, арыгінальнае адзенне, з'яўленне ў рэпертуары дагэтуль новых песенных тэм выклікаюць у прыхільнікаў традыцыйнай эстрады прыступы бурнага абурэння і аб'яўляюцца імі ледзь не верхам амаральнасці. А новая музыка дыктуе і новыя формы правядзення канцэртаў. Уседзець на месцы, слухаючы «завадны» рытм, што нясецца са сцэны, немагчыма. Асабліва, калі табе 15—17—19 гадоў. Рок-жанр патрабуе ад гледача актыўнага саўдзелу... Не, я не бяруся апраўдваць тых яго «фанатаў», якія, давёўшы сябе да стану крайняй эмацыянальнай узбуджанасці, гатовы знішчаць усё, што ні трапіць пад руку. Але не магу зразумець і тых адміністратараў, якія праводзяць рок-канцэрты ў непрыстасаваных памяшканнях: гэтаму жанру патрэбна хутчэй танцавальная, чым канцэртная зала. Апошнім часам у залах Масквы і Ленінграда на канцэртах рок-выканаўцаў сталі пакідаць спецыяльныя месцы для тых, хто жадае патанцаваць. І, уявіце, нічога асаблівага не здараецца: і інвентар застаецца цэлы, і гледачы — задаволеныя. Так, не трэба ламаць крэслы. Трэба смялей ламаць старыя стэрэатыпы.

За некалькі апошніх гадоў адносіны да року зведалі прыкметную эвалюцыю: ад амаль поўнага яго непрыняцця да прызнання права на жыццё. Самая яркая ілюстрацыя да «эвалюцыі» — лёс цяжкага року. Пры тых знішчальных ацэнках, якія давалі гэтаму жанру ў прэсе легіёны «знаўцаў» музыкі (як і ў футболе, тут усе знаўцы), цяжка было ўявіць, што «металічныя» каманды праб'юць сабе дарогу на вялікую сцэну. Прабілі! З'явіліся прафесійныя калектывы, якія даюць канцэрты, ёсць пласцінкі, выходзіць «метал» на экраны тэлевізараў.

Але і тут не абыходзіцца без цяжкасцей.

Варта было Беларускаму тэлебачанню паказаць выступленне мінскай «металічнай» групы «7 герц», як адразу ж газеты паспяшаліся кінуць аўтарам перадачы папрок: як можна такое паказваць? Маўляў, ці ведаем, што робім? Спрацавала прывычка жыць ва ўмовах абмежаванай галоснасці: няхай, маўляў, з'ява існуе, але няхай яе адначасна ўсё роўна як не будзе. Вакол цяжкага року зламана нямала крытычных коп'яў, але ці ўсе крытыкі добра ведаюць прадмет спрэчкі? Не ўпэўнены, бо некампетэнтных і нават абсурдных меркаванняў наконт гэтай музыкі начытаўся і наслухаўся за апошнія гады нямала. Тэлебачанне дало магчымасць усім зацікаўленым праверыць свае адносіны да з'явы, падмацаваць сваю пазіцыю важкімі аргументамі. Як часта мы спяшаемся ўласнае няўменне весці аргументаваную дыскусію замяніць катэгарычным патрабаваннем: «не пушчаць!». Бо так прасцей. Больш звычна. І зручней. Толькі ж ці трэба?

...Гадоў праз дзесяць будзем усміхацца, прыгадваючы ўласныя страхі перад навалаю хвалі року. Балазе гісторыя самой рок-музыкі дае нямала прыкладаў для супастаўлення. Хто з цяперашніх прыхільнікаў сучасных рытмаў паверыць, што, напрыклад, рок-н-ролам — гэтым авеяным рамантычнай смугою папярэднікам цяжкага року — у сярэдзіне 50-х гадоў палохалі моладзь? Колькі было залпаў з буйных гарматаў па вераб'ях! Колькі страчана энергіі і сіл! Страшна згадваць. Але вось страсці даўно сціхлі, і цяпер рок-н-рол (падумаць толькі!) нязменна ўваходзіць у конкурсную праграму бальных танцаў...

— Дык ці ж навучымся мы нарэшце рабіць высновы з бясконцых калямузычных баталій? Няблага было б адначасова зазірнуць і ў будучыню: якая ж чарговая музычная хваля накоціць на нас заўтра? Ды не, зазірнуць у будучыню якраз і не выйдзе: няма ў нас такога органа, які б займаўся прагназіраваннем развіцця музычных жанраў, вывучаў змены ў музычных схільнасцях слухачоў. І, пэўна, калі з'явіцца новая плынь,— а гэта абавязкова адбудзецца,— зноў пачнём ламаць галаву: а што ж нам з ёю рабіць?

І збіраем чарговае пасяджэнне.



Фота Генадзя СЛЕСАРОНКА

# МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП

Саманта Фокс увяла моду на «спя-
ічак-манекеншчыц». Нічога дзіў-
ага,— магчымасці відэа прад'явілі
усім новыя патрабаванні да знешня-
а выгляду выканаўцаў. Маладую
прыгожую Сабарыну (1968 года на-
раджэння) называюць італьянскім ад-
казам Саманце. Першы сінгл мане-
кеншчыцы з Генуі пад назвай «Бойз»
(«Хлопчыкі») абяцае стаць вялікім
хітам.

Новая пласцінка Бруса Спрынгсціна называецца «Танэл оф Лав» («Тунэль кахання»). Праца над дыскам працягвалася 6 месяцаў. Усе інструментальныя партыі Брус выконваў сам.

Бернард Самер з групы «Нью Ордэр» запісвае свой першы сольны дыск «Сабстэнс» («Сутнасць»).

Спагна, новая суперзорка музыкі дыска, хоць і італьянскага паходжання, але ўжо трапіла ў хіт-парад «Нью Мьюзікл Экспрэс». Спявачка з Вяроны для дэбюту выбрала песню Джымі Хендрыкса «Хэй, Джо». Яе апошні сінгл са шлягерам «Кол мі» («Пакліч мяне») паспяхова крочыць уверх у розных хіт-парадах.

Спявачка Ціна Чарльз вырашыла вярнуцца на сцэну пасля амаль дзесяцігадовага маўчання.

Яшчэ адна дэбютантка на брытанскай рок-сцэне — сястра Майка Олфілда Салі. Ужо выйшаў яе першы сінгл «Сілвер Дэгер» («Срэбны кінжал»), рыхтуецца таксама і альбом. Салі не толькі спявае, але і добра танцуе, вывучала філасофію і англійскую філалогію. На сцэне яна глядзіцца артысткай інтэлігентнай і ўсебакова адукаванай.

У Мадоны з'явіўся моцны канкурэнт — 25-гадовая спявачка з Санта-Монікі Сюзан Вега. На сцэне яна выступае з 16-ці гадоў, выконваючы ў асноўным уласныя песні ў стылі фолк. Пасля песні «Лука» і дыска «Соліт'юд Стэндынг» («Стоячы адзінока») Сюзан апынулася ў групе найбольш папулярных амерыканскіх выканаўцаў. Поспех, аднак, не падманвае спявачку — яна збіраецца наблізіцца ў сваёй творчасці да такіх сур'ёзных выканаўцаў, як Пітэр Габрыэл і Кейт Буш.

Вядучая зорка музыкі рэгі Пітэр Тош забіты непадалёк ад свайго дома ў Кінгстане. Трое невядомых сур'ёзна паранілі таксама жонку Тома і яго сябра, дыск-жакея Фры.









«Дыназаўры» року, група «Камадорс» выпусціла пласцінку «Зэ Вокал Элбум», у якую ўвайшлі даўнія, найбольш вядомыя песні артыстаў. У запісе прынялі ўдзел Ціна Тэрнер, Нэнсі Уілсан, Нэндзі Крафард і Бобі Уомэк.

На Бі-Бі-Сі зроблены фільм пра штогадовы польскі рок-фестываль у Яроціне. Называецца ён «Мая кроў, твая кроў». Аўтары гэтага фільма ўзялі інтэрв'ю практычна ва ўсіх найбольш аўтарытэтных асоб польскай рок-эстрады,— менеджэраў, дыскжакеяў, кампазітараў, аўтараў тэкстаў, сацыёлагаў, гукарэжысёраў. У фільме таксама зняты выступленні груп «Рэспубліка», «Маанам», «Кат», «Мадам», «Сякера», «Масква», «Джэм», «Касметкі Місіс», «Цільт», «Ву Ву», «Ірэнеуш Дудэк», «Пінкі», «Айя РЛ» і інш.

У Шчэціне (ПНР) упершыню праведзены конкурс джазавых скрыпачоў. Нягледзячы на незвычайнасць, ён прыцягнуў увагу шматлікіх музыкантаў і слухачоў. Першае месца і прыз «Залаты смычок» заваяваў музыкант з ФРГ Ёрг Відмосэр. Астатнія прызавыя месцы дасталіся скрыпачам з ГДР.

У «Прэці Мэйдс» новы гітарыст,— Энгел Герхарт Шляйфер. Упершыню ён выйшаў на сцэну з групай у час гастроляў у Венгрыі. Астатнія члены «П. М.» вельмі задаволены новым музыкантам. Цяпер група знаходзіцца ў Даніі, дзе запісвае новы альбом.

Развітаўшыся з групай «Эксэпт», Уда Дзіркшнайдэр заснаваў сваю ўласную пад назвай «Уда». У інтэрв'ю, аднак, ён заявіў, што супрацоўніцтва з «Эксэпт» можа быць магчымым у будучыні.

Эйс Фэлі, які пакінуў «Кіс», пасля запісу сольнага альбома «Камета Фэлі» выказаў жаданне вярнуцца ў групу.

У Ленінградзе, у зале Выбаргскага Палаца культуры адбылося прадстаўленне рок-оперы «Ісус Хрыстос Суперзорка». Спектакль паказалі польскія артысты, якія знаходзяцца на гастролях у СССР: група «ТСА», М. Астроўска (Магдалена), М. Пякарчык (Хрыстос), А. Пячынскі (Іуда).

У канцы мінулага года ў час гастроляў у Кіеве адбыўся апошні канцэрт групы «Дойліды» разам з Юрыем Лазой. Больш Лаза ў «Дойлідах» выступаць не будзе.

**Юрый БУДЗЬКО**



Саўлюс ШАЛЬЦЯНІС

# МАТЫЛЁК У ДРАЎЛЯНЫХ ЧАРАВІЧКАХ

НАВЕЛА

**Вядомы літоўскі празаік, драматург, кінасцэнарыст Саўлюс Шальцяніс нарадзіўся ў 1945 годзе. Але вонкава выглядае так, што можна падумаць, быццам у ягонай метрыцы пераблыталі дзве апошнія лічбы. Малады ён і душою. Таму невыпадкова лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Літоўскай ССР 1973 года (за стварэнне сцэнарыя фільма «Геркус Мантас»), драматург, п'есы якога ідуць у тэатрах краіны і за мяжою, стаў аўтарам лібрэта першага літоўскага рок-мюзікла «Загоншчыкі агню» (1974), які і дагэтуль карыстаецца поспехам у моладзі.**

Познім вечарам зімы тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят другога года вучаніца трэцяга класа Віргутэ Кадунайтэ плакала ў кутку за грубкай, таму што на навагоднім прадстаўленні для пачатковых класаў, калі яна бесклапотна пырхала з марлевымі крылцамі, зламаліся яе драўляныя чаравічкі. Школьны вартаўнік Тускеніс пашкадаваў абсмяянага хлапчукамі і дзяўчынкамі матылька, апусціў заслону і паабяцаў, што, прыйшоўшы дахаты, зладзіць Віргутэ новыя падэшвы, ды яшчэ з гэтакімі невялічкімі завязкамі — каб гнуліся, як гумавыя. Пайшоў, але не вярнуўся, бо ўжо зранку прапах гарэлкаю.

Вось дзяўчынка і засталася за грубкаю, таму што не рашалася без драўляных чаравічкаў прабірацца ў цемры за некалькі кіламетраў праз снежныя сумёты дадому, у вёску Арадэляй, і цярпліва чакала вартаўніка Тускеніса з удасканаленымі падэшвамі, тым больш што ў апусцелай школе яшчэ не тушылі святло і жудасныя пацукі не пачалі скакаць цераз парты ў пошуках крошак сыру ці, можа быць, маленькае дзяўчынкі, пакінутай на ноч за грубкаю... Вось і настаўніца Аткачутэ, дзякуй богу, усё яшчэ стаяла на каленях каля карты Грузінскай ССР, нібыта каля магілы сваёй маці, якая нечакана памёрла ад сардэчнага прыступу. На ўроку геаграфіі настаўніца Аткачутэ жорстка і непапраўна памылілася на вачах у самога загадчыка аддзела асветы таварыша Загурскага!.. А яна ж так рыхтавалася да ўрока! Нават свой лімон, захутаны разам з гаршчочкам у шарсцяны шалік, прынесла ў клас — усё ж такі расліна з Грузінскай ССР, сямейства цытрусавых... Згадала ўсе карысныя выкапні. Нават віцязя ў тыгравай шкуры прыпляла. А Горы, гарадок Горы, дзе нарадзіўся... дзе нарадзіўся... узяла дый забыла. Можа, таму, што вельмі турбавалася пра сваю хворую маці. Як тут не звар'яцець, калі таварыш Загурскі, быццам капаючы ім абедзвюм вялікую яму, што так і аддавала сібірскім холадам, ледзь не кожнага тыдня ўсё прыходзіў і прыходзіў на яе ўрокі, пагрозліва свідруючы вачыма і, бы зачараваны, не кажучы ані слоўца!.. Вось чаму гэты біблейскім богам пракляты грузінскі гарадок сціснуў горла, паралізаваў рукі і ногі. Ёй здавалася, што ўвесь малады зубчасты Каўказскі хрыбет лавінаю раптам зрушыўся з пашарпанай карты, усё змятаючы і крышачы на сваім шляху... Але таварыш загадчык, таварыш Загурскі, спыніў гэты абвал. Ужо другі месяц без якойсьці прычыны, ні з таго ні з сяго, быццам апантаны нейкай хваробаю, ён быў да апошняй сваёй клетачкі закаханы ў настаўніцу Аткачутэ і таму парыпваў партаю на яе ўроках...

Стала цёмна, і не толькі ў вачах у настаўніцы. Нітачка электрычнае лямпачкі, бы чырвоны чарвячок на кручку, выгіналася ў густой рацэ цемрадзі над чорнай, рашуча і дробна ўскудлачанай галавою загадчыка і саламяна-белаю патыліцай настаўніцы...

— Правільна, таварыш Аткачутэ, успомнілі: Горы!.. Гэта выдатна... Горы!.. І дня без вас не магу... Прабачце мае безадказныя прамовы... Абапрыцеся на мяне, не саромцеся, таварыш Аткачутэ... Я чалавек верны, агнём выпрабаваны... Што вы шэпчаце? Абсалютна правільна шэпчаце, таварыш Аткачутэ: Горы... Горы... Горы...

Пасля кожнага гарачага ўздыху загадчыка лямпачка ўспыхвала ярчэй, і змучаныя за два месяцы бяссоннымі начамі вусны пудзіла раённых настаўнікаў пакідалі на шыі настаўніцы фіялетавыя, бы апёкі, сляды, падобныя на штампікі аддзела асветы... Успыхнула напаследак лямпачка. І тады ацёклымі з лёту ножкамі, разбуджаны сярод зімы, са зламанымі крылцамі, увесь выпэцканы ўжо не пылком, а попелам і пылам з грубкі пратупаў памяты матылёк — трэцякласніца Віргутэ Кадунайтэ — міма паважанае настаўніцы і чужога кучаравага загадчыка, які закрыў сваімі плячыма горную рэспубліку Грузію — і бы рукою зняло ўсе заклінанні...

На ўсё жыццё запомніць яна гэтыя некалькі кіламетраў у халодную ноч тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят другога года, таму што чым далей за спіною заставаўся горад, тым цямней і страшней рабілася. Нібыта нейкая гіганцкая істота, якая наступала на пяткі, выцягнуўшы вусны да нябёсаў, дзьмула і дзьмула, і ўсё хрыпела: гор-р-ры, гор-р-ры... І згасалі адна за адною зоркі... А яе заінелыя крылцы, а яе ножкі ў адных абледзянелых панчохах на ганку роднае хаты ў вёсцы Арадэляй стукнулі, быццам зладжаныя вартаўніком Тускенісам драўляныя чаравічкі — нягнуткія, без абяцаных завязак, без дзвярэй, без аканіц!..

**Пераклалі з літоўскай Алесь АСТАШОНАК і Вітаўтас ГРЫГАЛЮНАС**

**Мал. Адама ГЛОБУСА**



Уладзімір СЦЯПАН

# ДОЎГ

АПАВЯДАННЕ



Мал. аўтара

Ён некалькі хвілін стаіць у двары і глядзіць на вокны пяціпавярховага дома. На трэцім паверсе гараць два акны. Першае ад пад'езда — жоўты квадрат — кухня, другое — шэра-блакітны прамакутнік — зала.

Ён бярэцца за ручку, адчыняе на сябе дзверы і ўваходзіць у цёмную цеплыню пад'езда. Крыху чакае, звыкаецца з цемраю і асцярожна пачынае ўздымацца па лесвіцы, трымаючыся за гладкую фарбаваную парэнчу.

У гулкай цішыні добра чуваць шамаценне цэлафану, у які загорнуты кветкі, добра чуваць крокі, хоць ён стараецца ісці ціха.

На пляцоўцы трэцяга паверха ён спыняецца: апускае каўнер паліто, папраўляе валасы, перакладае шаматкі букет у левую руку. Перад ім дзверы з вялікаю кропляй жоўтага вочка. Над вочкам цьмяна пабліскваюць дзве лічбы.

Ён навобмацак знаходзіць кнопку званка, націскае і робіць крок ад дзвярэй. Жоўтая кропля вочка згасае, потым успыхвае, і ён чуе голас: «Зараз, зараз!»

Дзверы адчыняюцца. У пароэе стаіць мужчына і глядзіць на яго: спачатку на твар, потым на кветкі, якія пабліскваюць цэлафанавай абалонкай.

— Вам каго, малады чалавек? — расцягвае словы мужчына.

— Добры вечар. Вы мяне не пазнаеце? Я Раман.

— Рома, Раман,— выгаворвае кожны гук мужчына.— А, Раман! Прабач, не пазнаў. Праходзь. Даўно цябе не бачыў, вось і не пазнаў адразу.— Мужчына адыходзіць убок, саступае яму дарогу і падае руку.

Раман уваходзіць у калідор і глядзіць на свае кветкі.

— А жонка, ведаеш, пайшла да знаёмай, але хутка павінна быць.

— Гэта ёй,— Раман падае букет гаспадару.

— Распранайся і праходзь, будзем піць каву. Я толькі што зварыў,— мужчына знікае ў кухні, адкуль чуецца шамаценне цэлафану і шум вады.

Раман распранаецца і праходзіць у кухню. Гаспадар паказвае на белы табурэт між халадзільнікам і сталом. Раман сядае. Гаспадар здымае з пліты кававарку, ставіць яе на белы пластык стала побач са шкляным цыліндрам, у якім стаяць кветкі.

У зале працуе тэлевізар. Голас дыктара добра чуваць у кухні. Раман пачынае прыслухоўвацца.

— Гэта тэлевізар,— удакладняе гаспадар.— Цікавая перадача пра археолагаў. Ты ж таксама некалі быў археолагам, памятаю, як ты расказваў.

— Некалі быў.

— А мне падабаецца глядзець тэлевізар. На тым тыдні была гэтая перадача, цяпер працяг.

**...нечаканыя знаходкі здзівілі саміх археолагаў. Знойдзеныя на невялікай глыбіні, яны наводзяць на думку, што раней...**



Гаспадар ставіць на стол два керамічныя кубкі.

**...але сцвярджаць штосьці больш акрэслена пакуль немагчыма...**

— Вось вучоныя, і тыя не могуць сказаць акрэслена пра тое, што было раней. Ды і што скажаш, калі столькі часу прайшло. Табе падабаецца глядзець тэлевізар?

— Не, я больш люблю чытаць.

— Раней я таксама шмат чытаў, а цяпер гляджу тэлевізар. Гэта цікавей і прасцей. Жонка чытае, а я — толькі газеты.

**...вучоныя лічаць, што знаходкі даюць адказ на незлічонае мноства пытанняў...**

— Адкажуць на адны пытанні, з'явяцца другія,— кажа гаспадар і пачынае разліваць густую духмяную каву па кубках. Спачатку Раману, потым сабе.— Ну, а ў цябе якія навіны? — гаспадар сядае да стала і кранае далонню нікеляваны бок кававаркі.— Ты мо не вячэраў?

— Не, я павячэраў, дзякуй вам.

— Ну, як ведаеш.

**...хаатычна раскіданыя, перамешаныя і сцэментаваныя часам, гэтыя рэшткі можна лічыць самым багатым...**

— Я хачу прасіць прабачэння і ў вас, і ў вашай жонкі, што не аддаў доўг у тэрмін, як абяцаў,— ён выгаворвае кожнае слова, дастае з кішэні і кладзе на стол грошы.

— Які доўг? Пра што ты, Раман? — здзіўлена пытае гаспадар і глядзіць на акуратныя паперкі.— Я нічога не ведаю.— Гаспадар устае, бярэ кававарку, ставіць яе ў ракавіну і зноў глядзіць на грошы, што ляжаць ля кветак на белым пластыку стала.

**...цяжка сказаць. Спецыялісты, аднак, схільны меркаваць, што ўсе знаходкі...** — спакойна гаворыць дыктар пад гукі старажытнай мелодыі.

— Я пазычаў у вас грошы два гады назад, але ў тэрмін аддаць не змог, і вось цяпер...

— Чакай, Раман,— гаспадар перапыняе яго.— Я памятаю, як ты пазычаў, але жонка казала, што ты аддаў. Ці я нешта блытаю? Не, я дакладна памятаю: яна казала, што доўг ты аддаў.

**...Пасля дажджоў,**— гаворыць пад музыку дыктар,— **воды рэк, якія вярнуліся ў свае рэчышчы, панеслі і сабралі іх у адным месцы, дзе яны і захаваліся да нашага часу...**

— Давай закурым. Нешта я нічога не разумею,— гаспадар бярэ з падваконня цыгарэты і запалкі.

**...гіпотэзы, хто мог гэта зрабіць, хвалюючь вучоных, і яны ўпэўнены, што загадка крыецца ў саміх паводзінах людзей...**

Гаспадар зачыняе дзверы кухні, гук тэлевізара робіцца далёкі, і словы разабраць немагчыма.

— Я толькі цяпер прынёс, мяне не было ў горадзе ўвесь гэты час,— кажа Раман і паварочвае ў пальцах гарачы кубак.

— Не было. Нешта мы з табой блытаем. Закурвай,— гаспадар падае цыгарэты.

— Я кінуў курыць.

— А я вось не магу без цыгарэты. Колькі ні спрабаваў, не атрымліваецца. Звычка. А ты добра зрабіў, што кінуў,— гаспадар запальвае цыгарэту і шукае вачамі попельніцу. Раман падае круглую попельніцу, якая стаяла на халадзільніку.

— Ты пі каву, а то астыне,— выдыхае дым і бярэ свой кубак гаспадар.

Яны моўчкі п'юць каву.

Зашклёныя дзверы кухні асвятляюцца. Шкло робіцца малочна-жоўтае.

— Гэта ты? — прыадчыняе дзверы і кажа у калідор гаспадар.

— Што ты пытаеш? — адказвае жаночы голас.

— Яна. Зараз усё высветліцца,— гаспадар кладзе цыгарэту на край попельніцы і выходзіць у калідор.

**...як заўсёды, адсутнасць пісьмовых сведчанняў дае магчымасць для стварэння розных супярэчлівых меркаванняў. Але вучоныя спадзяюцца, што далейшы пошук новых фактаў дасць дакладныя і пераканаўчыя...** — чытае тэкст ужо жаночы голас пад старажытную мелодыю.

— Добры вечар, Раман,— кажа гаспадыня і ўваходзіць у кухню.

— Вечар добры,— вітаецца Раман.

— А мы цябе чакаем, каву п'ём,— кажа гаспадар і праходзіць на сваё месца.— Гэта табе кветкі,— ён пераводзіць позірк з Рамана на жонку.

— Дзякую, Раман, мне вельмі прыемна,— яна сядае на табурэт ля акна.

— А мы тут разбіраемся наконт грошай,— позірк гаспадара спыняецца на акуратных паперах, што ляжаць ля кветак.

— Я вам прынёс доўг, што пазычаў даўно, можа, вы забыліся? Мне няёмка, што не змог аддаць...

— Прабач, Раман,— мякка перапыняе гаспадыня.— Які доўг? Ты ж аддаў яго даўно, як абяцаў. Ты нешта блытаеш.

— Вось і я думаю, што ён нешта блытае,— гаспадар бярэ цыгарэту, глядзіць на грошы, потым на Рамана, потым на жонку.

— Ты перадаў нам грошы ў тэрмін, як абяцаў, праз свайго брата. Я гэта добра памятаю.

— Што вы, у мяне няма братоў,— Раман паварочвае ў пальцах парожні кубак.

— Тады не ведаю, але грошы мы атрымалі. Можа, ты каго прасіў? — яна глядзіць на Рамана здзіўленым і заклапочаным позіркам.

**...доказам гіпотэзы могуць быць толькі факты. А факты настолькі супярэчлівыя, што ні адна гіпотэза не вытрымлівае іх колькасці. Таму сцвярджаць што-небудзь дакладнае немагчыма. Факты, якія з'яўляюцца ў час пошукаў, нішчаць гіпотэзы, і таму нам застаецца...** — запаўняе цішыню кватэры голас дыктара.

— Мо яшчэ вып'ем кавы? — гаспадар устае, падыходзіць да крана і пускае ваду. Потым чыркае запалкай, бярэ цыгарэту са стала, прыкурвае і запальвае фаерку. Кран пачынае вуркатаць.

— Ды выключы ты ваду,— злуецца гаспадыня,— і тэлевізар. Нiхто ж не глядзіць.

— Тэлевізар, тэлевізар,— выгаворвае гаспадар, паварочвае керамічную ручку крана і выходзіць з кухні.

**...спадзяванні вучоных на далейшы пошук. Яны лічаць, што адказ на пытанні дасць час, і тады можна будзе меркаваць...**

Музыка і голас дыктара абрываюцца, і ў цішыні чуваць, як падаюць кроплі ў поўную кававарку.

— Ведаеш, што мне запомнілася? Той чалавек, што прынёс грошы, калі я яго праводзіла,— пайшоў не ўніз па лесвіцы, а ўверх. Гэта мяне здзівіла, але потым я забылася.

Гаспадар вярнуўся, не пачуўшы апошняй фразы.

— Што ты кажаш?

— Я кажу, ён пайшоў уверх па лесвіцы.

— Хто пайшоў?

— Той, хто прынёс грошы.

— Я гэта чуў.

— Нашто тады перапытваеш?

— А што далей?

— Я зачыніла дзверы, вось што далей.

— Можа, гэта быў паштальён?

— Кінь жартаваць,— нервуецца гаспадыня.— Калі будзеш варыць каву, дык вары, а не будзеш — выключы пліту.

— Я на ноч не хачу піць, калі толькі вы з Раманам,— адказаў гаспадар і сеў да стала.

Раман паглядзеў на гаспадара, потым на грошы, потым на гаспадыню.

— Ну што, мне трэба ісці.

— Дзіўна ўсё гэта,— гаспадар паварочвае ручку пліты.

— Раман, дык ты забяры грошы, мо акажацца той, хто перадаў,— просіць гаспадыня.

Гаспадар падсоўвае да Рамана акуратныя паперкі.

— Атрымліваецца, што гэта невядома чые грошы,— разважае Раман і ўстае з-за стала.

— Твае гэта грошы,— з націскам на першае слова кажа гаспадар.

Раман бярэ грошы, складае іх удвая і глядзіць у акно. Там у чорна-сінім шкле ён бачыць сваё адлюстраванне, праз якое прасвечваюцца вокны праціглеглага дома. Ягонае адлюстраванне трымае ў руцэ паперы, потым кладзе іх у кішэнь.

— Дзякуй вам за каву і выбачайце за клопат.

— Які клопат,— адказвае гаспадыня, ідзе да стала, бярэ кубкі і нясе іх да ракавіны.

Раман разам з гаспадаром выходзяць у калідор. Раман апранаецца, потым дастае грошы і перакладае іх у паліто.

З кухні выходзіць гаспадыня з мокрымі рукамі.

— У пад'ездзе цёмна,— гаворыць яна.— Нехта павыкручваў лямпачкі.

— Падшыванцы, відаць. Збіраюцца на другім паверсе, кураць,— адказвае гаспадар.

— На нашым паверсе яшчэ трохі відаць, а ўнізе зусім цёмна,— гаспадыня падыходзіць да дзвярэй і адчыняе іх.— Ты не хвалюйся, Раман, я думаю, знойдзецца твой сябар, які аддаў грошы.

— Паглядзім,— няўпэўнена адказвае Раман, націскае руку гаспадара, развітваецца з гаспадыняй і выходзіць на пляцоўку.

— Дзіўна ўсё гэта. У пад'ездзе цёмна...— чуе ён голас гаспадара за дзвярамі.

Ён азіраецца. Залатая кропля вочка згасла. Ён падымае галаву і глядзіць угару. Між лесвічных маршаў прабіваецца цьмянае жоўтае святло. Ён падымае каўнер паліто і пачынае сыходзіць у цёмную глыбіню пад'езда. Навобмацак знаходзіць дзверы, штурхае іх і выходзіць у двор. Дзверы гучна грукаюць.

«Трэба было прытрымаць. Грукату нарабіў»,— думае ён, адыходзіць ад пад'езда і глядзіць на вокны дома. На трэцім паверсе гарыць жоўты квадрат — кухня, наступнае — чорны прамакутнік — зала. У пад'ездзе, між чацвёртым і пятым паверхамі, гарыць святло.

«Туды падшыванцы не дайшлі, відаць, пабаяліся»,— думае ён.

Потым ідзе па вуліцы. Хочацца курыць. Людзі ідуць, нагнуўшы галовы і наставіўшы каўняры. Яны не азіраюцца, калі праходзяць побач.

«Трэба было ўзяць цыгарэту, але ж я кінуў курыць. Тады не трэба. Год не курыць, а цяпер хочацца. Нiхто з прахожых не курыць, а мне патрэбна цыгарэта. Трэба падумаць пра ўсё гэта».

«Спадзяванні вучоных на далейшы пошук. Яны лічаць, што адказ на пытанні дасць час і тады будзе магчымасць меркаваць...» — успомнілася фраза, пачутая па тэлевізары.

Вуліца збягае пад гару да парка. Ён ідзе хуткай хадой, нібыта спяшаецца. Ідзе да моста, пераходзіць рэчку, паварочвае і павольна ідзе ля вады. Наперадзе шуміць вадаспад і нават у цемры відаць белую сцяну вады, што з шумам падае з пляціны. Супраць плыні ракі вецер гоніць рознае смецце: кавалкі дрэва, лістоту, пабітую скрыню, мяч, а ля самага берага круціцца пластыкавая лялька, выставіўшы з вады белую руку. Вецер гоніць усю гэту драбязу да вадаспада, дзе шуміць і віруе халодная вада. Ад ветру па рацэ бягуць іртутныя блікі.

«Трэба грошы пакласці ў партманет, а то выцягну разам з насоўкаю ці квіткамі і згублю»,— думае ён і спыняецца на падыходзе да вадаспада. Выцягвае партманет, расшпільвае металічную кнопку і разгортвае яго, як кніжку. Замёрзлымі пальцамі дастае грошы, распраўляе храбусткія паперкі і левай рукой пачынае ўкладваць. Цвёрды партманет выслізвае з рук. Ён спрабуе падхапіць яго, але разгорнутая скураная кніжка падае. Вецер выхоплівае лёгкія паперкі грошай і, крутануўшы каля ног, уздымае і нясе іх у цемру — туды, дзе бягуць па чорнай вадзе іртутныя блікі.

Ён павольна нагінаецца, падымае скураную вокладку, зашпільвае і кладзе ў кішэню паліто. Некалькі хвілін узіраецца ў цемру, адшуквае вачыма пластыкавую лялькy, глядзіць на яе белую руку, паварочваецца і, нагнуўшы галаву, ідзе супраць ветру.

**«Воды рэк, якія вярнуліся ў свае рэчышчы, панеслі і сабралі іх у адным месцы, дзе яны і захаваліся да нашага часу...»** — успомніў ён словы дыктара, ідучы да аўтобуснага прыпынку.



# «... ВАШ ЧАС ЯШЧЭ ПРЫЙДЗЕ»

Вось і прайшоў месяц. За гэты час ваш арганізм падужэў і адаптаваўся да сілавых нагрузак. Але не спяшайцеся дагнаць тых, хто ўжо дасягнуў высокіх вынікаў, ваш час яшчэ прыйдзе. Атлетычная постаць і сіла — гэта вынік шматгадовай працы. А зараз вам неабходна зрабіць для сябе правілам нашы рэкамендацыі.

Наступныя выпускі нашай рубрыкі адкрыюць вам «сакрэты» атлетызму.

Прыступаючы да трэніровак па пачатковым комплексе практыкаванняў, цвёрда памятайце, што нагрузка неадменна павінна адпавядаць вашым магчымасцям. Перанапружанне вядзе да перагрэніраванасці, а малая нагрузка зніжае эфектыўнасць заняткаў і прыводзіць да страты фізічнай формы. Аптымальнае рашэнне трэба прымаць сыходзячы з самаадчування.

Вага абцяжараняў падбіраецца паводле наступнага прынцыпу. У кожным падыходзе вы павінны выконваць па 10 паўтораў, калі толькі практыкаваннем не загадзя не вызначана меншая колькасць паўтораў з большай вагою.

Вельмі многае залежыць ад культуры дыхання.

Як дыхаць — гэта няпростае пытанне. Глыбіня і частата дыхання павінны адпавядаць патрэбнасцям арганізму ў дадзены момант. Не старайцеся дыхаць «на запас» перад кожным практыкаваннем. Калі паводле ўмоў практыкавання грудная клетка трохі пашыраецца, рабіце ўдых, пасля выдых. Патрэбны рытм дыхання арганізм знойдзе сам.

Адным з самых складаных пытанняў з'яўляецца рэгуляванне рэжыму вашага харчавання. Неабходна ведаць, з якіх элементаў і частак складаюцца харчовыя прадукты, які працэнт у іх бялку, тлушчу, вугляводаў, калорый і іншых элементаў, як павінен быць збалансаваны рацыён. Гэта вялікая і асобная размова, а пакуль прытрымлівайцеся аптымальнай колькасці бялку (1,5—2 г на 1 кг вагі атлета), тлушчаў і вугляводаў, у тым ліку прадуктаў, якія маюць у сваім складзе солі кальцыю, фосфару, жалеза, магнію. Але ўсе гэтыя рэкамендацыі не дадуць вынікаў, калі вы не будзеце выконваць рэжым дня. Адгэтуль слова «адпачынак» вы павінны ўспрымаць як аднаўленчы працэс. Не толькі спакойны, глыбокі сон (8—9 гадзін) і харчаванне ў пэўны час сутак дапамогуць аднавіць ваш арганізм пасля трэніроўкі. Трэба падумаць і пра зняцце псіхалагічных нагрузак. Ваш адпачынак мусіць быць змястоўны.

А цяпер пяройдзем да пачатковага комплексу практыкаванняў. Ён разлічаны на тры месяцы. Займацца трэба тры разы на тыдзень праз дзень.

У наступных нумарах часопіса пастараемся адказаць на вашы пытанні, даць неабходныя тлумачэнні, абмеркаваць вашы прапановы і пажаданні.

1. Жым лежачы: 4 падыходы па 10 разоў (для развіцця мышцаў грудзей).
2. Адцісканне на брусах: 3 падыходы па 10 разоў (для развіцця мышцаў грудзей).
3. Жым стоячы з грудзей: 4 падыходы па 8—10 разоў (для развіцця дэльтавідных мышцаў).
4. Цяга нахіліўшыся: 4 падыходы па 10 разоў (для развіцця мышцаў спіны і зняцце нагрузкі пасля папярэдняга практыкавання).
5. Падцягванне на турніку «за галаву»: 4 падыходы па 10 разоў (для развіцця шырачэзных мышцаў спіны).
6. Узяцце штангі на біцэпс: 4 падыходы па 10 разоў (для развіцця двухгаловых мышцаў рукі).
7. Узяцце гантэляў на біцэпс па чарзе: 3 падыходы па 8 разоў (для развіцця двухгаловых мышцаў рукі).
8. Узяцце штангі на трыцэпс, «французскі жым»: 4 падыходы па 8 разоў (для развіцця мышцаў рукі: вузкі хват штангі, локці нерухома зафіксаваны).
9. Узяцце гантэляў на трыцэпс нахіліўшыся, па чарзе на кожную руку: 3 падыходы па 8 разоў.
10. Узяцце штангі на мышцы перадплечча: 4 падыходы па 12 разоў (адваротны хват штангі).
11. Прысяданне са штангаю на плячах: 4 падыходы па 10 разоў (для развіцця чатырохгаловых мышцаў бёдраў).
12. Падняцце штангі на плячах мышцамі галёнкі: 5 падыходаў па 12 разоў.
13. Падняцце тулава з паўсагнутымі нагамі: 3—4 падыходы па 20—25 разоў (для мышцаў брушнога прэса).
14. Падняцце ног: 3—4 падыходы па 20—25 разоў.
15. Вярчэнне плечавога пояса з металічнай палкаю: 4 падыходы па 30—40 разоў (для касых мышцаў брушнога прэса; ногі ў зафіксаваным становішчы).

**Уладзімір АЛЕКСАНДРОВІЧ**




**Максім КЛІМКОВІЧ**

# Пераможцы



НАВЕЛА

Ужо была другая палова дня, ужо не хапала пары манет,ададзеных авансам данцыгскаму капітану, які прызначыў месца недалёка ад горада, за сіне-зялёным мысам, і адкуль абяцаў забраць Няміру на заходзе сонца. Ужо засталася за спінай гарадская брама, паўцыркульны пралёт якой фланкіравалі лёгкія вежы, і два сумныя грыфоны, што трымалі ў лапах геральдычны шчыт, пазіралі ўслед з-пад свінцовага вадасцёку, высалапіўшы доўгія языкі. Няміра не азірнуўся на іх. Гарадскі брук нырнуў пад жвір, перамяшаны з пульхным пылам,— вуліца пераўтваралася ў дарогу, а горад — у пасады. Дамы пасунуліся адзін ад аднаго, даўшы месца дагледжаным гародчыкам. Дарога канчалася цвінтаром, над дрэвамі якога жаўцелі свечкі-званіцы.

Сонца было падважана яшчэ высока, сіне-зялёны мыс быў даволі блізкі, а сітуацыя такая, што не лішнім было заручыцца падтрымкай бога. Не абцяжараны рэчамі, Няміра ішоў да касцёла.

За парогам храма крокі набылі гукавую рэальнасць, каляровыя камлі пылу павольна свідравалі маёлікавую падлогу, пацягнутая золатам пустая амбона ляжала на падлозе ценем-калюжынай. Няміра стаў на адно калена, пераждгнаўся, потым няспешна выпрастаўся і падышоў да выразанай з дрэва ў чалавечы рост скульптуры Засмучонага, дзе яшчэ раз укленчыў, на гэты раз грунтоўна, і стаў перабіраць, як ружанец, лацінскія словы малітвы, завучанай яшчэ ў дзяцінстве — да таго, як ён зразумеў яе сэнс. Скончыўшы малітву, Няміра перайшоў да ўласных патрэб, але мовы не змяніў: яму заўсёды здавалася, што бог лепш за ўсё разумее лаціну, дый гучала яна больш урачыста і больш пераканаўча за кожную іншую мову. Ужо падняўшыся з каленяў, Няміра адчуў, што ён у касцёле не адзін, як памылкова здалося яму раней,— схаваны за блытанінай касых камлёў каляровага пылу і вертыкальных каменных калон у спавядальні моўчкі сядзеў ксёндз. Расшытая золатам і срэбрам рыза ўспыхвала крыжыкамі зорачак. Няміра адчуў за крысом ліст Чорнай. Павагаўшыся, ён выцягнуў дробную манетку і кінуў яе ў скарбонку, стараючыся нарабіць як мага болей бразгату. Ксёндз, не паварочваючы галавы, сачыў за ім вачыма. Няміра не спяшаючыся мінуў асветленую сонцам прастору, зайшоў у паўзмрок пад сцяной і апусціўся каленьмі на памост збоку спавядальні. Праз прыкрытае прасечаным жалезам акенца відзён быў профіль немаладога ўжо ксяндза.

— Ойча,— пачаў Няміра,— я сам не адсюль, не ведаю ані мовы, ані звычаяў гэтай краіны. Дзяўчына, якой я тут выратаваў жыццё, кінула мяне, адзіны мой суайчыннік выгнаў з дому, і вось у гэтым касцёле я звярнуўся да бога, але, можа, і ён ужо адвёў сваю літасць ад мяне, а я нават не ведаю, за што. Мне страшна, можа, і вы, ойча, адвернецеся ад мяне, а я так і не зразумею, у чым мой грэх.— Няміра са здзіўленнем адзначыў, што ўжо не толькі гаворыць, але і думае па-лацінску.

— Баяцца трэба толькі бога і самога сябе,— прамовіў ксёндз, не паварочваючы галавы.— Раскажы ўсё па парадку, бо я мала што зразумеў.

І Няміра пачаў другі раз за гэты дзень апавядаць сваю гісторыю, у якую не ўвёў толькі данцыгскага капітана, сваё сённяшняе адплыццё і прозвішча Парэцкага; аб'ёмныя словы лаціны павольна раставаліся ў паўзмроку, так што, пачынаючы новую фразу, ён мог яшчэ адчуваць палову папярэдняй, узважанай у каляровагустым, змяшаным з пылам паветры касцёла.

Ліст ад Чорнай ксёндз чытаў доўга і, напэўна, не адзін раз. Нарэшце, старанна яго склаўшы, працягнуў Няміру, які зноў схаваў яго.

— Лепей табе і не ведаць свайго граху, бо калі адвернуцца сябры, можна нажыць новых, а калі адвернешся ад сябе сам... Лепей ідзі. Так, бог літасцівы, ён даравае, а людзі, яны заўсёды патрабуюць тлумачэнняў і адплаты. Ніколі не імкніся даведацца пра гэты грэх, ты ўжо не вінаваты ў ім, калі бог даравае, а ты... Ты — чалавек і таксама пажадаеш адплаты, якой здзейсніць ужо нават не зможаш. Дык лепей не жадай тлумачэнняў, а ліст спалі, як спаліў сваю вопратку. Ідзі.

Ксёндз лёгка падняўся і, нават не гледзячы ў бок Няміры, пайшоў да маленькіх спічастых дзвярэй у супрацьлеглай сцяне, якіх дагэтуль, здаецца, і не было.

— Ойча, у чым мой грэх, я буду думаць пра сябе горш, чым ёсць сапраўды!

— Горш? Горш падумаць немагчыма,— адказаў ксёндз і знік за дзвярыма.

Няміра спыніўся за сіне-зялёным мысам, дзе вузкі пасак жвіру зноў пачаў шырэць, утварыўшы ў рэдкіх дзюнах паласу лоцыяў на пяцьдзесят шырынёю. Ён нассоўваў да чэзлых хмызоў пад адхонам берага сухіх і таму ломкіх водарасцяў, што мелі незнаёмы, але прыемны водар, лёг на іх, паклаўшы адну руку пад галаву, распрастаў збалелыя ногі і стаў углядацца ў кропку сыходжання вады са спадзістым мысам, які закрываў горад. Шоргат і пах мора супакойвалі. Рука мерна, у тахт хвалям, раз-пораз апускалася, сціскала рухлівы жвір, каб да наступнай хвалі прасыпаць яго скрозь пальцы.

— Ліста магло і не быць,— уголас сказаў Няміра,— гэта выпадак, што знайшліся аловак і папера: такіх рэчаў у спальнях не трымаюць... Дык што: тады б я быў чысты? Можа, нават пацалаваліся б з Парэцкім на развітанне, а я так і не даведаўся б, што парушыў нейкі страшэнна важны звычай гэтай краіны. А чаму думаецца, што я зрабіў нешта? Можа, наадварот, нечага не зрабіў, што належала б зрабіць? Ды і наогул, ці грэх тое, аб чым не ведаеш? Можа, мае рацыю ксёндз — забыць усё і думаць, што нічога не было? Нават калі гэта пакаранне за даўнія ўчынкі. Ці мала іх знойдзецца — не адплачаных у былым і нават у будучым?..

З-за мыса ўзнік бязгучны карабель, лёг у галс і, як здалося, спыніўся, павернуты кармою да берага. Ад яго аддзялілася шлюпка. Няміра ўстаў, падышоў да краю змочанага хвалямі жвіру і замахаў рукамі. Адбітак нізкага сонца расцягнуўся па моры пунсовай сцежкай, што злучыла яго і далягляд. Тады Няміра, бы хто штурхнуў яго ў спіну, ступіў колькі крокаў напярэд ды так і застыў у зімнай — то вышэйшай, то ніжэйшай — вадзе ў чаканні сустрэчы.

Пасля дзвюх няўдалых спроб Няміра перакінуўся цераз борт, матросы моўчкі развярнулі шлюпку і павеславалі ад берага. На палубе знаёмы ўжо капітан, павітаўшыся, адвёў Няміру ўбок пад галерэю надбудовы і сказаў адно толькі слова: «Грошы»; атрымаўшы сваё, ён знік у нізенькіх дзвярах. Хутка стала цёмна, толькі вада яшчэ свяцілася знутры зеленкаватым святлом; ніхто не паказаў Няміру яго месца (дый ці існавала такое наогул?),

Заканчэнне. Пачатак у № 1.

ніхто не прапанаваў ежы, і толькі тады ён зразумеў, што за ўсе выгоды трэба было заплаціць асобна, але рабіць якія-небудзь высілкі ўжо не было жадання. Ён крыху пабадзяўся па палубе, пастаяў, успёршыся на балюстраду. Далёкі горад зліваўся з цемрай і нізкімі аблокамі на даляглядзе. Калі і гэтае невыразнае мроіва канчаткова знікла, Няміра адчуў, што змарыўся ўшчэнт, і пайшоў уздоўж борта шукаць месца на ноч. Самотны ліхтар на мачце ўрыўкамі асвятляў стаптаныя дошкі палубы, раскрэсліўшы іх рухлівымі ценямі снасцяў.

Няміра ўладкаваўся спаць на грудзе старых, але ўсё яшчэ спраўных канатаў, у нейкай шчыліне паміж дзвюма замацаванымі скрынямі; над галавой, далёка ўверсе, біў ветразь, пахла морам, смалой і нейкай цвілой дрэнню, ад чаго часам хацелася ванітаваць.

Праз колькі дзён Няміра (вядома, за грошы) ужо меў уласную каюту і ложа, а па вечарах у капітанавай каюце за бутэлькай чырвонага віна разважаў з ім аб выгодах жыцця. Звычайна пілі мала, але той раз, невядома з якой нагоды, капітан, парушыўшы завядзёнку, пасля першай бутэлькі паставіў на стол другую.

— Я часам бачу,— сказаў капітан, абводзячы каюту вачыма,— як пан праглядае ў вольныя гадзіны адзін і той самы ліст. Я ведаю, ён і цяпер ляжыць у вас за крысом камізэлькі, і мне ўвесь час карціць даведацца, што пан знаходзіць там новага за кожным разам, бо, як мне здаецца, ён павінен ведаць увесь тэкст ужо на памяць. У мяне няма ні часу, ні магчымасці мець блізкіх побач, таму і мне іх заступаюць рэчы — пярсцёнкі, вопратка, падораныя імі, лісты, кожны з іх мае сваю гісторыю, як, напэўна, і панскі ліст; думаю, не зашкодзіла б з'яўленне яшчэ аднаго чалавека, асабліва жанчыны, і таму я прашу пана распавесці гісторыю яго ліста.

Запрашэнне было зроблена пачціва, нават вытанчана, і адмовіць было няёмка. Таму Няміра, адпіўшы глыток віна, стаў маніць, спачатку свядома, а потым і сам пачынаючы верыць у хлусню. Такія няўклюдныя нямецкія фразы, якія яшчэ ўчора ледзь вымаўляліся, раптам сталі лёгкія і ўраз напоўнілі цесную каюту.

— Гэты ліст належаў майму сябру, цяпер ужо нябожчыку, хай будзе яму вечны спакой.— Рэшткі віна ў двух кубках узняліся над сталом.— З ім мы прыехалі туды, адкуль цяпер плыву я, толькі гэта паміж намі.— Капітан згодна, неяк трохі ўбок хітнуў галавой.— І вось, калі ўсе справы былі ўладкаваны і мы вярталіся ноччу ў гатэль, на нас напалі нейкія людзі, дваіх мы забілі, а астатнія трое ці чацвёра кінуліся ўцякаць, я быў рушыў наўздагон, але тут азірнуўся і ўбачыў: мой сябра стаяў, прываліўшыся да мура, бледны, як месячнае святло, у адной руцэ ён трымаў яшчэ шаблю, а другой заціскаў рану, вакол якой усё шырылася і шырылася крывавая пляма. Я падтрымаў яго і хутчэй павёў з таго месца, дзе ляжалі трупы ворагаў.

— Гэта правільна,— сказаў капітан, разліваючы віно па кубках,— тыя людзі маглі бегчы па дапамогу.

Піць Няміра не стаў, віно здалося яму крывёю.

— Але далёка мы не адышлі, хутка мой сябра страціў прытомнасць, і я пасадзіў яго на каменную лаву перад нейкім домам, а сам, разарваўшы плашч, як мог, перавязаў рану. Праз пэўны час ён слаба зварухнуўся і глянуў на мяне, па ім было відаць, што жыццё вярнулася не надоўга. «Слухай,— сказаў ён,— хутка мяне не стане. Калі гэта здарыцца, выцягні з-за маёй манжэты ліст. Яго пакінула адна дзяўчына, якой я ўратаваў жыццё, яна знікла гэтак жа нечакана, як і з'явілася, проста пайшла раніцай, калі я спаў, а на стале мне застаўся гэты ліст. Я не ведаю мовы, якой ён напісаны, і даў прачытаць свайму знаёмаму з гэтага горада, але там, відаць, напісана нешта страшнае пра мяне, бо той, прачытаўшы, выгнаў мяне з свайго дому, не даўшы ніякіх тлумачэнняў. Можа, я і сапраўды, сам не ведаючы гэтага, учыніў страшны грэх, аб якім ведала толькі дзяўчына. І бог пакараў мяне цяпер. Сам я ўжо не даведаюся, за што. Вазьмі гэты ліст, высветлі ўсё і памаліся за выратаванне маёй душы, вазьмі мае грошы і закажы на іх імшу ў касцёле нашага роднага горада». І тут час, прызначаны яму богам для смерці, надышоў. Ён яшчэ заціскаў рану рукою, а вочы ўжо зрабіліся нерухомыя. Я счакаў, але ўжо было па ўсім, тады я выцягнуў ліст з-за манжэты, стаў перад мёртвым сябрам на калені, памаліўся, пацалаваў яго ў лоб і, падняўшыся, пайшоў у порт, каб, спадзяюся, назаўсёды знікнуць з гэтай краіны. Сустракацца з мясцовымі ўладамі ў мяне не было намеру, бо, можа, яны самі і падаслалі тых людзей.

Няміра змоўк, сам не ведаючы, скончыў ён сваё апавяданне ці не, капітан таксама памаўчаў, а потым уладна працягнуў руку, пакінуўшы ў спакоі кубак, які да гэтага катаў па стале. Няміра, унутрана сцяўшыся, ужо чакаў з лістом напагатове.

Капітан чытаў марудна, дрэнна ведаючы мову, прагаворваў некаторыя словы ўголас, раптам пачаў смяяцца, глянуў у напяты Няміраў твар і спахапіўся, аднак усмешка не пакінула ягоных вуснаў і тады, калі ліст зноў схаваўся на грудзях у свайго гаспадара. Капітан устаў і сказаў:

— Заўтра, усё заўтра раніцой, а зараз — спаць. Такія справы не вырашаюць за віном.

Няміра хацеў нешта сказаць, але той, апярэдзіўшы, адмоўна пакруціў галавою.

Няміра заснуў на гэты раз надзіва хутка і спакойна.

І зноў узнік такі самы празрысты на палубе і загусцелы ў капітанскай каюце вечар, а ў ім капітан, кубкі, распачатая бутэлька віна і сам Няміра пад чорнымі бэлькамі каюты, і шапаткі ліст у жоўтых ад святла руках. Толькі ўжо капітан не ўсміхаўся, калі аддаваў паперу Няміру. Вусны яго былі сціснуты, а вочы глядзелі ўніз. Так і не ўзняўшы вачэй, капітан нягучна шчоўкнуў пальцамі, і адразу ж узніклі пад нізкай столлю два пачварна вялікія матросы, якіх на караблі ніколі і не было. Не пытаючыся ні пра што, а толькі падпарадкоўваючыся павольнаму жэсту жоўтага пальца, яны схапілі Няміру і пацягнулі праз дзверы да карабельнай балюстрады. Там спраўна, за адзін рух узнялі яго над галовамі і шпурнулі за борт. І толькі тады пачуўся смех капітана.



Калі Няміра нарэшце выплыў на паверхню, карабля не было відаць, толькі шэры марскі далягляд зліваўся з небам. Ён азірнуўся: далёка, мілі за дзве, калыхаўся бераг. Няміра перавярнуўся і паплыў да яго.

Першая лёгкасць ад глытка паветра пасля глыбіні прайшла, і плыць стала цяжка. Спачатку давялося пакінуць у халоднай вадзе набрынялыя боты, а потым і цяжкую шаблю разам з пасам і кашальком. Узмахі рук даваліся ўсё цяжэй і цяжэй, вада гусцела, і лёгкае паколванне холаду перайшло ў суцэльны курч усяго цела. Ён ужо не ўздымаўся на кожнай новай хвалі і ўсё часцей знікаў пад новымі грэбнямі. Тады даводзілася траціць шмат сілы, каб ізноў выплыць на паверхню. А да берага было яшчэ далёка. Паступова ён перастаў мітусіцца ў думках, і самая непрыемная з іх — загінуць у халоднай вадзе — здалася лагоднейшай у сваёй непазбежнасці.

Калі чарговая хваля абрынулася на яго і праз два звыклыя і адзін дадатковы, трэці, узмах рук ён не дасягнуў паверхні, Няміра расплюшчыў вочы і паглядзеў угару. Там, на гнуткім, попельным люстэрку, падсвечаныя знутры, мігцелі адбіткі Чорнай, Парэцкага і ксяндза. Яны развітальна махалі рукамі, потым, зблізіўшы галовы, застылі. Сукня Чорнай, рыза ксяндза і кунтуш палкоўніка распласталіся лістамі трыпутніка. Тады, кінуўшы грэбсці рукамі, Няміра зірнуў уніз: пад ім, узняўшы рукі, стаяў Барута, ногі яго хаваліся ў глыбокай чарнаце вады. Няміра заплюшчыў вочы і заціх, пачаў павольна пагружацца. У вушах узнік звон, загучалі неакрэсленыя галасы. Вада мякка абцякала цела. І раптам нешта нечакана цвёрдае спыніла рух на ніз. «Дно! Дно!» — зазвінелі галасы. Яшчэ не ўсвядоміўшы сэнсу, Няміра моцна адштурхнуўся ад цвердзі нагамі. Апынуўшыся на паверхні, захапіў паветра, пачаў шалёна грэбсці рукамі, нават спачатку не глянуўшы, дзе бераг.

Ногі крануліся дна. Вада то апускалася да пояса, то залівала з галавой, а ён ішоў, губляючы рэшткі сілы на гэтай пясчанай водмелі, да ўсё яшчэ далёкага берага.

Няміра ўжо нічога не разумеў і не памятаў ад страшэннай стомы, калі зваліўся на сухі жвір дзюны, пакінуўшы за плячыма пену прыбою. Яго адразу пачало ванітаваць. Калі ачуўся, не змог укласці адказ на пытанне: той самы цяпер вечар ці наступны? Мог быць нават і ўчарашні. Ён з цяжкасцю ўзняўся на здранцвелыя ногі, збольшага абтрос наліплы на мокрую вопратку жвір і басанож пасунуўся да двух мігатлівых агнёў, што працінаялі чырванаваты туман.

На шляху трапляліся ўтаптаныя сцежкі, хмызы, пясчаныя выдмы, а ён ішоў праз іх без дарогі, напярэймы агням.

У карчму, два акны якой свяцілі ў бок мора, увайшоў босы чалавек у мокрай, месцамі аблепленай жвірам вопратцы, прайшоў да перакуленай бочкі, узяў з яе ў непаслухмяныя пальцы доўгі тонкі нож і пачаў разразаць крысо камізэлькі. Карчмар прыглядаўся яму моўчкі, з грэблівай цікаўнасцю. Калі з разрэзу паказалася залатая манета і, не затрымаўшыся ў пальцах, дзынкнула аб падлогу, Няміра не стаў за ёй нахіляцца, а проста тыцнуў пальцам і сказаў па-нямецку: «Сагрэцца, астатняе — потым». Затым годна апусціўся на доўгую лаву, што цягнулася ўздоўж пустога стала. Карчмар троху аджыў, падхапіў манету, паспрабаваў на зуб, пасля чаго зрабіўся і зусім увішны.

Распранацца Няміра не стаў, толькі накінуў на плечы чорную з сівізной ваўняную коўдру, якую прынёс карчмар. Першы кубак глынуў нагбом, а другі пачаў цадзіць праз шчыльна сціснутыя зубы. Ён так захапіўся гэтым заняткам, што не заўважыў, адкуль і калі насупраць яго з'явіўся чорны плашч. І толькі калі пачуў голаснае «Няміра!», стомлена ўзняў вочы. «Так, мы зноў разам, Барута. Нашто ты тут?»

— Я цяпер сяджу насупраць цябе,— Барута паправіў падвешаную на скураным рэмені нежывую руку.— А ты нашто тут? Што было з табою, калі мы расталіся?

— А з табой?

— Пра мяне потым.

— Добра,— Няміра апусціў вочы,— я раскажу.

І ён распачаў сваё апавяданне чацвёрты раз. Спачатку словы губляліся, выклікалі боль і нават слёзы, а потым зрабіліся спакойныя, складваліся ў ланцуг, быццам кожнае з іх мела загадзя сваё месца. Таксама і Барута здаваўся яму спачатку прывідам, але чым болей ён гаварыў, тым мацнейшае рабілася ўражанне цеснай повязі таго з сапраўдным светам і гэтым месцам у прасторы.

— І вось я ўбачыў цябе тут,— прагучалі апошнія словы апавядання.

Барута прыглядаўся Няміру, які адставіў кубак і скрыжаваў рукі на грудзях. Потым працягнуў здаровую руку:

— Дай ліст мне, я ж ведаю мову Чорнай.

Няміра не расчапіў рук.

— Цябе ніколі не цікавіў змест чужых лістоў.

— Затое цікавіў цябе.

— Ведаеш,— сказаў Няміра, нават не зрабіўшы спробы зазірнуць за крысо трохі падсохлай камізэлькі,— я згубіў гэты ліст, калі плыў па моры, яго болей не існуе.

— Згубіў? — недаверліва спытаў Барута.

— Згубіў,— вусны Няміры рассунуліся ва ўсмешцы.

— Згубіў?! — Барута ўсміхнуўся.

— Згубіў! — крыкнуў Няміра і зарагатаў. Карчмар, які да таго рабіў выгляд, што займаецца сваімі справамі, ужо не хаваючыся глядзеў на гасцей.

— Згубіў! — таксама крыкнуў Барута і так ляпнуў здаровай рукой па Няміравым плячы, што той, не ўтрымаўшы раўнавагі, зваліўся на падлогу, але і там працягваў рагатаць:

— Згубіў!

— Згубіў! — крычаў на гэта яшчэ мацней Барута і рагатаў, схіліўшыся над Нямірам.

— Згубіў! — імкнучыся перакрычаць, лямантаваў той і качаўся па падлозе.

А над карчмой, напоўненай рогатам і святлом, была ноч, чорная, намацальная. Яна ўздымалася над берагам, над морам, над караблём. Яна дасягала другога берага і пакрывала ўжо бясколерныя вежы далёкага горада, апанаванага сном. Спаў ксёндз, згаслі блікі зорачак на павешанай над ложкам рызе, спаў палкоўнік, зрасталіся з цемрай кунтуш і пісталеты. Сукня спаўзла з плячэй Чорнай, яна пераступіла яе і, светлая нават у змроку, растварылася ў белых прасцінах.

Павел ЯКУБОВІЧ

# ПАРТРЭТ СА ШТАНГАЙ, АБО ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ САМЫМ ДУЖЫМ У СВЕЦЕ?

Банальнае пытанне? Ну, не кажыце...

І наогул, пра гэта варта запытацца ў іх, самых дужых... Леанід Тараненка, сусветны рэкардсмен, ахвотна ўступіць у размову, нават калі вы незнаёмыя. Зусім не таму, што шукае папулярнасці, гэтага хапае з лішкам — проста такі ён чалавек.

Вось няхай ён і раскажа: ці лёгка яму?

Зрэшты, багата што пра яго мы ўжо ведаем. Гадоў пятнаццаць таму захапіўся юнак з Маларыты цяжкай атлетыкай, але, магчыма, гэта так і засталося б на дылетанцкім узроўні,— здзіўляў суседзяў тым, што жартаўліва «жагнаўся» двухпудоваю гіраю,— калі б не здарыўся шчаслівы выпадак, сустрэча двух талентаў — яго і Івана Пятровіча Лагвіновіча, чалавека абсалютна унікальнага — прафесійнага канструктара сельскагаспадарчых машын і выдатнага трэнера... на грамадскіх пачатках.

Шчаслівая гэтая сустрэча мела цудоўны працяг.

Пасля некалькіх гадоў інтэнсіўных і арыгінальных трэніровак — Лагвіновіч і ў спорце непрадказальны канструктар — малавядомы юніёр метэорам уварваўся ў вышэйшы цяжкаатлетычны свет і адразу ж пацясніў нават дужа знакамітых атлетаў. Спачатку гэта ўспрымалася як сенсацыя, потым да перамог Тараненкі прызвычаіліся, і кожны выхад на памост гэтага круглатварага лагоднага хлопца з шалёным характарам быў чаканнем падзеі. Трыццаць дзевяць разоў акуратныя клеркі з міжнароднай цяжкаатлетычнай федэрацыі перапісвалі табліцу рэкордаў, каб унесці туды прозвішча іх нястомнага творцы — Тараненкі.

Так што паверым яму на слова.

У вялікім спорце ён больш за дзесяць гадоў, мае ўсе мажлівыя годнасці і тытулы. Скончыў інстытут, атрымаў кватэру ў прэстыжным раёне Мінска, трэніравацца прыязджае на бежавай прыгажуні-«Волзе» — ці ж не поспех гэта? І таму лагічна было б пачуць ад Леаніда, што самым дужым людзям планеты жывецца ўсё ж няблага. Калі не ўлічваць хіба што надакучлівай неабходнасці ціснуць, вырываць і штурхаць на штодзённых трэніроўках па 20—30 тон жалеза.

Уявіце сабе — цэлы вагон. Штодзённа...

Затое якая кампенсацыя — слава, ордэны, бляск міжнародных турніраў і аднаўленчыя зборы ля самага сіняга Чорнага мора.

Але нашы залішне наіўныя разважанні выклічуць у Тараненкі толькі паблажлівую ўсмешку. О, каб усе цяжкасці вычэрпваліся неабходнасцю ўтаймоўваць жалеза... На жаль, у самых дужых на свеце людзей усё шмат больш празаічна і, паверце, шмат больш складана, чым функцыяніраванне паводле простае схемы: трэніроўкі — спаборніцтвы — рэкорды. Вялікі спорт — дакладная копія многіх мадэляў рэальнага жыцця. І шлях на п'едэстал праходзіць скрозь жорсткую барацьбу не толькі з ачкамі, секундамі і кілаграмамі...

У пачатку 80-х гадоў стала зразумела, што наша цяжкая атлетыка ўступіла ў паласу зацяжнога крызісу. Тое, пра што нясмела гаварылі журналісты і аматары, што з раздражненнем адмяталася людзьмі, якія стаяць ля руля цяжкай атлетыкі, пацвердзілася вынікам буйнейшых турніраў. У краіне, дзе мільёны юнакоў займаюцца штангай, стала магчымым пералічыць на пальцах спартсменаў экстракласа. Спачатку нясмела, на дыбачках, а потым усё больш упэўнена штангісцкі Алімп занялі балгары. І няхай сабе пра гэта супакойліва гаварылася як аб пройгрышы ўсяго толькі «сябрам-сапернікам», усім непрадузятым было зразумела — спорт асілкаў у краіне цяжка хворы. Нягледзячы на дужа вялікія «валавыя паказчыкі».

Ужо тады Тараненка насіў вышэйшыя, тытулы, лічыўся ветэранам і займаў у камандзе асобае становішча. «Ветэран» быў нязменна мацнейшы, акрамя таго, у камандзе мяняліся людзі, а ён, Тараненка, быў усё роўна як напамінак пра той незабыўны час, калі нашы перамагалі і на ўсіх спаборніцтвах і ва ўсіх вагавых катэгорыях. Але шанавалі яго не толькі за гэта — ведалі, што Леанід ніколі не змаўчыць, не адсядзіцца за шырокімі спінамі, не заплюшчыць, як іншыя, вочы на штосьці. А гэтых «штосьці» ў зборнай назапасілася з лішкам. Старшы трэнер Прылепін, які ў свой час шмат зрабіў для спартыўнага прэстыжу краіны, стаміўся ад бясконцых «накачак» кіраўніцтва, спаборніцтваў, калейдаскопа спартсменаў і іх трэнераў, а потым і зусім стаў бачыць у сваёй пасадзе сінекуру.

У час трэніровачных збораў павісла ружовае воблака благадушша. Спартыўны прынцып адбору мацнейшых атлетаў у каманду быў забыты. Усё вырашалі асабістыя сувязі, своечасова паднесеныя прэзенты, здольнасці выказацца ўмела, гэта значыць, каб па форме ўсё было востра і прынцыпова, а па сутнасці азначала адно: Прылепін — выдатны трэнер, а хто з гэтым не згодны, таму ў камандзе не месца. Вытанчаная ліслівасць шчодра заахвочвалася.

З такім становішчам згодны былі многія. Акрамя Тараненкі і Лагвіновіча. Наўрад ці можна было вызначыць буру пачуццяў у вонкава спакойнага Тараненкі, калі ён на сходах пратэставаў супраць абсалютна амаральных установак на «фармакалогію», якая была пры Прылепіне ў вялікай пашане. Ішоў у высокія спартыўныя інстанцыі і даводзіў, што цудадзейныя «лекавыя прэпараты» — не панацэя, а трагедыя для хлопцаў, а ў перспектыве і для спорту. Пранесліся па памостах яскравай каметай і зніклі ў невядомасці зоркі — гэта былі незаменныя страты і зламаныя лёсы. Колькі выдатных юніёраў, якія бяздумна паверылі сваім настаўнікам, што абагаўлялі анаболікі, ніколі ўжо не заявяць аб сабе? Мегус, Чагірка... Яны маглі быць чэмпіёнамі, але сёння яны — частыя пацыенты клінік, і нават не згадваюць тых дзён, калі ім была падуладная штанга.

Тараненку адказвалі далікатна і тонка, што, зрэшты, было прынята ў тыя гады не толькі ў спорце: «Дзякуй за параду, абавязкова прыслухаемся. Ідзіце». А ўслед несліся тэлефонныя званкі: «Ці не час ужо суняць вашага праўдалюбца? Перашкаджае працаваць».

Дык ці лёгка быць дужым?

Трэнеры зборнай каманды, дзяржтрэнеры па цяжкай атлетыцы ўключылі Тараненку ў склад каманды. Што зробіш, калі ён мацнейшы... Але з салодкім заміраннем сэрца чакалі, што сарвецца Тараненка, прайграе, і тады з'явіцца цудоўная магчымасць паказаць яму на дзверы. Ён усё гэта адчуваў, і таму кожны турнір быў спаборніцтвам не толькі з металам, але і з тымі, хто чакаў яго правалу.

Цяпер пра гэта згадваць горка, але так было.

Перакананы: Тараненка перамагаў яшчэ і таму, што ведаў — прайграваць нельга, для цяжкай атлетыкі гэта будзе больш, чым ягонае турнірнае паражэнне. Гэта будзе перамогай тых, хто загадзя расплісвае ў планах, каго з прыбліжаных захвоціць выгадным замежным турнэ, хто «дастаяўся» ў чарзе па лаўры.

І Тараненка перамагаў.

Ён вярнуўся на памост, калі ўсе паставілі на ім крыж. Здарылася так, што з-за дробязнага фурункула на спіне ён амаль не страціў жыцця ў славутай сталічнай клініцы, дзе было зашмат фіміяму і мала сапраўдных спецыялістаў. Калі б не надзвычайная інтуіцыя Пятровіча — Івана Пятровіча Лагвіновіча, які прымчаўся ў Маскву, выхапіў з палаты Леаніда, што пачаў ужо задыхацца, і прымусіў дактароў пакласці яго на аперацыйны стол... Цяпер вынік аперацыі багата хто расцэньвае як цуд. Але яшчэ большым цудам было з'яўленне Тараненкі на чарговым чэмпіянаце краіны. Усяго праз тры месяцы пасля аперацыйнага наркозу. Не ўсе ўзрадаваліся тады, што Леанід вярнуўся ў зборную, з якой, дарэчы, яго афіцыйна і не выводзілі, бо перакананы былі, што як штангіст ён скончыўся. Але ўпэўненае выступленне на чэмпіянаце зноў прымусіла нядобразычліўцаў прыкусіць язык. Да таго ж, за кантрабанду былі дыскваліфікаваны Пісарэнка і Курловіч, і зборнай пазарэз стаў неабходны суперцяжкавагавік. Абышлося без дэбатаў — Тараненка выйграваў у Захарэвіча, але Леаніду сказалі:



Фота Генадзя СЯМЁНАВА

— Пераходзь у наступную вагу.

Кожны хоць трохі знаёмы са штангаю чалавек разумее, што гэта значыць,— вось так нечакана перайсці ў больш цяжкую вагавую катэгорыю. Тараненка, зрэшты, не раздумваў. Для каманды трэба, дык пра што гаварыць!

А мы давайце паразважаем.

Здавалася б, такая дакладная і ясная жыццёвая лінія, фанатычная адданасць спорту, камандзе, гатоўнасць змагацца і перамагаць. Хіба ж гэта не характарыстыка спартсмена? Да таго ж, фіяска Прылепіна і кампаніі, катастрафічныя правалы зборнай — хіба ўсе гэтыя імператывы не павінны былі пераканаць яго ганіцеляў? Няўжо не павінен быў нехта скарыстаць сваю ўладу і спыніць амбіцыёзных чыноўнікаў ад вялікага спорту? Тым больш, што зборную краіны прыняў Рыгерт, выдатны спартсмен, ад якога чакалі не меншага плёну і на пасадзе галоўнага трэнера.

Аднак моцны некалі спартсмен не выявіў сябе моцным чалавекам. Рыгерт нёталерантна ставіўся да чужых поглядаў. Але гэтая цвёрдасць мела і свой адваротны бок — мяккасць у дачыненні да лісліўцаў, якіх пакінулі яму ў спадчыну, і наогул даволі падазроных асоб, што цёрліся вакол трэніровачных баз зборнай. З каманды сталі знікаць тыя, хто меў смеласць і ўласную думку. Не стала, напрыклад, чэмпіёна свету П. Кузняцова, затое з'явіліся «спецыяліст па гіпнозе», потым нейкі доктар, які таямніча рэкамендаваўся як «спецыяліст па фармакалогіі», нейкія кансультанты, эксперты. Трэніроўкі праводзіліся абы-як, ніхто нікому не надакучаў размовамі пра неабходнасць дбайна працаваць. На правах даўняга сябра — выступалі ж разам! — Тараненка пайшоў да Рыгерта:

— Давід, ты не тое робіш!

— Менш размаўляй, зразумеў? Я заняты.

І Рыгерт паспяшаўся ў свой нумар, дзе, нягледзячы на позні час, брынкала гітара... І наогул было весела.

Хоць і не было прычыны весяліцца.

Да чэмпіянату свету каманда была непадрыхтаваная. Ён, Тараненка, больш за іншых: на трэніроўцы пашкодзіў мышцы нагі. У тым самым інстытуце ў Маскве працавалі ўжо іншыя людзі, але і на гэты раз лячэнне было дрэннае — выходзіць на памост было непажадана дый увогуле небяспечна.

— Я не магу выступаць, Давід.

— Трэба.

Мільёны тэлегледачоў бачылі, як упаў Тараненка. І як вынеслі яго з памоста. За кулісамі падышоў Рыгерт і сказаў:

— Нічога, бывае.

А праз тыдзень напісаў у «Советском спорте» пра тое, што Тараненка — сімулянт. Са зборнай яго вывелі.

— Ну, здаецца, усё,— з палёгкаю ўздыхнулі ў Дзяржкамспорце.— Трэцім разам ён не выплыве. Цудаў не бывае.

Дык вось, ці лёгка быць самым дужым?

На іх з Лагвіновічам усе проста забыліся. Але кожнага дня ў невялічкай спартзале на вуліцы Талбухіна Тараненка да сёмага поту вымотваў сябе максімальнымі нагрузкамі, каб ізноў выйсці на памост і ўступіць у бой не толькі з абыякавай штангаю. Маленькая зала стала сведкай некалькіх фенаменальных вынікаў, неафіцыйных, вядома. Нібы зрабіўшы вялікую ласку,— многія крывілі вусны пры адным толькі напамінку пра непакорлівага,— яго запрасілі на турнір. Ён прыехаў у Львоў і... ўстанавіў новы сусветны рэкорд. Узнялася бура. Спартыўная прэса і аматары трыумфавалі, а чыноўнікі з Дзяржкамспорту «ўзнагародзілі» спагнаннямі тых, хто «недагледзеў» і зноў выпусціў Тараненку на вялікую арбіту.

І — быццам і не было ніякага рэкорда — на чэмпіянат свету 1986 года Рыгерт бярэ не Тараненку, а рэабілітаванага пад той час Пісарэнку. Усім вядома, што Пісарэнка растрэніваны, што страціў вопыт барацьбы, але няхай лепш ён, чым непакорлівы Тараненка. А раптам Пісарэнку пашанцуе?..

Але цудаў не бывае.

Пісарэнка прайграе, надзвычай прэстыжная перамога у суперцяжкай вазе

застаецца за балгарынам Красцевым,— такога паражэння наша цяжкая атлетыка не ведала шмат гадоў. Але кіраўніцтва зборнай не пакутуе ад дакораў сумлення. Вакол Рыгерта сабраліся часовыя людзі, іх задача — «паймець» як мага больш, а пасля хоць патоп.

У газетах з'явіліся супакойлівыя інтэрв'ю, маўляў, нічога страшнага, мы ўсіх яшчэ паб'ём... А багаж медалёў зборнай быў да смешнага мізэрны...

Застаецца адно дзівіцца, якія разнастайныя па форме, але тужліва падобныя па змесце былі вынікі дзейнасці часовых людзей. Бессэнсоўнае разбурэнне старажытных храмаў і фантастычныя праекты павароту рэк, напісанне эпапей пра цаліну, і нават у цяжкай атлетыцы — такое вось. Летась вясною ў камандзе адбыўся досыць бурлівы сход, і каманда запатрабавала, каб Тараненку вярнулі. Адчайнае супраціўленне Рыгерта было зламана... Трэці раз Леанід з'явіўся на зборах. І першы сказаў хлопцам: «Хопіць спадзявацца на дзядзьку. Будзем выбіраць новага трэнера».

Цяпер каманду трэніруе А. Мядзведзеў, чалавек аўтарытэтны, які ўзяў за галоўны прынцып сваёй работы даволі простае патрабаванне: у зборную павінны прыходзіць спецыялісты альбо з кімсьці, альбо з чымсьці. Гэта значыць: альбо з вучнямі, альбо з сур'ёзнай навуковай працаю, якая будзе спрыяць поспеху. Ураз зніклі немаведама куды спецыялісты і па гіпнозе, і па анаболіках, менш стала марнаслоўя. Пачалася праца. Праўда, пра мінулае напамінае адзін сумны факт: нехта з акружэння старога кіраўніцтва проста ўкраў усе медыкаменты, а там былі унікальныя і неабходныя кардыялагічныя прэпараты. Сляды іх, напэўна, яшчэ выявяцца на чорным рынку: адна ўпакоўка каштуе многія сотні рублёў. Не так лекаў шкада, хоць яны і неабходныя, як непрыемна ўсё гэта: вось цана высокіх слоў, вось штрых, які сведчыць пра норавы, што яшчэ зусім нядаўна квітнелі ў зборнай.

Дык што, ёсць надзея, што ўсё крута змянілася, і спартсмен можа займацца сваёй справаю, а не змагацца з інтрыганамі?

Абноўленая каманда Мядзведзева з годнасцю выступіла летась у Астраве. Балгарын Красцеў дадаў да свайго тытула прыстаўку «экс». Тараненка ўстанавіў сусветны рэкорд, гродзенец Курловіч стаў чэмпіёнам свету.

— Ты б мог перамагчы ў Астраве? — пытаюся ў Тараненкі.

— Напэўна. Але больш за ўсё думаў пра камандную барацьбу. Дый не ў маёй перамозе справа, ці ж не так? Галоўнае, што дапамог камандзе.

Гэтая наша размова адбылася ўвосень у той самай маленькай зале на вуліцы Талбухіна, дзе Тараненка рыхтаваўся да чарговых збораў. Каля яго завіхаўся Лагвіновіч, сёння ўжо не аматар, які працуе на грамадскіх пачатках, а адзін з трэнераў зборнай, куды раней яго пускалі не вельмі ахвотна. Таму з'яўленне ў верхнім трэнерскім эшалоне такіх людзей, як Лагвіновіч,— таксама прыкметы новага стылю. Тараненка рыхтуецца да Алімпіяды, а калі ўлічыць Гульні Добрай Волі, дык гэта будзе трэцяя яго Алімпіяда. Тараненка не з баязліўцаў, ён упэўнены ў сабе, мяркуе, што перамога ў Сеуле яму пад сілу... Але ж колькі тых сіл змарнавана ў «каляспартыўнай» барацьбе...

Дык ці лёгка быць самым дужым на свеце чалавекам?



У атацы.



Сяргей БУЛЫГА

# СЛОВА І СПРАВА

**ПРЫБЛІЗНЫЯ ЗАМАЛЕЎКІ**
**ДРУГОЕ ПАЛОВЫ XVIII СТАГОДДЗЯ**

І тады я, скарыўшыся, выдаў дворніку алтын, а пасля вартаўніку пятак, а таксама дзяншчыку двухгрыўенны — і такім вось надзейным манерам дапусціўся да самых дзвярэй. Ля дзвярэй пастаяў, паўздыхаў і ўвайшоў. Гляную: сцены ў царскіх партрэтах, вокны ў кратах, свечкі, паркеты, указы вакол. А пасярод усяго гэтага харства сам генерал-намшэф важна шпацыруе ды на мяне сокалам пагрозліва пазірае. Генерал чырванатвары, увесь у ваенных крыжах, на нагах шпоры з музыкай. Але — незадаволены, нахмураны. Я тады, каб яму дагадзіць, забаяўся так, што і словамі не выказаць, упаў на паркет і маўчу вернападдана. Генерал пахадзіў-пахадзіў, уладаю упіўся, затужыў і піхнуў мяне ботам пад рабрыну — чаго, маўляў, разлёгся, дзе слова і справа?! Я адразу ж ускочыў і ўручаю чарцёж з-за пазухі. Генерал узяў чарцёж далікатна, за краёчак, так і сяк пакруціў, на святло ў яго ўглядзеўся... і спытаўся, сярдуючы:

— Гэта што за пачвара?

Ну а я адказваю:

— Гэты вось механізмус ёсць навуковы парадокс у асобе самабеглай каляскі на хмяльным, выбачайце, ходзе,— і адважыў паклон.

Генерала заела. Сеў да стала, стаў чарцёж вывучаць. Вывучыў і насупіўся.

— Абскажы,— мовіць.— Я цяпер без акуляраў, а чарцёж дужа ўжо дробны.

Я і сказаў. Так, маўляў, і так, гэты вось парадокс ёсць каляска, якая прыводзіцца ў бег з дапамогаю поршняў, таму як у камеры згарання ідзе загаранне і поршням робіцца цесна, а авёс для каляскі не патрэбны, коні раздамо ў кавалерыю, а хмельная гаручая сумесь здабываецца проста, вось хоць бы ваш буфецік адкрыць...

Генерал не паверыў:

— Няўжо шампанскае? — і пабялеў ад хвалявання.

— Не,— кажу,— патрэбнае зелле мацнейшае.

Намшэф задумаўся, на чарцёж скоса зірнуў, уздыхнуў і спытаўся:

— Ну, а колькі гэтая пачвара за вярсту выпівае?

— Акурат паўбутэлькі.

Генерал прасвятлеў.

— Не пойдзе,— кажа.— Мне мой рамізнік Яўхім утрая танней абыходзіцца. Гэта раз. А па-другое: каляска твая ёсць ухвала дужа шкоднага зелля.

Я забаяўся непрытворна, а намшэф падскочыў і пайшоў мяне прабіраць:

— Ах ты злодзей! Ах ты зладзюга! Царскіх указаў мо не чытаў?! Імі вунь усе платы, і тыны, і муры абклеены! Што у іх сказана?! Хмель ёсць натуральная атрута, а ты!..

І ад прыкрасці, няйначай, ён буфет расчыніў, добрым стапарыкам прычасціўся... і супакоіўся. Сеў да стала, агурком пахрумсцеў і размяк. Кажа:

— Вось дзе яна, спрадвечная наша безгаспадарнасць! Што ж ты, Ваня, удумаў? Хлебным прадуктам воз нейкі карміць? І гэта ў той час, калі цэлыя губерні з голаду пухнуць! — і галавою пакруціў.

— Вінаваты, даруйце,— адказваю, а сам увесь дрыжу.

— Ды чаго ўжо там, я не злапомны,— кажа генерал.— Ты лепш глянь, што іншаземцы прыдумалі: танна, проста, сярдзіта. Мы ўжо і патэнт закупілі, сем мільёнаў не шкада! — і іншаземны чарцёж дастае. На глянцавай паперы, у трох колерах выканаш.

Я паглядзеў: рокаматы самавар нага тыпу, але на адным кіпятку, без заваркі. Скупа, жыжка адна і ніякае моцы. Але — змаўчаў. А намшэф кажа:

— Скляпаеш такое?

Я, вядома ж, гаркнуў:

— Рады старацца, вашае баладороддзе! — вачамі бліскаю.

Генерал ухмыльнуўся.

— Вось так яно,— сказаў.— Дам табе кузню самую лепшую, дам памочнікаў, харч прызначу ўзмоцнены. І каб мне іншаземцаў за пояс заткнуў, каб па першым снезе — у сталіцу!

Тут ужо я ўхмыляюся. Тады генерал:

— А пра хмельны воз забудзься, гэта грэх. Скажаш дзе або пікнеш — у арыштанцкія роты сашлю, у жалеза закую, задушу! — і закалаціўся, так ужо рассердаваў.

Я тады свой чарцёж у ашмоткі ўмомант парваў дый з'еў, не жуючы.

— Малайчына! — ухваліў генерал і адправіў працаваць.

І цяпер ад рання да змяркання я пры горне стаю, мільённы патэнт паўтараю, у арыштанцкія роты рыхтуюся. А чаму? Нячысцік спакусіў! Мне ў харчах тых узмоцненых шкалік прызначаны, але я зелле не п'ю, а ў адзінае месца зліваю, каб пасля да самавара карбюратар прыладзіць, счапленне ўключыць — і па першым снезе... у жалеза.

**Пераклаў з рускай Алесь ЖГІРОЎСКІ**

Аляксандр КАНДРАЦЬЕЎ

# Я РАСТУ

Чаго вы крычыце: «Хуліган, хуліган!» Я падлетак, які шукае сябе. Я расту, мне болей за ўсіх трэба. Мяне дзесяць чалавек выхоўваюць, не лічачы грамадскасці. Два псіхолагі дысертацыі абаранілі — на маім раннім дзяцінстве і на познім. Дысертацыі пра тое, што ад мяне ніякае карысці не будзе.

Добра, выхоўвайце. Толькі кажыце адно і тое ж, а то немагчыма жыць. Дамаўляйцеся, маленькі я ці вялікі. Таму што пасадзіць дзяўчыну на сваё месца — ужо вялікі, а на свае каленькі — яшчэ маленькі.

Тыдзень назад я вырашыў, што я вялікі і магу ісці ў народ, а ў школу не хадзіць. Настаўніца сказала: «У яго ўзрост пераходны — са школы ў калонію». Бабуля кажа: «Ён сам не ведае, чаго хоча». А дзядуля сказаў, што трэба дажыць да шасцідзесяці, каб ведаць, чаго хоча наша моладзь.

А я што? Настаўніца сказала: «Вялікі вынаходнік Кулібін два класы скончыў».— «Клаўдзія Іванаўна, а вы што скончылі?» — «Інстытут».— «Ну і што вы вынайшлі?» Яна сказала, што я ўрок сарваў, і пабегла скардзіцца.

Праз паўгадзіны выклікае дырэктар: «Ты самы разумны, так?» — «Ах, ну што вы, якое глупства...» — «Ты хочаш быць дырэктарам замест мяне?» — «Дзякуй, я і так пасяджу». Ён засмяяўся: «Вось я цябе і перавыхаваў!»

Добра. Я маленькі. Я стаў свет пазнаваць, мне ўсё цікава.

Вось вы не ведаеце, што скажа кошка, калі яе намазаць шкіпінарам, а я ўжо ведаю. Вы не ведаеце, што ў сярэдзіне Зямлі, а я ведаю, я глобус разбіў. Няма там ніякага ядра, а толькі дзірка.

Я выпрабавальнік, я ўсё, што ні ёсць вакол, выпрабоўваю. Дзядуля сказаў, што ўсе вучоныя ў дзяцінстве жабянят рэзалі. А нядаўна я нашай настаўніцы чэрап разрэзаў кансервавым ножыкам. Гэта яе запасны, у шкапчыку стаяў. Настаўніца: «Нічога-нічога, ён яшчэ расце, потым ён вырасце і яго пасадзяць». А можа, у мяне прызванне? Можа, я мару хірургам стаць і каб яна да мяне лячыцца прыйшла.

Я, можа, нармальным чалавекам хачу быць. Вось вы бачылі, каб дарослы ў ланцужок па двое хадзіў і на дзяўчат не азіраўся? Яму ж напраўду лячыцца трэба. Гэта што — да шаснаццаці лечаць адных, а пасля — іншых?! Прыжыўляюць зубы, якія так добра вырвалі?!

Што вы да мяне прысталі, я раблю тое ж, што і вы, толькі ў іншым узросце. Вось хто-небудзь з вас ведае, у якім годзе была бітва на Калцы? А? І я не ведаю. Колькі вы мяне гэтай бітве ні вучыце.

Цяпер, калі я тыдзень не буду ў школу хадзіць, ведаеце, што мне будзе? Не ўгадаеце. Мяне яшчэ на тыдзень са школы выключаць. Усё. Каб у вас такое было, хто б з вас на працу хадзіў, падыміце рукі. Вось.

А што я розныя словы кажу, дык не я ж сам іх выдумаў. Я іх ад вас пачуў. Вось сябе і выхоўвайце. А я пайшоў.



Без слоў...

Мал. Яўгена ЦАРКОВА

